БІСМІ АЛЛАГІ АР-РАГМАНІ АР-РАГІМ

# БАЙРАМ

## ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

*Квартальнік*
*Беларускага згуртавання татараў-мусульман*

**"АЛЬ-КІТАБ"**

# №4

Менск 1995

*БІСМІ АЛЛАГІ АР-РАГМАНІ АР-РАГІМ*

# БАЙРАМ

## ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

КВАРТАЛЬНІК
БЕЛАРУСКАГА ЗГУРТАВАННЯ ТАТАРАЎ-МУСУЛЬМАН
«АЛЬ-КІТАБ»

№4

МЕНСК 1995

أعوذ بالله من الشيطان الرجيم
بسم الله الرحمـــن الرحيـــم

السلام عليكم ورحمة الله وبركاته

# Ассаляму алейкум, спадарыні і спадары, супляменнікі-татары, усе мусульмане !

Адбылася, дзякаваць Богу, доўгачаканая падзея – усур'ёз і надоўга абраны Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь . Дзяржава мае цяпер усе тры кропкі апоры – – Заканадаўчы орган, Выканаўчы орган, Судовы орган .

У Вярховным Савеце 12-га скліканння татары мелі добразычлівага апекуна – Ніла Сымонавіча Гілевіча . Ён дапамог татарам выдаць кнігу С. Думіна і І. Канапацкага " Беларускія татары : мінулае і сучаснасць ", якая паслужыць не аднаму пакаленню нашых супляменнікаў . Народны паэт Ніл Сымонавіч, высакародны і мудры, не адмовіць татарам у падтрымцы і цяпер, і ў будучыні .

Трыццатага верасня – дзень нараджэння народнага паэта і кожная татарская сем'я пашле ў думках нашаму заступніку найлепшыя пажаданні .

Пётр Кузьміч Краўчанка, які абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га скліканння, даў згоду прадстаўляць ў Заканадаўчым органе нашай краіны інтарэсы беларускіх татараў . Калі ні мясцовыя саветы, ні адміністрацыя не будуць вырашаць важныя для татарына пытанні , то тады звяр-тайцеся да спадара П.К. Краўчанкі – заступніка народа .

Даводзім да ведама татар, што Нацыянальная бібліятэка ( раней называлая Ленінская ) зрабіла фільмакопіі вельмі важных для нас кніг – Кітабаў, Тэфсіра, муллінскага Хамаіла . У гэтай жа бібліятэцы знаходзіцца 28 рукапісных кніг на арабскай, турэцкай і персідскай мовах 14-19 стагоддзяў, якія ўяўляюць вялікую цікавасць для вучоных-арыенталістаў . Гэтыя матэрыялы да паслуг усіх, у тым ліку і татар .

Адбылася яшчэ адна важная падзея – выхад у свет кнігі Новы Запавет і Псалтыр . Выданне здзейсніў ВЦ " Бацькаўшчына ". Упершыню ў Беларусі на роднай мове надрукавана Сьвятое пісанне ў перакладзе з царкоўнаславянскай прызнанага майстра, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Васіля Сёмухі. Фінансавую падтрымку для выдання кнігі аказаў доктар гісторыі , спадар Янка Запруднік ( ЗША ) . Пераклад зроблены з дабраслаўлення Найпачаснейшага Архіепіскапа Беларускай Аўтакефальнай Праваслаунай царквы .

На прэзентацыі гэтай кнігі , якая адбылася ў Нацыянальнай бібліятэцы, сярод выступоўцаў, вітаўшых гэту важную падзею, быў і віцэ-прэзідэнт " Аль-Кітаба " І. Канапацкі . Між іншым, ён сказаў пра тое, што наш прарок Мухаммед ( мір яму і міласць Аллага ) лічыў, што Таўра ( Стары Запавет ) і Інджыл ( Евангелле ) з'яўляюцца пасланнем Бога габрэйскаму і хрысціянскаму народу і гэтыя пасланні трэба шанаваць .

Пра нашыя цяжкасці гаварыць не будзем . Цяжкасці , як і дрэннае надвор'е, некалі пройдуць . Трэба маліцца і працаваць . Трэба спадзявацца на лепшае.

**Мір вам і міласць Аллага!**

---

Пішыце лісты на адрас па-руску :

**220086 , г. Минск , ул. Славинского , д. 21 , кв. 8.**

**Якубовскому Я.А.**

---

## ДАР З ПОЛЬШЧЫ

Беларускае згуртаванне татараў-мусульман перад Новым годам атрымала ад нашага добрага сябра з Польшчы — пана Рамуальда Рамазана Сабалеўскага тры кнігі на польскай мове. Гэта праца Алі Міськевіча "Татарская легенда" /Польскія татары ў 1945—1990/, Штогоднік польскіх татар за 1993 год і Штогоднік польскіх татар за 1994 год. Інфармацыя пра сённяшняе жыццё татар у Польшчы і ў далёкім мінулым надзвычай цікавая і карысная і для чытачоў нашага "Байрама".

Просім спадара Рамуальда Рамазана паразумецца з аўтарамі публікацый у гэтых кнігах і, калі на тое будзе іх згода, то цалкам ці часткова надрукуем у нашым квартальніку.

Мы разумеем, што кнігі дарагія, што пасылка іх на Беларусь перавышае выдаткі ў 10 разоў, а клопат пра нашых татар-мусульман неацаніма.

Рахмат Вам, сям"я Сабалеўскіх!

# КУР'АН

## СУРА АЛЬ-АНАМ - ЖЫВЁЛЫ

### ( ЗАКАНЧЭННЕ )

83. Толькі тыя, якія вераць, і тыя, каторыя не апранаюць сваю веру ў несправядлівасць, ім сапраўдная бяспека, і толькі яны – на простай дарозе.

84. Такі той доказ, што Мы далі Ібрагіму супроць ( нявер'я ) яго народа. Мы павышаем ступенямі тых, каго хочам. Сапраўды, твой Гасподзь мудры, ведае ўсё

85. І далі Мы яму ( Ібрагіму )Ісхака і Йакуба і ўсіх накіравалі верным шляхам. І раней Мы простую дарогу Нугу ўказалі, а з яго нашчадкаў – Дауду, Сулейману і Аййубу, і Юсуфу, і Мусе, і Гаруну, такім спосабам плацім Мы тым, хто робіць дабро.

86. І Закарыю, і Ях'і, і Ісе, і Ільясу, - яны ўсе – з ліку праведных.

87. І Ісмаілу, Аль-Йасу, Юнусу і Луту – іх ўсіх прыўзнялі Мы над светам.

88. І сярод іх бацькоў, і іх нашчадкаў, як і сярод іх братоў, выбралі некаторых і павялі да дарогі простай.

89. Гэта шлях Аллага, якім Ён вядзе, каго хоча з Сваіх слугаў. А калі б яны дадавалі Яму сатаварышаў, то ўсё, штоб ні зрабілі яны, пашло б на марна.

90. Гэта тыя, каму Мы далі Пісанне, мудрасць і прароцтва. Калі ж яны не паверацъ, Мы ( абавязкова ) гэта ўскладзём на іншы народ, які ў гэта ўсё паверыць.

91. Гэта былі тыя, якіх вёў Аллаг, а таму ідзі іх шляхам. Скажы :" Я не чакаю ад вас ніякай платы за яго ( за Кур'ан ). Гэта – толькі наказ сусветам.

92. Яны не шануюць Госпада належным чынам; вось, яны кажуць :" Бог ні аднаму чалавеку нічога ніколі не пасылаў зверху ". Скажы :" Хто Пісанне паслаў, з якім з'явіўся Муса, як са Святлом і кіраўніцтвам для людзей ? Яны ж ( поўны змест яго парушыўшы ) яго паказваюць на пергаментных аркушах, паказваюць адно і хаваць з яго другое. А па Пісанню навучаны вы таму, чаго ні вы, ні вашы продкі не ведалі". Скажы :" Аллаг ( яго нам паслаў ) ". А пасля пакінь іх забаўляцца ў ( грэшным ) пустаслоўі.

93. І гэта – Кніга, што табе Мы паслалі, Благаслаўлёна Намі. І ў пацверджанне пасланаму раней ( Тора і Евангелле ), каб ( ёю ) мог ты папярэдзіць маці гарадоў ( Мекку ) і ўсё, што вакол яе, і тых, хто верыць у другое жыццё і ў Кур'ан, і таксама прылежныя ў малітве.

94. А хто больш несправядлівы за таго, хто ману ўзводзіць на Аллага ці кажа : " Дадзена мне адкравенне ( ад Бога ) ", – тады як не было яно яму дадзена ? Або таго, хто гаворыць :" Я дам ( для вас ) падобнае таму, што зверху ( вам ) Аллаг дае.

О каб ты бачыў, якою безлічу мукі ахоплівае смерць усіх нечасціўцаў !
І скажуць анёлы з прасцёртымі рукамі :" Вымайце вашыя душы ! Сёння атрымаеце ганебнае пакаранне за тое, што вы казалі пра Бога ману і ганарыста ставіліся да Яго знаменняў !"

95. Вы вернецеся да Нас, пазбаўленыя ўсяго, - якімі вас Мы спачатку стварылі, і пакінуўшымі за сабою тое, чым вас Мы надзялілі . І не ўбачым Мы заступнікаў пры вас, якіх вы прыдумалі сабе як сатаварышаў ( Аллагу ). Перарваліся сувязі між вамі : схаваюцца ад вас тыя, каго вы прыдумалі .

96. Сапраўды, Аллаг выводзіць расток з зерня, з фінікавай костачкі , выводзіць жывое з мёртвага, і Ён ператварае жывое ў мёртвае. Гэта ваш Бог ! Як жа можаце быць вы безразсуднымі ( што ў баку ад ісціны Яго стаіце ).

97. Ён раскрывае ( неба ) раняшняй зарой ; Ён зрабіў ноч для адпачынку, а сонца і месяц - падстава для лічэння. Гэта - устанаўленне Таго, Хто мудры і магутны бязмерна.

98. Ён - Той, хто зоркі размясціў ( для нашых патрэб ), каб указываць нам шлях, калі на сухазем'і і на моры цемрадзь ( наступае ). Так тлумачым Мы знаменні Свае для тых, у кім веды жывуць.

99. Ён - Той, што з адной душы ( Адама ) вас утварыў , а пасля прыгатаваў вам пэўнае месца знаходжання і пэўнае месца захавання. Так тлумачым Мы знаменні Свае для тых, хто мае разуменне.

100. Ён з'яўляецца Тым, каторы спусціў з неба ваду, і дзякуючы ёй мы вырошчваем усялякія расліны, а з іх - зеляніну, а пасля - зерне, сабранае ў калоссі ; а з фінікавай пальмы бываюць гронкі фінікаў, якія нізка звісаюць ; выводзім і вінаграднікі ,і аліўкавыя дрэвы, і дрэвы граната, падобныя паміж сабою і не падобныя. Паглядзіце, на іх плады, калі яны паспяваюць ! Сапраўды, у гэтым знакі для людзей, якія вераць !

101. І ўсё ж ставяць яны джынаў з Богам нароўні , хоць Ён сам жа стварыў іх. Яны ілжыва прыдумалі для Яго сыноў і дачок без усякага на тое пазнання. Хвала Яму ! Найвышэй Ён усяго таго, што Яму прыпісываюць !

102. Ён стваральнік неба і зямлі ; адкуль будуць ў Яго дзеці , калі у Яго не бывала сяброўкі ? Ён стварыў ўсё, і Ён ведае ўсё .

103. Такі Аллаг, Уладыка ваш ! Іншых багоў, акрамя Яго, не існуе. Стваральнік усяго, што існуе ( у свеце ). Дык пакланяйцеся ж Яму ! Ён, сапраўды, - апякун усіх стварэнняў.

104. Не бачыць Яго чалавек, Яго ж зрок абдымае ўсё. Ён ведае аб усім, што існуе.

105. Вам дадзена ўжо празорлівасць Госпадам вашым. Хто бачыць ясна, той бачыць для душы сваей ; а хто сляпы, сабе на шкоду ( не бачыць ). Я не з'яўляюся для вас сторажам.

106. Так, Мы па-рознаму тлумачым Свае знаменні, каб маглі яны сказаць :" Ты ( у іншых гэтаму ) навўчыйся !" і каб мы маглі высветліць людзям, каторыя ведаюць.

107. Ідзі за тым, што адкрыта табе Госпадам тваім, акрамя Яго няма іншага Бога; адыдзіся ад многабожнікаў.

108. І калі б пажадаў Бог, то не былі б яны многабожнікамі . Мы не ставілі цябе ахоўнікам іх ; ты не апякун над імі .

109. Не прыніжай тых, каторыя шануюць іншае, акрамя Бога ; каб і яны па варожасці і неразумнасці не сталі зневажаць Бога. Так Мы кожнаму з народаў упрыгожылі яго справу. З часам для іх надыйдзе пара вяртання да Госпада іх. Тады Мы ясна назавём тое, што яны зрабілі .

110. І яны Богам пакляліся адной з самых найважнейшых клятваў, што, калі б ім прыйшло знаменне, яны б уверавалі ў Яго. Скажы :" Знаменні ўсе – ва ўладзе Бога, але хто б мог вам ( верным ) даць зразумець, што нават, калі б знаменні прыйшлі , у іх усё роўна не ўверавалі б яны !"

111. Мы сканфузім сэрцы і вочы, бо не паверылі яны спачатку , і Мы пакінем іх, каб яны блукалі ў граху іх.

112. І нават калі б Мы паслалі да іх анёлаў, і калі б мёртвыя загаварылі , і калі б Мы сабралі ўсё перад вачыма іх, не паверацъ яны, калі не будзе на тое воля Боская, але большасць з іх паводзіць сябе як несвядомыя.

113. І падобна таму стварылі Мы для кожнага прарока злога ворага з асяроддзя людзей і д'яблаў, якія адзін другому прыўкрашанымі словамі сеюць ашуканства. Але калі б захацеў твой Гаспадзь, то яны гэтага не ўчынілі б, дык пакінь іх з тым, што яны выдумляюць..

114. Няхай да іх схіляюцца сэрцы такіх, хто ў будучае жыццё не верыць ; і няхай задавоцяцца імі , і няхай прыдбаюць тое, што хочуць прыдбаць.

115. ( Скажы :) " Ці ж пажадаю я іншага суддзю , акрамя Бо[illegible]а ?" Бо гэта – Ён, хто паслаў для вас ясна напісаную Кнігу. І ведаюць тыя, каму дадзена Пісанне , што ў ісціне твайго Уладыкі яна дадзена табе. А таму не будзь з тых, якія сумняюцца ў гэтым.

116. Слова Госпада твайго дасканалае па сваей ісціннасці і праўдзе ; ніхто не можа замяніць слоў Яго : таму што Ён усё чуе і ведае !

117. Калі паслухаем большасць тых, каторыя ёсць на зямлі , то яны звядуць цябе з дарогі Бога. Бо ідуць яны толькі за сваімі выдумкамі і сваімі меркаваннямі.

118. Гаспадзь твой лепш ведае тых, хто адхіліўся ад Яго шляху, і тых, хто ідзе дарогай простай.

119. Ешце тое, над чым было вымаўлена імя Аллага, калі вы верыце ў знаменні Яго.

120. І чаму ж вам не есці тое, над чым упомнена Гасподняе імя, калі Ён ясна ўказаў, што не дазволена вам у ежу, калі да гэтага не прымусяць вас. І сапраўды, многія зводзяць са шляху ( сябе і вас ) страсцямі , не стрыманымі пазнаннем. Сапраўды, Уладыку твайму лепш вядомы тыя, хто ( дазволеныя межы ) пераступае.

121. І пазбягайце як яўных грахоў, так і тайных. Сапраўды, тыя хто служыць граху, атрымаюць пакаранне па заслугах сваіх.

122. І не ешце таго, над чым не было слова Аллага, бо, сапраўды, гэта - непаслушэнства. І, безумоўна, крывадушныя падбухторваюць сваіх сяброў спрачацца з вамі . І калі вы падпарадкоўваецеся ім, сапраўды, становіцеся многабожнікамі .

123. Ці можа той, хто быў мёртвы, і каму далі Мы жыццё, і запалілі для яго святло якое асвятляе шлях яго сярод людзей, - быць падобны да таго, хто знаходзіцца ў поўнай цемры, з якой няма выйсця ? Так і няверным здаецца добрым усё тое, што чыняць яны.

124. Як у гэтым ( горад Мекка ) і ў іншых гарадах Мы паставілі кіраўнікамі з асяроддзя грэшнікаў, якія знаходзіліся ў поўнай несвядомасці , у выніку чаго яны снуюць там свае падкопы, але толькі пад саміх сябе, не разумеючы чаго.

125. І калі з'яўляецца ім знаменне, яны кажуць :" Мы не паверым, пакуль не будзе нам дадзена тое ж, што было дадзена пасланнікам Аллага ". Бог найлепш ведае, дзе мае обвясціць Сваё пасланне. Тых, якія згрэшылі , чакае ўніжэнне перад Богам і суровая кара спасцігне гэтых злачынцаў за гэтыя падкопы.

126. Каго захоча Бог паставіць на простую дарогу, таго сэрца Ён адкрые для пакорнасці ; а калі захоча адхіліць ад шляху, таму Ён грудзі сцісне, як быццам чалавек хоча ў нябёсы ўзняцца. Такой ганебнай карай пакарае Бог усіх тых, хто не верыць.

127. І гэта - шлях Уладыкі твайго, Які вядзе дарогай простай. І растлумачылі Мы знаменні Свае ўсім тым, хто належным чынам разумее.

128. Для іх - жыллё з Уладыкам, і Ён ім Апякун за працу іх.

129. І ў Дзень, калі Ён збярэ іх усіх ( Ён скажа : ) " О сонм джынаў ! Вы многага патрабавалі ад гэтых людзей ! І сябры джынаў з людзей скажуць :" Уладыка наш, мы мелі карысць адзін ад аднаго, але цяпер мы дасягнулі тэрміну, які Ты прызначыў для нас ". І скажа Ён :" Агонь - вашае жыллё, дзе будзеце вы знаходзіцца, калі Аллаг не захоча зрабіць інакш ". Сапраўды, Гасподзь твой мудры і ведае ўсё.

130. І , падобна гэтаму, Мы ставім адных грэшнікаў над другімі ў адпаведнасці з тым, што яны заслужылі .

131. " Сонм джынаў і людзей ! Няўжо не прыходзілі да вас пасланнікі з вас саміх, што перадавалі вам знаменні Нашы і паведамлялі аб прыходзе да вас гэтага Дня ?" Яны адкажуць :" Мы, сапраўды, сведкі гэтаму сабе на пагібель !" І спакуса гэтага жыцца ашукала іх. І будуць яны сведчыць супроць саміх сябе ў тым, што былі яны няверныімі .

132. І будзе гэта так, бо не хацеў Уладыка твой разбураць гарады, жыхары якіх не атрымалі папярэджання.

133. І кожнаму – тая ступень ( міласці або кары ), што адпавядае яго ўчынкам, і Уладыка твой ведае справы іх.

134. Гасподзь твой багаты, поўны літасці ; але калі Ён захоча, то знішчыць вас і заменіць вас іншым , якімі пажадае, так жа, як Ён зрабіў вас, – нашчадкаў іншага народа.

135. Тое, што пагражае вам, сапраўды настане, і вам гэта не адхіліць.

136. Скажы :" Народ мой ! Дзейнічай па сваім душэўным настроі , я буду дзейнічаць па сваім ... Хутка даведаецеся, каму будзе ўзнагародай канчатковая сядзіба ! Сапраўды, несправядлівыя не пазнаюць шчасця !"

137. Яны прызначылі для Аллага частку ўраджаю і частку жывёлы, якіх даў Ён, і кажуць :" Гэта для Аллага, – як уяўляюць яны, – а гэта – для ідалаў нашых". Але тое, што для іх ідалаў, не дасягае да Аллага, тады як тое, што для Аллага, даходзіць да іх ідалаў . Якое ж дрэннае іх разуменне !

138. Адпаведна гэтаму іх сатаварышчы фальшыва прыхарошваюць многіх язычнікаў на загубу дзяцей, каб іх загубіць і выклікаць смуту ў веры. Але каб захацеў Бог, то яны б гэтага не ўчынілі ! Дык пакінь іх і тое, што яны выдумляюць !

139. І кажуць яны таксама :" Такія жывёлы і такое збожжа – забаронены : ніхто не можа ўжываць іх у ежу, акрамя тых, каму яны дазволены ", – так запэўніваюць яны – і есці жывёлу, хрыбты якіх забаронены ( для язды і перавозкі грузаў ), і есці жывёлу, над якой не прызвана імя Аллага, выдумляюць ману на Аллага. Скора Ён заплоціць ім за тое, што яны выдумлялі !

140. І кажуць яны :" Тое, што ёсць у чрэве такой жывёлы, выключна прызначаны для нашых мужчын, і забаронена для нашых жанчын ; але, калі яно народжана мёртвым, тады ўсе могуць ужываць яго ў ежу. Неўзабаве заплоціць ім Ён за тое, што яны апісваюць. Ён мудры, ведае аб усім !

141. Тыя, якія забіваюць сваіх дзяцей, панеслі страту праз сваю неразумнасць і праз несвядомасць : лічуць забароненым тое, што Бог дае ў ежу ім, па сваей выдумцы пра Бога : яны зблудзілі , яны ідуць не па простым шляху.

142. І гэта Ён, хто выгадаваў сады ( з вінаграднай лазы ), што на падпорках ( выцягнуліся ўверх ), ці без падпорак ( сцелюцца па зямлі ), і фінікі, і нівы, з рознай збажынаю, і аліўкавыя і гранатавыя дрэвы, падобныя і непадобныя адны на другія. Частуйцеся ад пладоў кожнага з іх, калі яны даюць ураджай, але аддавайце Яму пэўнае ў дзень збору ўраджаю і не будзьце марнатраўцамі . Сапраўды, Ён не любіць марнатраўцаў !

143. І стварыў Ён адных жывёл для перавозкі ( грузаў і людзей ), а іншых для таго, каб даць вам ежу, дык спажывайце тое, што вам дазволіў Бог, не ідзіце па слядах шайтана, бо ён вам відавочны вораг.

144. ( Вазьміце ) парамі восем галоў жывёлы : Двое - з авечак і двое з козаў. Цяпер скажыце :" Ён забараніў вам двух самцоў ці двух самак ? Ці тое, што ( усё яшчэ ) у чрэве самак ? Скажыце мне з упэўненасцю пра тое, калі вы ( у вашых словах ) праўдзівыя.

145. Пару вярблюдаў і пару кароў. Цяпер скажыце :" Ён забараніў вам двух самцоў або двух самак ? Або тое, што ( усё яшчэ ) у чрэве самак ? І ці былі вы сведкамі таму, калі Аллаг вам гэта вызначыў ? І ці ёсць больш нечасцівы за таго, хто ману ўзводзіць на Аллага, каб звясці з Божага шляху тых, хто знаходзіцца ў няведанні ? Аллаг, сапраўды, не вядзе дарогай простай людзей несправядлівых .

146. Скажы :" У тым, што было адкрыта мне, не знаходжу я нічога забароненага для таго, хто хоча спажываць гэта, акрамя мерцвячыны ці крыві , якая выцякла, або свінога мяса, - бо ўсё гэта не чыстае, - або тое , што стала брыдотай, гэта значыць на што было вымаўлена іншае імя, чым імя Аллага. Каго ж ( зямныя цяжкасці да гэтай ежы ) змусяць без нечасцівасці і свавольнага непаслушэнства, - то, сапраўды, Гасподзь літасцівы і прабачыць !"

147. І іудзеям забаранілі Мы ўсіх жывёл з кіпцюрамі ; забаранілі Мы ім тлушч кароў і авечак, акрамя тлушчу, што на хрыбце і вантробах, а таксама таго, што змяшана з іх касцямі . Гэта ёсць адплата Наша ім за іх непакору . І, сапраўды, Нашы словы праўдзівыя.

148. Калі яны лічаць цябе абманшчыкам, то скажы :" Уладыка ваш напоўнены бязмернай літасцю ; і Яго моцы не адхіліць ад народу грэшнага ".

149. Будуць казаць тыя, каторыя дадавалі сатаварышаў :" Калі б Бог пажадаў, то не дадавалі б сатаварышаў нашы бацькі і не маглі б мы зрабіць нічога беззаконнага ". Падобна гэтаму ў мане абвінавачвалі пасланнікаў Аллага, пакуль не адведалі яны Нашага гневу. Скажы :" Ці маеце якіясці веды ? Пакажыце іх нам ! Вы кіруецеся толькі пустымі меркаваннямі . І нічога не робіце вы, толькі выдумляеце няпраўду !"

150. Скажы :" У Бога яснае сведчанне ( усяму ), і каб Ён пажадаў таго, Ён усіх бы вас простым шляхам накіраваў ".

151. Скажы :" Прывядзіце сведкаў вашых, якія пацвердзяць, што гэта забараніў Аллаг ". Калі яны засведчаць, не сведчы ты з імі і не ідзі з тымі , якія за ману лічаць знамені Нашы і ў будучае жыццё не вераць, - яны шукаюць роўных Уладыку свайму.

152. Скажы :" Прыдзіце, я прачытаю вам, што забараніў Уладыка ваш : а менавіта, каб не дадавалі вы нічога, як роўнага Яму, былі добрымі да бацькоў, не забівалі дзяцей сваіх з прычыны беднасці - Мы паклапоцімся аб вас і іх, - і не чынілі дрэнных спраў адкрыта ці тайна, і каб не адбіралі вы жыццё, якое Бог забараніў забіваць, акрамя як па праву. І гэта - тое, што Ён вам загадаў, каб вы уразўмелі гэта.

153. І не чапайце маёмасці сірот, акрамя як на карысць ім, пакуль не дасягнуць сталага ўзросту. Са справядлівай дакладнасцю мерце і ўзважвайце. Мы не абцяжарваем ні адну душу больш за здольнасць яе. І калі вы гаворыце, будзьце справядлівымі , нават у адносінах з раднёй, і выконвайце запавет Аллага. Вось гэта Ён загадаў , каб вы помнілі .

154. Гэта - Мой шлях, які вядзе проста. Дык ідзіце па ім і не раздзяляйцеся па другіх шляхах ( блукаючы ), удалечыні ад ( ісціны ) Яго шляху. І гэта - тое, што Ён вам запаведаў, можа вы ахаваеце сябе ад зла.

155. Пасля далі Мы Мусе Кнігу, завяршаючы благаваленне Нашае таму, хто тварыў дабро, і тлумачыць усё неабходнае, і як настаўленне і міласць, - каб маглі яны паверыць, што будуць пастаўлены перад Уладыкам.

156. І гэта - Кніга, што Мы паслалі вам - дар бласлаўлёны. Дык кіруйцеся ею і гневу Божага бойцеся, каб атрымаць міласць.

157. І каб не гаварылі вы, што :" Кніга паслана да нас толькі двум народам. І мы не дбалі аб тым, што яны пільна вывучалі ".

158. І каб не гаварылі :" Калі б нам была паслана Кніга, то былі б на дарозе простай, а не яны ". І вось ужо з'явілася да вас знаменне яснае ад вашага Уладыкі , і кіраўніцтва ( ад Яго ), і міласць. Дык ці ёсць больш нячасцівы за таго, хто фальшывымі палічыць знаменні Аллага і адвернецца ( у бок ) ад іх ? Мы тых , хто адвярнуўся ад Нашых знаменняў, сурова пакараем за іх адступніцтва .

159. Няўжо яны чакаюць, што анёлы з'явяцца перад імі , або нават Сам Уладыка твой ? Або з'явяцца пэўныя знаменні твайго Уладыкі ? У той Дзень, калі будзе знаменне ад твайго Госпада, не дапаможа душы тваей вера, калі не паверылі перад гэтым і не зрабіла добрых спраў . Скажы ( ім ) :" Чакайце ! Будзем чакаць і мы !"

160. Што ж датычыцца тых, каторыя раздзяляюць веру сваю і падзяляюцца на розныя кірункі , у цябе няма нічога агульнага з імі . Сапраўды, падлягае справа іх суду Аллага, і тады Ён скажа ім аб тым, што тварылі яны.

قُلْ اَغَيْرَ اللّٰهِ اَبْغِىْ رَبًّا وَّهُوَ رَبُّ كُلِّ شَىْءٍ ؕ وَلَا تَكْسِبُ
كُلُّ نَفْسٍ اِلَّا عَلَيْهَا ۚ وَلَا تَزِرُ وَازِرَةٌ وِّزْرَ اُخْرٰى ۚ
ثُمَّ اِلٰى رَبِّكُمْ مَّرْجِعُكُمْ فَيُنَبِّئُكُمْ بِمَا كُنْتُمْ فِيْهِ
تَخْتَلِفُوْنَ ﴿١٦٥﴾
وَهُوَ الَّذِىْ جَعَلَكُمْ خَلٰٓئِفَ الْاَرْضِ وَرَفَعَ بَعْضَكُمْ
فَوْقَ بَعْضٍ دَرَجٰتٍ لِّيَبْلُوَكُمْ فِىْ مَاۤ اٰتٰىكُمْ ؕ اِنَّ رَبَّكَ
سَرِيْعُ الْعِقَابِ ۖ وَاِنَّهٗ لَغَفُوْرٌ رَّحِيْمٌ ﴿١٦٦﴾ ع ٢٠ النصف

Кур'ан . Сура Аль-Анам, аяты 165 і166.

161. Той, хто ўчыніў добрую справу, атрымае ў дзесяць разоў больш ; але ўчыніўшы зло атрымае толькі ў поўнай меры ; і не будўць яны пакрыўджаны.

162. Скажы :" Што датычыцца мяне, Уладыка мой накіраваў мяне на просты шлях - правільную веру, веру Ібрагіма, праведніка. І не быў ён з тых, якія да Госпада іншых багоў не заклікаў ".

163. Скажы :" Сапраўды, мая малітва , мая павіннасць на Госпадняй службе, усё жыццё маё і мая смерць - усё ( безраздзельна ) у Аллага, Госпада сусвету

164. ' Яму няма роўнага. Так загадана мне, і першы я з тых, хто падпарадкоўваецца ".

165. Скажы :" Ці ж буду я шукаць іншага Уладыку акрамя Аллага, калі Ён Уладыка ўсяго ?" І ні адна душа не дзейнічае як толькі супроць самой сябе ; і абцяжараны бярэмям не нясе бярэмя нікога іншага. І вернецеся вы да Уладыкі вашага, і Ён скажа вам пра тое, аб чым вы спрачаліся.

166. І гэта - Ён, хто зрабіў вас жыхарамі гэтай зямлі : Ён узвысіў вас адных перад другімі па ступенях, каб выпрабаваць вас тым, што Ён даў вам. Сапраўды, Уладыка твой не марудзіць з пакараннем ; і , сапраўды, Ён Усёдаравальны, Міласэрны.

# НАШ ІСМАІЛ-АГА

Беларускае згуртаванне татараў-мусульман " Аль-Кітаб " на працягу ўжо амаль шасці гадоў атрымлівае магутны паток чалавечай энергіі , дабрыні , якая ідзе ад нашага старшага брата, адзінаверца Ісмаіла Ісмаілавіча Меметава. Тут мы друкуем кароткія звесткі пра жыццё і дзейнасць нашага выдатнага грамадскага і культурнага дзеяча, каб ведалі пра яго ўсе, хто чытае часопісы " Байрам ", " Аль-Іслам ", газеты крымскіх татар.

Нарадзіўся 12 лютага 1916 года ў сям'і Сейтмемета аглы-Ісмаіла і Маміне - дачкі Халіля ў сяле Буюк-Каралёз Бахчысарайскага павета на Крымскай зямлі . Дом, дзе нарадзіўся і жыў да 1930 г. Ісмаіл ужо не існуе, на яго месцы стаіць электратрансфарматарная будка. Роды ў матулі прымала Айше-эбанай ( бабка-павітуха ). Азан даваў імам Кемаледзін, які быў раскулачаны і выселены з Крыма ў 1928 годзе. У бацькоў Ісмаіла былі яшчэ дзеці - сын Сетвельша, старэйшы ; дачкі Джэваір і Зейнеп.

Сетвельша, Джэваір і бацька памерлі ў канцы 1920 - пачатку 1921 г. ад голаду і хвароб. Мусульманскія малітвы запамятаваў з вуснаў маці , першымі з іх былі суры Аль-Іхляс, Аль-Фаляк і Аннас.

У родным сяле скончыў 5 класаў, працягваў вучобу ў Сімферопалі . Рана пачаў выконваць хатнюю работу - рыхтаваць дровы, насіць ваду, вырошчваць агародніну і садавіну.

Ісмаілу пашчасціла вучыцца ў добрых настаўнікаў, большасць імён якіх ён памятае і цяпер. Жывуць у яго памяці сябры з сельскай школы і з дзесяцігодкі ў Сімферопалі . З некаторымі з іх сустракаўся, ды і цяпер падтрымлівае перапіску.

Добра падрыхтаванага юнака, які паказаў вялікія здольнасці пры навучанні матэматыкі , роднай крымскататарскай мове, гісторыі , які пісаў вершы, маляваў, іграў на народных інструментах накіравалі на культмасавую работу, хоць яму хацелася працягваць вучобу па спецыяльнасці гісторыя. Неўзабаве яго запрасілі на вучобу ў Камвуз у Сімферопалі . Закончыўшы вучобу, ён працаваў спачатку інструктарам, пасля загадчыкам аддзела, а затым другім сакратаром райкома камсамола. У 1937 г. стаў чырвонаармейцам, служыў на Далёкім Усходзе. Добра адукаваны, ён стаў у камандзірскім вучылішчы не столькі курсантам, як выкладчыкам. Выступаў з лекцыямі перад моладдзю на розных прадпрыемствах Хабараўска. Пасля заканчэння вучобы служыў у Хабараўску ў гарнізоне, вучыўся у ваеннай акадэміі .

Камандзір-дэсантнік пазнаёміўся і ўтварыў сям'ю з Ганнай Рыгораўнай з Браншчыны. Была вельмі прыгожай дзяўчынай, падобнай на татарку. На Далёкім Усходзе ў Ганны і Ісмаіла нарадзіўся сын Энвер ( памёр у 1974 г. ). Джафер і Алег нарадзіліся пасля вайны на Беларусі , пажаніліся і выгадавалі сваіх дзяцей. А наогул у Ісмаіла Ісмаілавіча тры нявесткі ( старэйшага сына - удава ), 3 унукі 3 унучкі , 2 праўнукі і 1 праўнучка.

Да 1942 г. служыў на Далёкім Усходзе. Прымаў удзел у вайне з японцамі на Халхінголе. Была небяспека, што ў любы момант могуць пачацца баі з японцамі. Пасля перападрыхтоўкі яго з дэсантніка перакваліфікавалі на камандзіра-танкіста. Камандаваў танкавай ротай сярэдніх танкаў Т-34, батальёнам. Удзельнічаў у вялікай аперацыі " Баграціён " у вызваленні Беларусі і Прыбалтыкі. Быў некалькі разоў паранены, асколкі ў целе засталіся і цяпер. Пасля паездкі на Урал за танкамі і танкавымі экіпажамі Ісмаіл Ісмаілавіч быў накіраваны пад Жытомір, дзе фарміраваўся другі танкавы корпус Войска Польскага. У складзе гэтага корпуса вызваляў Польшчу, удзельнічаў у баях на тэрыторыі Германіі.

Пасля вайны некалькі гадоў вучыў польскіх танкістаў, затым да выхаду ў адстаўку служыў у Беларускай ваеннай акрузе.

Нягледзячы на ўдзел у ваенных аперацыях, баявыя ўзнагароды, узорную службу і ўзорны танкавы батальён, нягледзячы на шматразовыя прадстаўленні па службе, Ісмаілу Ісмаілавічу як крымскаму татарыну шлях да звання палкоўніка быў закрыты.

Пасля заканчэння вайсковай службы Ісмаіл Ісмаіловіч выдатна працаваў на грамадзянскай службе. На Беларусі высока цанілі яго работу, ён займаў грамадскія пасады, але ў Маскве не зацвердзілі прадстаўленне аб узнагародзе яго ордэнам.

Ісмаіл Ісмаіловіч не хаваў і не хавае тое, што ён крымскі татарын. Ён ганарыцца тым, што належыць да гэтага народа. Крымскія татары, амаль усе, каго можна было мабілізаваць, прымалі ўдзел у Вялікай Айчыннай вайне. Вельмі многія былі ўзнагароджаны баявым ўзнагародамі, некаторыя атрымалі званне Герой Савецкага Саюза. Шмат крымскіх татар загінула, шмат было паранена.

У час дэпартацыі крымскіх татар і ўтрымення іх на месцы высылкі фактычна ва ўмовах лагера, памерла амаль 40% татар. Маці, айчым і сястра таксама аказаліся ў высылцы. Можна ўявіць сабе, што адчуваў удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, паранены чалавек, у якога фактычна ў турме аказаліся ўсе блізкія. І гэта доўжылася да смерці Сталіна, доўжылася многа гадоў. На паперы ўлады СССР прызналі, што крымскія татары, як і іншыя народы, якія пацярпелі ў гады таталітарнага рэжыму, прызнаны не вінаватымі ў прыпісаных ім злачынствах, але фактычна ім цяжка вярнуцца на радзіму ў Крым, іх маёмасць і зямля разрабаваны.

Сярод беларускіх татараў-мусульман Ісмаіл Ісмаіловіч знайшоў людзей, якія шануюць яго, з увагай слухаюць пра тое, што ён ведае пра гісторыю свайго народа. Ісмаіл Ісмаіловіч надрукаваў у " Байраме " і " Аль-Исламе " амаль 30 артыкулаў, кароткі беларуска-крымскататарскі і крымскататарска-беларускі слоўнікі. Ісмаіл Ісмаіловіч абраны членам праўлення " Аль-Кітаб ". Ён удзельнічае ў перадачы беларускім татарам народнай музыкі крымскіх татар.

---

**Пералік артыкулаў Меметава Ісмаіла Ісмаілавіча надрукаваных у квартальніку " Байрам " за 1991–1995 г.г.**

1. Выдатны сын крымскататарскага народа. " Байрам ", 1991, №1, с. 10-14.

2. Мазаіка тых часоў. " Байрам ", 1991, №1, с. 31-37.
3. У дзень памяці ахвяр чарнобыльскай катастрофы. " Байрам ", 1991, №№ 2-3, с. 13-15.
4. Усё тайнае становіцца яўным. Трэба толькі цярпліва чакаць. " Байрам ", 1991, №№ 2-3, с. 68-70.
5. Беларуска-крымскататарскі слоўнік. " Байрам ", 1991, №№ 2-3, с. 71-76.
6. Верш Я. Якубоўскага " Мы з імамам жывём на зямлі Беларусі ". На крымскататарскую мову пераклаў І. Меметаў. " Байрам ", 1991, № 4, с. 55-57.
7. Беларуска-крымскататарскі слоўнік. " Байрам ", 1991, № 4, с. 59-63.
8. Беларуска-крымскататарскі слоўнік. " Байрам ", 1992, № 1, с. 61-66.
9. Беларуска-крымскататарскі слоўнік. " Байрам ", 1992, № 2, с. 75-78.
10. Беларуска-крымскататарскі слоўнік. " Байрам ", 1992, № 3, с. 67-71.
11. Беларуска-крымскататарскі слоўнік. " Байрам ", 1992, № 4, с. 75-79.
12. Беларуска-крымскататарскі слоўнік. " Байрам ", 1993, №№ 1-2, с. 87-92.
13. Беларуска-крымскататарскі слоўнік. " Байрам ", 1993, № 3, с. 92-97.
14. Беларуска-крымскататарскі слоўнік. " Байрам ", 1993, № 4, с. 91-95.
15. Беларусь мне ведама з 1944 года : тут давялося мне ваяваць і жыць ( расказ крымскага татарына. " Байрам ", 1994, № 2, с. 19-22.
16. Крымскататарска-беларускі слоўнік. " Байрам ", 1994, № 4, с. 112-119.
17. Польшча ў другой сусветнай вайне. " Байрам ", 1995, № 1, с. 21-27.
18. Крымскататарска-беларускі слоўнік. " Байрам ", 1995, № 1, с. 91-94.
19. Крымскататарска-беларускі слоўнік. " Байрам ", 1995, № 2, с. 71-76.
20. Крымскататарска-беларускі слоўнік. " Байрам ", 1995, № 3, с. 57-63.

## Список публикаций Меметова Исмаила Исмаиловича, опубликованных в разные годы в изданиях белорусских татар-мусульман.

1. Это моё мнение ( ответ брату ). " Аль-Ислам ", 1994, № 3, с. 57-63.
2. Где вы, дорогие мои братья, односельчане, земляки ? " Аль-Ислам ", 1994, № 4, с. 42-46.
3. Память. " Аль-Ислам ", 1995, № 4, с. 20-24.
4. Кто мне ответит ? " Аль-Ислам ", 1995, № 4, с. 37-40.
5. Судьбы людские. " Аль-Ислам ", 1995, № 6, с. 29-33.
6. Обращение к депутатам Верховного Совета Автономной Республики Крым. " Аль-Ислам ", 1995, № 7, с. 32.
7. Почему Грач каркает ? " Аль-Ислам ", 1995, № 8, с. 31-35.
8. В Беларуси никто не упрекал меня за то, что я крымский татарин. Тематический сборник " Крымские татары 1944-1994 ", Минск 1994, с. 55-57.
9. Как я нашёл своих родителей в местах насильственного выселения. Сборник " Крымские татары ", с. 93-99.
10. ( Эно Хор Ве Акъсыз Миллетке ) Къырымтатарлар - Крымские татары. Сборник " Крымские татары ", с. 144-145.
11. Открытое письмо президенту Ельцину Б.Н. , президенту Кравчуку Л.М., председателю Верховного Совета Республики Беларусь Грибу М.И. " Рамазан ", 1994, с. 75-76.

# Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны Браніслаў Александровіч расказвае

Да Першай сусветнай вайны наша сям'я жыла ў Менску, мела сваю зямлю, дом і гаспадарку. Незадоўга перад вайной бацька купіў маёнтачак каля Фаніпаля, у якім было 40 дзесяцін зямлі, дом і іншыя будынкі. Пра тое, як нам жылося ў вайну, пра вайну і рэвалюцыю, грамадзянскую вайну, пра жыццё наша ў бежанстве, службу бацькі ў Чырвонай Арміі, смерць нашай маці, жыццё нашае ў прыюце, вяртанне на радзіму ў Беларусь я раскажу іншы раз.

Ішлі гады. Працаваў на зямлі, на 7 дзесяцінах, якія дасталіся нам ад нашага маёнтачка. Служыў у Чырвонай Арміі. Пазнаёміўся і пабраўся з Галінай з Якубоўскіх ( няхай маёй жонцы будзе рай светлы ), гадавалі дзяцей. Ліме перад Вялікай Айчыннай вайной было 12 гадоў, а сыну Сцяпану 2 гады. Ужо пасля вайны нарадзілася ў нас дачушка Айша, якая стала мастачкай, членам Саюза мастакоў Беларусі. Трэба сказаць, што пасля жаніцьбы я жыў з маёй Галінай ва Уздзе. Яна была вельмі клапатлівай маці, добрай гаспадыняй, як ніхто іншы ў той час добра ведала ўсё тое, што павінна ведаць мусульманка - звычаі, малітвы, чытала Хамаіл, Кур'ан, пасцілася ў святы месяц Рамазан.

Я працаваў на спіртзаводзе. У нас быў свой дом. Трымалі карову, каб для дзяцей было малако. А калі ёсць хлеб і малако, то з голаду не памрэш, жыць можна.

Калі пачалася вайна, была абвешчана мабілізацыя. Перад мужчынамі выступіў ваенны камісар. У гэты час прыйшла трывожная вестка: немцы каля Зенькавічаў, а гэта за 5 км ад Узды. Ваенком нас распусціў, а сам са сваімі падуладнымі на спіртзаводаўскім грузавіку некуды паехаў.

У час акупацыі я апрацоўваў некалькі гектараў зямлі, меў карову, каня. Сяк-так жылі ў вялікім страху і страшэннай беднасці. Чакалі вяртання Чырвонай Арміі. 29 чэрвеня 1944 г. партызаны 300-й брыгады імя Варашылава ўвайшлі ў мястэчка і ўтрымлівалі яго да падыходу 4 ліпеня Чырвонай Арміі. Як я даведаўся пазней, гэта была 37-я гвардзейская стралковая дывізія 65-й арміі Першага Беларускага фронту.

5 ліпеня 1944 г. палявы ваенкамат мабілізаваў нас у Чырвоную Армію. Сярод мястэчкоўцаў і сялян з навакольных вёсак былі і татары. Тых, хто ўжо раней служылі ў войску, адразу паставілі ў строй і 10 ліпеня я ўжо прымаў удзел у вызваленні Слоніма. Я быў у 96-й Гомельскай дывізіі, якой камандаваў Булатаў, казанскі татарын, а камандаваў палком Мамонаў. Пад Востравам Мазавецкім на тэрыторыі Польшчы 24 жніўня 1944 г. я быў цяжка паранены ( асколак у назе нашу і цяпер ). Лячыўся ў шпіталі да новага года ў Брэсце. Прадстаўнік Другой танкавай арміі сказаў пастроіць тых, хто ўжо мог стаяць, каб ўзяць пад ружжо.

Я стаяў правафлангавым , меў баявы выгляд, у дагледжанай форме. Калі даведаліся, што я куляметчык ( а я быў куляметчыкам і да вайны, добра ведаў кулямёт Дзегцярова і Максіма ), дык узялі мяне ў танкісты і быў я прызначаны лабавым стралком у танку Т-34.

З баямі дайшоў да Берліна і каля горада быў вельмі цяжка паранены. Калі наш танк загарэўся, мы неяк паспелі выскачыць з палаючай машыны. Я быў паранены ў галаву, аслеп на адно вока і цудам застаўся жывы. Відаць дапамагла малітва маёй Галі .

Даволі хутка мяне падлячылі і зноў працягваў службу, праўда ўжо не куляметчыкам, а на гаспадарчай рабоце, у маёнтку нейкага нямецкага пана, дзе такія як і я параненыя і кантужаныя ў баях салдаты даглядалі жывёлу, збіралі ўраджай, каб карміць нашых салдат, ну і саміх сябе.

У канцы 1945 года мяне дэмабілізавалі . Маю больш за 20 баявых і юбілейных узнагарод, але найдаражэйшай узнагародай для мяне з'яўляецца падзяка, падпісаная Г.К. Жукавым - Маршалам Савецкага Саюза.

Пасля вайны працаваў на спіртзаводзе, як і да вайны. Прыйшлося перажыць і крыўду. Не заўсёды тыя, хто намі кіравалі , спачувалі ўдзельнікам вайны, параненым. Мне прызначылі інваліднасць 2-й групы. Яшчэ дзесяць год таму на маю пенсію можна было жыць. Праўда, і цяпер я атрымліваю не так ўжо і мала ў параўнанні з іншымі . Папраўляю здароўе ў вайсковым шпіталі ў Бараўлянах. Жыву разам з сям'ёй унучкі ва Узде. Прыязджае ў родны дом дачка Айша, зрэдку бываю ў яе ў Менску.

Успамінаецца і іншае. Бацькі мае дваранскага , нават княжацкага роду. Пра гэта пры савецкай уладзе нельга было і згадваць, не тое, што казаць. Нацярпеўся ў сваім жыцці страху за сябе і за сваіх родных; болю ад ран і іх наступстваў. Не заўсёды з належнай павагай ставяцца да нас, удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, інвалідаў, тыя, хто нарадзіліся пасля вайны, распанелі на сваіх пасадах.

Як мусульманін я кажу :" Дзякуй Аллагу, што я застаўся жывы, што выгадаваў дзяцей. Удзячны бязмерна сваёй Галіне, якая навучыла мяне некалькім мусульманскім малітвам. Магчыма што гэтыя малітвы і дапамаглі мне перажыць ліхалецце."

**Запісаў І. Канапацкі .**

## З ГІСТОРЫІ ТАТАРАЎ У ВЯЛІКІМ КНЯСТВЕ ЛІТОЎСКІМ

**Напрыканцы 1993 года адбылася важная падзея ў культурным жыцці Беларусі – у выдавецтве " Мастацкая літаратура " убачыла свет кніга Уладзіслава Сыракомлі " Добрыя весці " ( паэзія, проза, крытыка ). Пераклад з польскай мовы зрабілі славутыя беларускія паэты і празаікі . Укладанне і каментары Уладзіміра Мархеля і Кастуся Цвіркі . Прадмова Кастуся Цвіркі .**

**Татары, якія да 1939 г. жылі ў Польшчы, ведалі пра тое, што славуты паэт і краязнавец Уладзіслаў Сыракомля ( сапраўднае імя і прозвішча Людвік Кандратовіч ) прыязна ставіўся да татар і згадваў пра іх у сваіх творах. Толькі ўжо мала засталося ў жывых тых, хто чытаў творы Сыракомлі .**

**Мы падлічылі , што калі татарам пашчасціць купіць гэту кнігу, калі іх шчасце будзе прапарцыянальным іх колькасці ў дзяржаве, то ім дастанецца 50 кніг . Тыраж нашага " Байрама " крыху большы, таму мы рашылі перадрукаваць урывак з нарыса " Дарога з Вільні ў Ашмяну " ( у перакладзе Анатоля Клышкі ), дзе некалькі старонак напісана пра татар.**

**Трэба зазначыць , што не ўсё, што напісаў Уладзіслаў Сыракомля, адпавядае сапраўднасці , асабліва далёкія гістарычныя экскурсы. Крыніцы, якімі карыстаўся пісьменнік, папоўніліся за апошнія дзесяцігоддзі больш грунтоўнымі даследаваннямі пра наш татарскі народ, праведзенымі як славянскімі , так і татарскімі даследчыкамі .**

# ДАРОГА З ВІЛЬНІ Ў АШМЯНУ

## ( УРЫВАК )

.....Мы ў Немежы.

Гэтае пры карчме паселішча, вёска, ваколіца альбо засценак ( называйце як хочаце ) – гэта татарская Немеж : а той, што далей, мураваны двор – гэта маёнтак графаў Тышкевічаў, які некалі належаў Сапегам.

У татарскай аколіцы, пра якую гаворым, першы дварок прымасціўся на ўзгорку. Пагорак мае форму чатырохкутніка, вельмі падобнага да валу, і гэта наводзіць на думку, што, магчыма, тут быў Немежскі замак, пра існаванне якога дакладна вядома, а размяшчэнне якога дзе-небудзь яшчэ адкрыць нам не ўдалося.

Збярэм жменьку ўспамінаў і гістарычных паданняў, звязаных з Немежжу, хоць не ведаем дакладна, ці адносіць іх да сённяшняга татарскага паселішча ці да мураванага двара графаў Тышкевічаў

Немеж спрадвеку належала вялікім князям літоўскім. Тут некалі жыў Вітаўт. Сюды яго хворай жонцы Юльяне вялікі магістр крыжацкі пасылаў лякарства і лекара ў 1426 годзе, запабягаў перад Вітаўтам, бо тады ордэну быў патрэбны млын на рацэ Дрэзнцы, гэта была адзіная военная дарога з Польшчы ў Прусы, дарога такая важная, што Вітаўт уступаў крыжакам за гэты млын цэлы Палангскі павет : крыжакі акружылі млын і пасля атрымалі яго праз дагаворы. Магчыма, тут, у Немежы, выкручваўся перад Вітаўтам гэты, у паўтара локця гарбаты Гэнгз, нібы прысланы ў падарунак блазан, а на самай справе крыжацкі шпег, які , атрымаўшы за свае грубіянства аплявуху, аб'явіў яе пасвячэннем у рыцары.

Тут, у Немежы, Аляксандр Ягелончык, на тыя часы яшчэ толькі вялікі князь літоўскі , у лютым 1496 года сустрэў сваю нявесту Алену, якая ехала з Масквы, дачку Івана Васілевіча. Калі Аляксандр з цэлым дваром і панамі раднымі наблізіўся, князёўна выйшла з карэты на разасланую парчу і чырвонае сукно, падала руку будучаму мужу, і пасля абмену некалькімі словамі нарочныя рушылі ў горад : яна ехала ў санях, ён конна побач з ёю.

Ў Немежы, калі Вільня з большай часткаю Літвы была ў руках Расіі , Ян-Казімір падпісаў у 1656 годзе з царом Аляксеем Міхайлавічам дыпламатычную ўмову нягледзячы на перашкоды з боку Швецыі . Маглі б тут яшчэ быць фартыфікацыі , але дзе гэта ўсё падзелася ?

Вялікакняжацкі замак, калі быў у Немежы, то ў першыя гады 16 стагоддзя так занепаў, што сёння, як мы ўжо казалі , і следу яго цяжка дашукацца. І даўнейшыя сляды побыту тутэйшых татараў сцерліся зусім, з-за страты папер пад час нашэсця рускіх і шведаў пры Яне-Казіміры, пра што зараз скажам. Хочучы даследаваць пачатак гэтага паселішча, мы павінны былі б зрабіць кампіляцыю з прац Чацкага, Крашэўскага, Нарбута і іншых : павінны былі б паўтарыць тое самае, што адзначалі расказваючы пра Ваку ( назва ракі і вёскі - заўвага рэд. ), больш-менш пэўныя меркаванні пра татараў, пераможаных Вітаўтам на Доне ў 1397 годзе, якіх ён пасяліў пад Вільняю на р.Ваке, Сорак Татараў, Ласосьнай, Немежы і іншых месцах Літвы, - альбо прыпісаць гэтыя калоніі пазнейшым уцекачам альбо ваеннапалонным. Яны самі не ўмеюць вырашыць сумненні наконт свайго перасялення ў тутэйшыя мясціны. Вітаўтага асадніцкага прывілею як татараў, так і адначасова прыбылых з імі караімаў да гэтага часу адшукаць не ўдалося, - ён мог існаваць і згінуць у ваенных ліхалеццях і цемнаце тых, для якіх павінен быў служыць. І не надта яны пра гэта турбаваліся, на правах даўнасці ўгрунтаваўшыся на сваіх сядзібах, а пры люблінскай уніі Літвы з Польшчаю у 1569 годзе ўроўненыя з шляхтаю, калі толькі рыцарскаю службаю, а не рамяством будуць займацца. Верныя гэтаму прызначэнню тутэйшыя татары пралілі не адну кроплю крыві , абараняючы сваю прыёмную айчыну : адкінулі адозву сваіх крымскіх пабрацімаў, якія чакалі ад іх дапамогі ў спусташэнні Польшчы, удзячна памяталі ( як гавораць у сваёй просьбе, пададзенай Жыгімонту 1 ), што Вітаўт " казаў ім не забываць Прарока, а да сваіх месц вочы накіроўваючы, наказаў паўтараць яго імя, нібы сваіх халіфаў. На шаблі прысягалі, што будуць любіць ліцвінаў, якія прыбылым да іх сказалі , што гэты пясок, гэтая вада, гэтыя дрэвы для нас агульныя. І браты ля салёных водаў і ў

Кіпчаку ведалі , што яны тут не былі чужынцамі ".

З пачаткаў пазнейшых мясцовых дакументаў, якія мы трымалі ў руках, найдаўнейшыя датуюцца ад Уладзіслава IV,які надаў тут пэўныя зямельныя ўладанні татарыну Фурсу Скіну.

Амаль усе тут тутэйшыя каланісты служылі ў татарскіх вайсковых харугвах, на старасць вяртаючыся дадому, поўныя гонару, што нароўні з польскаю шляхтаю маюць прывілеі , выслужаныя рыцарскім заняткам, амаль усе тытуловаліся князямі на падставе сапраўднай альбо прыдуманай генеалогіі , якую прынеслі з радзімы. Сустрэнем тытул князёў побач з прозвішчамі Тагузовічаў, Давідовічаў, Масюкевічаў, Міхалоўскіх. Бедныя гэта былі княствы, на некалькі моргаў зямлі , якія пры далейшым большанні сям'і належала дзяліць яшчэ і яшчэ на некалькі і некалькі надзелаў. Вядома рэч, што паміж імі калатнечам і працэсам, часам нават крымінальным, канца не было.

Князь, склаўшы свой пачціва абліты крывёю рыцарскі рыштунак, браў саху альбо сякеру ; княгіні не гультайнічалі у гарэмах, як іхнія крымскія айчынніцы, а рыдлёўкаю капалі літоўскую зямлю, вырошчваючы гародніну альбо прадучы кудзелю.

Цяжкі быў кавалак хлеба ! Галеча больш замінала ім у набыцці асветы, чым непрыязныя да асветы запаведзі Алькарана, які ўжо не маглі разумець*

Яшчэ горш было, калі ў часы Яна-Казіміра рускія занялі Літву ў 1656 годзе. Татары з Немежы, з прыгарада Вільні – Лукішак, з Медэран, Роўналан, Сорак Татараў, Прудзян, Гемзы, Рудаміны, Троклюдзі , большаю часткаю заслужаныя ў дзяржаўным войску, рассыпаліся са сваімі сем'ямі па краіне.Найбольшая іх частка знайшла прыстанішча ў Кароне. Там татарын Хадэла-Халецкі , каралеўскі ротмістар, са сваёю харугваю размяшчаўся ў ваколіцы Замброва. Адны з літоўскіх татараў кінуліся пад крыло гэтага свайго натуральнага абаронцы, другія туляліся па Мазоўшы і Падляшшы. Але ў Кароне рабавалі шведы. Страх зноў вярнуў на Літву бедныя мусульманскія табары.

У чацвер пасля Вялікадня 1656 года такі іх табар з 300 вазоў, напоўненых жанчынамі , дзецьмі і маёмасцю, цягнуўся з Замброва ў Літву, калі мясцовая польская шляхта, як звычайна на вайне, нахабная і хцівая да здабычы з тлумам сваіх сялян і чэлядзі заступіла ім дарогу. Ніяк не дапамаглі універсалы Яна-Казіміра, якія паказвалі татары : бо паны Войцех Апацкі , падкаморны Віскі , Аляксандр Макавецкі , уладальнік вёскі Высокае, належалі да шведскага лагера. Разам з імі было яшчэ 23 шляхціцы, а кожны са шляхты вёў сваіх сялян і добра ўзброеную дваровую чэлядзь.

---

* Ул. Сыракомля быў дрэнна праінфарміраваны. Святы Кур'ан патрабуе ад кожнага мусульманіна памнажаць веды. Ніжэй пазначаны суры ( у дужках аяты ) : 2 ( 152 ); 3 ( 191,192 ); 9 ( 112 ); 10 ( 6,7 ); 12 ( 112 ); 13 ( 4,5 ); 16 ( 11-17 ); 17 (13,22,28, 29, 71 ); 18 ( 66,67 ); 20 ( 115 ); 21 ( 80-83 ); 22 ( 46,46 ); 29 ( 21 ); 30 ( 10 ); 33 ( 63 ); 35 ( 29,44,45 ); 39 ( 10 ); 40 ( 22 ); 45 ( 13,14 ); 58 ( 12 ); 96 ( 4-6 )

Дайшло да бітвы !

Узброеных татар пазабівалі , безабаронныя ўцякалі . Прыхільнікі шведаў кінуліся на табар, пазабіралі коней, захапілі скрыні , парвалі каралеўскія лісты, сямейныя татарскія паперы разам з татарскімі кнігамі , якіх ( як скардзіліся ) так цяжка дастаць у Літве і Кароне. Не праміналі і дзявоцкага гонару. Такі самы напад назаўтра быў зроблены на табар татараў, які ішоў праз Ложму ў Ганёндз : Ян Касакоўскі , віскі стараста, узначальваў налётчыкаў ; было з ім 13 шляхціцаў з чэляддзю.

Пан Хадэла-Халецкі , ротмістр караля Яна-Казіміра, які не змог абараніць сваіх суайчыннікаў і аднаверцаў сілаю зброі , абараняў пакрыўджаных праз суд.

Паводля яго загаду ў васьмідзёнку свята Цела Господня гэтага ж года афіцэры Татарскай харугвы Багдан Токаш, паручнік, Самуэль, яго брат харунжы, Адам Рамановскі і Давід Мустафіч падалі пратэст у Бранскі замак, скардзячыся на гвалт, учынены татарам. Не ведаем, ці быў суд і чым усё скончылася, але праўда тое, што гэтыя два напады шляхты мелі рашучы ўплыў на лёс літоўскіх татараў. Ваколіцы, дзе яны пражывалі , абязлюдзелі , звыш дзесяцігоддзя мала хто альбо і зусім ніхто там не жыў. Адны з татараў уцяклі за мяжу, другія прымалі хрысціянства, іншыя пасля бадзяжнага хлеба не хутка вярнуліся дадому, дзе іх чакала пустка і галеча. Суседзі прыгарнулі сабе пакінутыя палі і лугі : гаспадарам даводзілася дамагацца сваёй маёмасці праз суды і прашэнні . У Немежы пачаліся працэсы татараў з памежным духавенствам, з дамініканцамі , францысканцамі і віленскімі кармелітамі . Следства тым больш было цяжкае і апіралася больш на сумленні захопнікаў, чым на пісьмовых доказах, бо татары страцілі свае дакументы, а трыбунальскія кнігі , гарадскія і зямельныя ў Вільні , пад час ваеннага разруху былі ў значнай часцы спалены.

Манастырскія абшчыны, праўда, вярнулі татарам зямельныя надзелы і лугі , але колькі захадаў, колькі бяды давялося зазнаць, пакуль удалося іх вярнуць !

Яшчэ больш балючую, маральную крыўду нанесла татарам літоўская шляхта, якая напала на іх пад Бранскам і Ганёндзам. Знішчэнне рэлігійных магаметанскіх кніг, з якімі было так цяжка ў Польшчы і Літве, прывяло да ўпадку і самой веры. Калі сёння адзін экзэмпляр Карана задавальняе патрэбы цэлай ваколіцы, у якую ўваходзіць больш за дзесятак сядзіб, калі татарын моліцца па-арабску, не разумеючы мовы, вельмі лагічна разважаючы, што Бог, які ведае ўсе мовы, лепей, чым ён сам, і так зразумее ягоную малітву, калі суполка літоўскіх мусульман, не прыняўшы іншай веры і не ведаючы ўласнай, жыве толькі напаўзабытымі формамі веравызнання, то, можа, яшчэ і сёння гэта належыць прыпісаць таму чацвяргу пасля Вялікадня 1656 года, які пазбавіў іх рэлігійных кніг. Можа не бліжэй чым за дзвесце гадоў мы павінны шукаць прычын сённяшняга ліха.

Сполах, які разагнаў тады татараў з Літвы, быў больш панічны , чым сапраўдны, прынамсі , тое, аб чым гаворым, адносіцца да Немежы. Гэта мясціна, нягледзячы на сваю блізасць да Вільні , засталася яшчэ пад уладаю Польшчы. Тут, як мы казалі вышэй, у гэтым жа 1656 годзе гасцяваў некалькі дзён Ян-Казімір ; тут, не зважаючы на шведскія інтрыгі , ён дагаворваўся з царом Аляксеем Міхайлавічам ,

тут падпісаў 3 лістапада памятную гісторыі абодвух народаў умову.

Нягледзячы на сваё беднае існаванне, татары, якія паволі пачалі збірацца да сваіх літоўскіх сядзіб, не пераставалі аддана служыць Рэчы Паспалітай. Усе мужчыны гурмой ішлі на вайну не толькі з чужынцамі , але з татарамі і туркамі , з якімі лучыла іх агульнае паходжанне і вера. І такім чынам, ва ўдалым Язлавецкім паходзе пры ЯнеIII у 1684 годзе, калі 25 жніўня прагналі туркаў з Язлоўца, паблізу караля знаходзіўся цэлы полк літоўскіх татараў....... Адзін з іх Раман Давідовіч , родам з Немежы, цяжкапаранены падпісаў там сваё завяшчанне, якое як узор такіх актаў у татараў мы цалкам прыводзім паводле арыгінала :

" У імя Госпада Бога Адзінага, Творцы праўдзівага !

Я, Раман Давідовіч, землеўладальнік і татарын Караля Яго міласці Віленскага Ваяводства, жыхар вёскі Немеж, хваробаю ад Госпада Усемагутнага разбіты, і , ведаючы, што кожны чалавек, здаровым будучы, хваробы і смяртэльнай хваробы спадзявацца павінен, якая кожнага чалавека на свеце абмінуць не можа, таму я, здаючыся на волю Божую і кіруючыся агульным правам, яшчэ пры добрай маёй памяці пры многіх годных людзях склаў гэтае маёй астатняй волі завяшчанне, і вось якім чынам.

Цела маё грэшнае прашу брата майго Белата Давідовіча, каб да дому як мага адвёз. Маеш тады гатоўкаю трыста злотых, з якіх на страву сто злотых аддаю, сто злотых на пахаванне цела майго і ўсё патрэбнае, гэта значыць : кураны ( адпяванне з Алькарана ) і іныя малітвы, і на трохдзённую варту, а асабліва, што важна, тым, якія будуць ля магілы сядзець на з'ярэце ( на варце ўначы ля магілы). Трэція сто і тыя, каторыя ад'язджаючы, пакінуў, тыя жонцы маёй княгіні Марусі Гальяшавічоўне, Раманавай Давідовічавай завяшчаю, просячы, каб мяне ў малітвах не забывала. Зноў жа, дадзеныя паўтараста злотых за Лакушэўшчыну, у вёсцы Немеж гэтай жа маёй жонцы ў пажыццёвае карыстанне як поле, так і агарод і сад, а пасля жыцця яе на Немежскую мячэць, і ўсё Джэмят на вечныя часы належаць павінна..... г.д. Таксама сведчу, што ніякіх даўгоў, каб каму вінаваты быў, не прыпомню, і мне ніхто нічога не вінаваты. Прашу таксама ўсіх шаноўных братоў, каб мне даравалі , гэтае маёй апошняй волі завяшчанне канчаю, якое і сцвярджаю, каб яно ні ў чым не было абвергнута. Напісана пад Язлоўцам дня 24.кастрычніка 1684 года "і г.д.

У гэтым завяшчанні звярнулі на сябе нашу ўвагу якраз дзве рэчы - па-першае: форма, зусім падобная да завяшчання хрысціян, і таму зусім страчаная ісламская форма, па-другое : убогасць, якая адкрываецца ў спадчыне шаноўнага рыцара з-пад Язлоўца. Гэтая ўбогасць, а можа, і туга па сваёй старой айчыне, былі часам повадам уцёкаў татараў у Крым ці Стамбул да сваіх суайчыннікаў. Такім з'яўляецца дэзерцірства ў 1710 годзе двух братоў Міхалоўскіх з Немежы, якія пасля доўгай службы ў польскім войску ўцяклі да татараў ў Хоцім. След гэтага мы знайшлі ў паперах Камісіі , пасланай апісаць і здаць у казну маёмасць гэтых двух уцекачоў Неўзабаве, бо ўжо ў 1715 годзе, была тут іншая камісія, прысланая ад караля па пытаннях татарскай маёмасці : далі гэтаму повад падзелы, драбленне спадчын, спрэчкі , нязгода паміж немежскімі татарамі і тысячы скаргаў, якія ішлі да караля

Зямельная нястача адчувалася паўсюдна. Урабляli агароды, прадаючы ўраджай у Вільню, але ніводзін з немежскіх татараў не браўся за рамяство, добра ведаючы, што паводле звычаяў і польскага права менш высакародная праца пазбавіла б яго шляхецкіх прывілей. Ужо найменшае дапушчэнне, што нехта займаецца рамяством, выклікала ў іх абурэнне....

Вайсковая служба была, як бачым, адзіным заняткам літоўскіх татар : але і тут ім не асабліва шчасціла. Служачы па некалькі дзесяткаў год, пачцівы магаметанін мог даслужыцца толькі да купнага рангу паручніка. Слёзны мемарыял аднаго з іх пададзены каралю Станіславу-Аўгусту пасля прыняцця закона аб забароне продажу вайсковых рангаў. Сорак гадоў праслужыўшы ў войску, бедны татарын страціў усю сваю маёмасць на пакупку рангу паручніка і просіць трон, каб гэты ранг мог ён уступіць наступнаму па старшынству за ім афіцэру - не дзеля таго, каб атрымаць на старасці хоць бы частковы зварот квоты, унесенай за званне, але каб выклікаць у палку рух павышэння па службе і такім спосабам аблегчыць дарогу свайму сыну, які служыць у гэтым жа палку, каб той мог атрымаць званне малодшага харунжага.*

Татарскія харугвы складалі фарпост вялікай булавы. Са штатаў альбо роляў харугваў, некалькі з якіх у нас перад вачыма, бачым, што полк складаўся з пяці харугваў ; а ў кожнай з іх быў ротмістр, паручнік, харунжы і няпэўная лічба намеснікаў. Ніколі поўная лічба афіцэраў не знаходзілася ў харугве : адны, маючы водпуск, сядзелі дома, другія выконвалі свае абавязкі пры гетмане, так што часам у харугве знаходзіўся толькі адзін афіцэр. Ротмістр пастаўляў двух радавых ; паручнік ж, харунжыя і памочнікі - па адным. Абмундзіраванне паручніка і намесніка складалася ў апошнія часы пры Польшчы з курткі , шапкі , жакета, райтузаў, эпалет, шпораў, хусткі і плашча ; са скураных вырабаў былі падсумкі , патранташы, партупея ; зброю складалі коп'і , пісталеты, палашы ; конскі рыштунак складаўся з сядла, чапрака, партпледа, сядзельнай кабуры, цугляў, нагрудніка і іншых дробязей стаеннага экіпажу, яшчэ выдавалася па дзвадцаць баявых альбо халастых зарадаў, у залежнасці ад патрэбы.

Пастановамі сейма некалькі разоў пацвярджалася надзяленне татараў зямлёю. Што да саслоўных правоў, яны лічыліся нароўні са шляхтаю, калі не займаліся рамяством ; фурманы ж, гарбары і іншыя рамеснікі з татараў лічыліся за плябеяў,- земляробства было пачэсным выключэннем.

Сённяшняе становішча гэтага паселішча сумнае. Падзеленыя больш чым на дзесятак невялічкіх двароў у Немежы, яны жывуць з поля і агарода. Багацейшыя заняты на цывільнай альбо вайсковай службе ; бяднейшыя працуюць на зямлі . Рэлігія засталася толькі як форма і традыцыя ; некаторыя ўмеюць прачытаць Каран , але ніхто яго не разумее, не выключаючы і мулы .**

---

*У часы караля Станіслава-Аўгуста былі татары-палкоўнікі — Юсуф ( Юзаф ) Беляк Мустафа ( Аляксандр ) Карыцкі .

** Татары ведалі змест свяёй святой кнігі . Гл. артыкул „Кур'ан" у " Байраме " № 1 за 1991 год.

Зборня штопятніцы ў прыцененай дрэвам маленькай мячэці і больш-менш дакладнае пільнаванне посту месяца рамазан – вось і ўся іх рэлігійная практыка. Прытрымліваючыся запаветаў Алькарана , яны не п'юць віна, ды і, зрэшты, мала хто мог бы яго купляць. Але што да гарэлкі , пра якую нічога няма ў Алькаране, то̆ падмацоўваюцца ёю не скупою меркай *. Зрэшты, трэба аддаць справядлівасць прыроднай сумленнасці гэтага народа : жывучы амаль у поўным забыцці рэлігіі , ён усё ж цвёрда пільнуецца маральных законаў. Абавязаныя мясцовым законам да аднажонства, тутэйшыя татары так глыбока праняліся ім, што калі адзін з іх у 17 стагоддзі , выехаўшы з Немежы, узяў другую жонку на Валыні , аднаверцы патрабавалі ў судзе смяротнай кары як крымінальніку. Дадайма яшчэ адну рысу характару татараў : з-за нястачы рэлігіі яны поўны прымхаў і забабонаў, адны з якіх маглі яны прынесці з сабою альбо пачэрпнуць са сваёй веры, іншыя без разбору запазычылі ў мясцовага насельніцтва.....

---

* Кур'ан забараняе мусульманам алкагольныя напіткі . Гл. суру 2, аят 220 ; суру 5, аяты 91 і 92.

---

## СПРАВАЗДАЧА АБ АРХЕАГРАФІЧНАЙ ЭКСПЕДЫЦЫІ БЕЛАРУСКАГА ЗГУРТАВАННЯ ТАТАРАЎ-МУСУЛЬМАН " АЛЬ-КІТАБ " ПА МЕСЦАХ КАМПАКТНАГА ПРАЖЫВАННЯ ТАТАРАЎ НА МЕНШЧЫНЕ І ГАРАДЗЕНШЧЫНЕ

Археаграфічная экспедыцыя Беларускага згуртавання татараў-мусульман " Аль-Кітаб " была арганізавана Рэспубліканскім цэнтрам нацыянальных культур Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь пры актыўнай падтрымцы дырэктара цэнтра спадара Віктара Мацюшанкі , Гэта была другая экспедыцыя. Першая праводзілася яшчэ летам 1991 года. Яна была арганізавана гарадскім фондам культуры, яе намеснікам В. Мацюшэнкам. Мэтаю другой экспедыцыі быў пошук рукапісных мусульманскіх кніг – Кітабаў, Кур'анаў,Хамаілаў, Тэфсіраў, устанаўленне кантактаў з супляменнікамі , наладжванне культурна-асветніцкай работы ў татарскіх абшчынах. У склад экспедыцыі ўваходзілі члены Беларускага згуртавання татараў-мусульман " Аль-Кітаб " – Ісмаіл Александровіч ( муфцій ), Ісмаіл Варановіч ( член праўлення " Аль-Кітаб "), Дзмітры Дубінін ( кандыдат гістарычных навук, этнограф ), Мустафа Канапацкі ( член згуртавання " Аль-Кітаб ", кандыдат філасофскіх навук ), Ібрагім Канапацкі ( Віцэ-прэзідэнт згуртавання " Аль-Кітаб ", кандыдат гістарычных навук ).

Экспедыцыя пачалася 31 ліпеня 1995 г. і закончылася 4 жніўня 1995 г.
Маршрут экспедыцыі быў наступным :

31 ліпеня ( панядзелак ). Выезд. Маршрут Менск-Гродна ( 300 км ) – начлег.
1 жніўня ( аўторак ). Гродна – Скідзель ( 31 км ) – Астрына ( 50 км. ) – Сандыкаўшчызна ( 10 км ) – Ліда ( 75 км. ). Усяго 166 км. Начлег.
2 жніўня ( серада ). Ліда – Іўе ( 41 км ) – Юрацішкі ( 15 км ) – Гальшаны ( 30 км ) – Ашмяны ( 20 км ). Усяго 106 км. Начлег.
3 жніўня ( чацвер ). Ашмяны – Ластаі ( 15 км. ) – Крэва ( 30 км. ) – Смаргонь ( 25 км ). Усяго 70 км. Начлег.
4 жніўня ( пятніца ). Смаргонь – Даўбучкі ( 20 км ) – Залессе ( 10 км ) – Маладзечна ( 25 км ) – Менск ( 75 км ). Усяго 130 км.

Такім чынам за 5 дзён удзельнікі экспедыцыі праехалі каля 800 км. На ўсім шляху следвання былі створаны аддзеламі культуры спрыяльныя ўмовы для нашай работы.

Першым пунктам на нашым маршруце, дзе жывуць татары, быў г. Гродна. Паводле апошняга перапісу ( 1989 г. ) тут жыло 635 татар. Нас сустрэў начальнік аддзела культуры Гродзенскага аблвыканкама Віктар Александравіч Кедзіч. Ён жа арганізаваў сустрэчу з мясцовым татарамі , якая адбывалася ў вельмі ўтульнай зале Дома народнай творчасці . Прысутнічала каля 50 чалавек. У горадзе дзейнічае грамадска- культурны татарскі цэнтр, татарскі ансамбль " Матылькі ", якім кіруе Весніна Г.М. Выявілася з апытанняў прысутных, што старыя Кур'аны і Хамаілы ёсць у З.Н. Ганеева, Г.Г. Хасанавай, С.Ш. Александровіча. Акрамя таго ў Хасанавай Г.Г. ёсць старыя кнігі татарскіх пісьменнікаў : Г. Тукая, М. Джаліля і іншых.

Назаўтра наш маршрут ляжаў на г.п. Скідзель, дзе жыве невялікая група татараў ( каля 50 чалавек ). У іх ёсць шмат друкаванай і рукапіснай татарска-мусульманскай літаратуры. Напрыклад, у Мухамеда Мухарскага ёсць Кур'ан, перакладзены на рускую мову яшчэ ў 1884 г., Хамаіл і іншая літаратура ( усяго 7 кніг ), дзве рукапісныя кнігі ёсць у Аміні Мухарскай. Акрамя таго, у яе сям'і захоўваецца мугір, друкаваны Кур'ан ( 1901 г. ), суфры ( 1926 г. ). Шмат кніг у Палтаржыцкай Разалі Мустафаўны : друкаваны Кур'ан ( 1901 г. ), Кур'ан у перакладзе на польскую мову ( 1986 г. ), гісторыя прарокаў на польскай мове выдадзеная ў 1926 г. тагачасным муфціятам, Хамаіл, напісаны імамам з Крушанян Мустафой Ясінскім, каляндар ( на польскай мове ) татарскіх рэлігійных святаў і суфры ( 1926 г. ).

Некалькі татарскіх хат ёсць у мястэчку Астрына. У іх захоўваюцца толькі друкаваныя Кур'аны.

У другой палове дня 1 жніўня мы прыехалі ў вёску Сандыкаўшчызна. Васілішкаўскага сельсавета, Шчучынскага раёна. Раней гэта невялікая вёска была ўся татарская. І цяпер тут жыве пераважная большасць татараў. Існуе татарская абшчына. У старшыні абшчыны Зміра Крыніцкага шмат татарскіх і мусульманскіх кніг : Кур'ан на польскай мове Аляксандра Навалецкага ( 1858 г. ), Кур'ан рукапісны ( пачатак 19 ст. ), кнігі " Общественный строй монголов " ( Ленінград, 1934 г.) ды іншыя.

Самая вялікая бібліятэка мусульманскай і татарскай літаратуры захоўваецца ў Іўеўскай мячэці ( каля 100 асобнікаў ). Шмат літаратуры і ў іўеўскіх мусульман ( іх пражывае тут паводле апошняга перапісу 622 чалавекі ). Іўеўская абшчына самая вялікая на Беларусі ( калі не лічыць Мінскую ). Таму нам здаецца, што тут прыдзецца яшчэ шмат папрацаваць, каб скласці падрабязны каталог татарска-мусульманскай літаратуры. У Іўі , у аддзеле культуры адбылася вельмі цікавая размова. І тут адкрылася, што кіраўнікамі народнага тэатра ( як на жаль прыпыніў сваю дзейнасць ) з'яўляюцца нашыя татары. Раман Якубавіч Шабановіч і Александр Давыдавіч Ільясевіч. Думаецца, што калі б знайшліся грошы, а галоўнае, жаданне і людзі,можна было б арганізаваць татарскі тэатр у Іўі .

Наступным пунктам нашай вандроўкі быў г. Ашмяны. Адметна тое, што тут абшчына была нядаўна створана. На чале абшчыны стаяць вельмі паважаныя ў горадзе людзі - Мустафа Шабановіч і Браніслаў Шагідэвіч. Абшчына невялікая ( 84 чалавекі ). На сходы і на святы збіраюцца ў хаце Якубоўскай Соф'і Іванаўны. Тут таксама ёсць невялічкая бібліятэчка складзеная з кніг як татарскіх, так і мусульманскіх. Некалькі мусульманскіх старадаўніх кніг захоўваюцца ў сям'і Радлінскіх, Радкевічаў, Шабановічаў.

Пабывалі мы ў Крэве. Тут толькі дзве хаты. Жывуць два браты - старэйшы Мустафа Аляксандравіч, малодшы Якуб Аляксандравіч Якубоўскія. Дома не захоўваецца ў іх мусульманская літаратура. Жывуць бедна, а раней іх бацькі і дзяды былі вельмі вядомымі людзьмі дваранскага паходжання. Гэта апошнія татары ў Крэве.

Вёскі Ластаі ўжо няма. Няма гэтага назову і на карце Беларусі . Застаўся толькі старажытны мізар, які ўяўляе вялікую гістарычную і культурную каштоўнасць.

На жаль, нам не ўдалося даследваць літаратурную спадчыну смаргонскіх татар, таму што спяшаліся ў Даўбучкі , дзе адбывалася сустрэча татараў з розных хуткоў Беларусі . Лёс гэтай вёскі аднолькавы з малымі вёскамі Беларусі . Ад вёскі застаўся толькі хутар. Раней была мячэць ( помнік драўлянай культуры 16 стагоддзя ). Цяпер яна перавезена пад Менск у музей драўлянага дойлідства. А шкода, таму што тут мясціна вельмі прыгожая і нечым нагадвае вёску Лоўчыцы, што каля Наваградка. Агульнае для гэтых мясцін тое, што і ў Даўбучках, як і ў Лоўчыцах мячэці зруйнаваны.

Далей наш шлях пралягаў на Залессе. Мы агледзілі музей-сядзібу Агінскіх. У Маладзечне мы пакінулі нашага муфція Ісмаіла Аляксандровіча. Ён удзельнічаў у сходзе па стварэнню мусульманскай абшчыны. Астатняя група прыбыла ў Менск 4 жніўня , у 17.30.

Вынікі праведзенай экспедыцыі разглядаліся на пашыраным паседжанні Беларускага згуртавання татараў-мусульман " Аль-Кітаб ". Выказвалася прапанова аб заключэнні дамовы з Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі аб фільмакапіраванні і ксеракапіраванні старажытных рукапісаў беларускіх татар. Адпаведная дамова з Нацыянальнай бібліятэкай ужо заключана. Пачалася работа і ўжо зроблены 3 фільмакопіі татарскіх кніг - так званых кітабаў - беларускіх тэкстаў пісаных

арабскім пісьмом. Па выніках экспедыцыі 4 верасня ў Нацыянальнай бібліятэцы быў праведзены арыенталістычны семінар, на якім выступіла 6 вучоных з Беларусі, што займаюцца праблемамі ўсходазнаўства. Да яго была прымеркавана выстава старажытных манускрыптаў ( персідскіх, турэцкіх, арабскіх ), а таксама рукапісаў, што былі прывезены з экспедыцыі. Пра гэта пісалі беларускія газеты.

Татары выказваюць шчырую падзяку Цэнтру нацыянальных культур за арганізацыю экспедыцыі і фінансавую дапамогу. Вынікі апрацоўкі сабраных матэрыялаў будуць выкарыстаны для вывучэння жыцця татараў, для арганізацыі новых экспедыцый. Было б пажадана, каб летам 1996 г. арганізаваць новую экспедыцыю па малавывучаных рэгіёнах паўночна-заходняй часткі Беларусі ( Віцебская вобласць, частка Менскай і Гарадзенскай ).

Менск, 5 жніўня 1995 г.

Віцэ-прэзідэнт Беларускага згуртавання " Аль-Кітаб "
Ібрагім Канапацкі

P.S. У Згуртаванні " Аль-Кітаб " захоўваюцца магнітазапісы гэтае экспедыцыі ( 6 гадзін ).

---

**З другой міжнароднай канферэнцыі татар ( травень 1995 г. )**

# УПЛЫЎ БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА РУХУ НА ВАЙСКОВЫЯ ФАРМАВАННІ РАСІЙСКАЙ АРМІІ З ПАЧАТКУ ПЕРШАЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ ДА ЛЮТАЎСКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ

У кожнага народа найвышэйшай ступенню нацыянальнай самасвядомасці з'яўляецца разуменне мець незалежную, суверэнную дзяржаву як надзейны сродак самастойнага вырашэння ўсіх пытанняў уласнага жыцця, як гарантыю абароны ад усемагчымых прэтэнзій і нападак з боку іншых краін. Гістарычная сувязь Беларусі з Расіяй і Польшчай прынесла шмат бед беларусам, бо ставіла іх заўсёды ў неспрыяльныя ўмовы нацыянальнага і духоўнага развіцця, рабіла прыдаткам эканамічнага, палітычнага і культурнага жыцця гэтых краін. Цяжкія выпрабаванні на долю беларусаў выпалі і з боку іншых народаў: былі тут татары і шведы, французы і немцы.

Так на землях Беларусі ў час войн адны акупанты змяняліся другімі, салдаты і адміністрацыйныя ўлады чарговых прышэльцаў марадзёрстваалі, беспакарана забівалі мірных людзей, рабавалі ў іх нажытае дабро.

Усё гэта не магло не выклікаць абвастрэння пачуцця трывогі за лёс народа. Аднак адсутнасць незалежнай дзяржавы, у тым ліку нацыянальнага войска, відавочна, не спрыяла нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, бачанню сябе як цэльнага народа-патрыёта. Абарона Бацькаўшчыны ў такіх умовах станавілася даволі складанай задачай . Тым не менш, паступова ў асяроддзі інтэлігенцыі і грамадскіх дзеячаў, а затым і ў шырокіх народных масах усё больш умацоўвалося імкненне да дзяржаўнай незалежнасці , да права самім беларусам вырашаць свой лёс.

Доўгім і пакутлівым быў шлях да самавызначэння . Этапнай падзеяй на гэтым шляху з'яўляецца пачатак першай сусветнай вайны, падчас якой вядомы беларускі дзеяч Я.С. Канчар пісаў :" Я думаю аб тым, што на працягу многіх сотняў год беларусы прымушаліся да бадзяжніцтва, гінулі , як восенню мухі , і сваім мясам угнаілі грунт для іншых народаў . За што такая страшная доля ?! Таму што ў беларускага племені няма сваіх сапраўдных правадыроў, няма сваёй дзяржаўнасці і войска, таму што яно не сумела ўзяць свой лёс у свае рукі і стаць раўным сярод раўных народаў [1]". Вайна несла велізарныя страты фізічным сілам беларускага народа, але разам з тым паскарала палітычнае абуджэнне, рост яго нацыянальнай самасвядомасці . " Ёсць надзея, што страшэнная вайна, аб якой яшчэ ўнукі нашы будуць ўспамінаць, тыкі збудзіць ад сну вялікую грамаду вясковых людзей [2]" - пісала ў гэтыя дні " Наша ніва ". Так, пад уплывовым уздзеяннем падзей, выкліканых нацыянальным рухам у краінах Еўропы, значная частка беларусаў усё больш пачала схіляцца да думкі займець ўласную дзяржаўнасць . У гэтым плане асабліва вялікі пазітыўны ўплыў на перадавую беларускую грамадскасць аказвалі нацыянальна-дэмакратычныя працэсы ў суседняй Польшчы, дзе канчатковай мэтай ў выпадку ваеннага краху Расіі ставілася задача выхаду са складу Расійскай імперыі і ўтварэнне суверэннай польскай дзяржавы.

І хаця адна з самых уплывовых беларускіх арганізацый - Беларуская сацыялістычная грамада абмяжоўвалася ў выпадку паражэння царскай імперыі дасягненнем аўтаноміі беларускага народа, ўсё ж гэта была толькі першарадная задача, якая вяла затым да рэальнага дзяржаўнага суверэнітэту .

Аднак аб правядзенні на пачатку вайны якой-небудзь адкрытай палітычнай, культурна-нацыянальнай працы беларусаў і тым больш аб заснаванні ўласных узброеных сіл ва ўмовах панавання царскай ваеннай цэнзуры і ваенна-паліцэйскага рэжыму, безумоўна, не магло быць і гаворкі .[3]

Калі ж звярнуцца да дакументаў Магілёўскага губернскага жандармскага ўпраўлення, то там сцвярджаецца адназначна, што пасля ўвядзення ваеннага становішча у губерніі , доўшага магчымасць ваенным уладам і паліцыі чыніць пагромы, арышты і нападкі , ў данным выпадку на гомельскія партыі і групоўкі самых розных накірункаў, але настроеныя супраць царскага ўраду, або вайны, а таксама пасля прызыва ў армію некаторых лідэраў гэтых груповак, амаль ўсякая рэвалюцыйная дзейнасць ў канцы 1914 года спынілася .[4]

Такім чынам, з дапамогай жорсткіх рэпрэсій, масавых арыштаў, ваенна-палявых судоў царскі ўрад разлічваў ачысціць прыфрантавую паласу ад " нацыяліcтыч-

ных і рэвалюцыйных элементаў ", падавіць волю мас да арганізаванага пратэсту, надоўга абезгаловіць кіраўніцтва грамадскім рухам і галоўнае – зберагчы армію ад рэвалюцыйнага ўплыву.

Праводзячы такую палітыку , самадзяржаўе тым самым закладвала супраць сябе бомбу запавольнага дзеяння, прызываючы на фронт у першую чаргу " неблаганадёжных ". Так царызм даваў зброю ў рукі тым, хто яго люта ненавідзеў . Яшчэ больш акрэслена такая лінія царскай палітыкі праводзілася на Беларусі , якая знаходзілася ў прыфрантавой паласе . " На Беларусі ўплыў вайны быў значна больш адчувальным, чым у цэнтральнай Расеі . Гэта сказвалася і на беларускім руху : яго галоўная апора, нацыянальна-свядомая моладзь, аказалася пад ружжом [5]" – пісаў у тыя часы Максім Багдановіч . Наогул з тых губерняў, якія цяпер складаюць сучасную тэрыторыю Беларусі , было прызвана 51% працаздольнага мужчынскага насельніцтва [6], што значна вышэй ў працэнтных адносінах за ўсе нацыянальныя рэгіёны былой царскай імперыі .

У артыкуле " Нашай нівы " " Нашы пісьменнікі і грамадзкія працоўнікі на вайне", расказваецца аб узяцці на ваенную службу Якуба Коласа, Максіма Гарэцкага, Лявона Гмырака, А. Гурло, А. Аўрэйцэвіча, Ф. Умястоўскага і іншых супрацоўнікаў газеты . [7] А колькі было прызвана на франты першай сусветнай ў будучым вядомых беларускіх дзеячаў ? Вось толькі імёны некаторых з іх : П.П. Алексюк, Язэп Варонка, М.Б. Гольман, І.С. Дварчанін, Васіль Захарка, М.М. Касьцевіч ( псеўданім Макар Краўцоў ), Р.Р. Каўшыла, Л.С. Калядка, С.А. Рак-Міхайлоўскі , І.М. Серада, З.М. Сабалеўскі [8]. Да гэтых імён неабходна дадаць яшчэ імёны тых беларускіх дзеячаў, якія знаходзіліся непасрэдна ў тыле расійскай арміі , або былі супрацоўнікамі Камітэта помачы ахвярам вайны : В.Р. Брайцаў, Язэп Васілевіч, А.Ц. Вазілла, Язэп Дыла, Алесь Бурбіс, А.І. Цвікевіч, А.Х. Усціловіч, Я.С. Канчар і многія іншыя . Па словах апошняга :" Нацыянальны рух беларусаў прыняў такія памеры, што прайсці міма яго нельга і злачынна . Ён перекінуўся да сялян, рабочых, асабліва да салдацкіх мас, як непасрэдных сведкаў нацыянальнай дыферанцыяцыі і арміі ". [9]

Да таго ж у канцы другога года вайны сярод салдат пачался масавыя нездавальненні вайной, паражэннямі , разрухай і г.д. Гэта быў нізавы рух, які сваім хуткім ростам застаўляў абуджацца найбольш свядомых і вопытных грамадскіх дзеячаў, што знаходзіліся ў салдацкай масе . Цяжка ў гэтым сэнсе не пагадзіцца з вядомым бальшавіком Вільгельмам Кнорыным :" Хто быў у салдацкай масе старога фронта, той добра ведае, што задоўга да лютага на фронце, ў траншэях і на этапах, асабліва на этапах, паўадкрыта абмяркоўвалася пытанне аб паводзенні салдацкай масы ў выпадку паўстання ў сталіцы, ў выпадку пасланння часці на уціхамірванне забастоўшчыкаў і г.д. І гэта так заканамерна, бо ў арміі ваеннага часу цяжка было знайсці часць, дзе не было б узятага на апошніх мабілізацыях удзельніка забастовачнай барацьбы перыяда 1910-1914 гадоў . Такія людзі не маглі , нават паміма сваёй асабістай волі , не быць свайго роду палітрукамі сялянскай салдацкай масы, недавольнай эканамічнымі цяжкасцямі сялянскай гаспадаркі і працяглым адрывам працоўнай сілы з вёскі ". [10]

выключную ролю ў справе беларускага нацыянальнага адраджэння і ў пашырэнні яго ўплыву ў 1914-1915 г.г. на салдацкія масы, адыграла газета " Наша ніва ". Дзякуючы адданасці сваёй справе і працавітасці асноўнай рэдакцыйнай групы братам Івану і Антону Луцкевічам, Вацлаву Ластоўскаму, Алаізе Пашкевіч-Кайрыс ( Цётцы ), Алесю Бурбісу, Алесю Уласаву і рэдактару ў ваенны час Янку Купале, газета ў надзвычайных умовах панавання царскай ваеннай цэнзуры, нягледзячы на пастаянныя нападкі , канфіскацыю асобных нумароў, працягвала працу ў культурна-нацыянальным кірунку . " Наша ніва " шмат увагі ўдзяляла ваенным падзеям, заўсёды выхоўваючы сярод салдат-беларусаў нацыянальную самасвядомасць . Праца ў такім накірунку праводзілася газетай нават пры змяшчэнні некралогаў, як напрыклад : " Юзік Пашкевіч заўсёды быў шчырым беларусам, ад роднай мовы не адракаўся . Заўсёды гаварыў ён, пісьмы пісаў па-беларуску . Тут, у Вільні , бываў усюды, дзе збіраліся беларусы . Між імі чуў сябе найлепей". [11] А колькі яшчэ было на фронце такіх " шчырых беларусаў ", як молодшы брат беларускай паэтэсы-рэвалюцыянеркі Алаізы Пашкевіч, які ў званні падпаручніка, будучы вельмі любімы салдатамі , на жаль загінуў, бароначы Гродна .

Паводле успамінаў Максіма Гарэцкага, па свойму выконвала ўзложаны ваенным ліхалеццем абавязак і сама паэтэса . Цётка, працуючы ў віленскім шпіталі " Мішмерас-Хойлем " міласэрнай сястрою, акрамя сваіх непасрэдных абавязкаў, не забывала падкладваць " Нашу ніву " пад падушкі параненым . [12]

Аднак прызыў на вайсковую службу супрацоўнікаў газеты, цэнзурныя дамаганні і набліжэнне фронту зрабілі сваю справу і ў верасні 1915 года выданне " Нашай нівы " спынілася . У гэты ж час " з раёнау, якія пакідаліся рускімі войскамі, насельніцтва выганялі ў сярэдзіну Расіі , дзе яно было кінута на нікчэмнае існаванне ўцекачоў . На тых абшарах Беларусі , дзе рускія войскі заставаліся, адбываліся шматлікавыя мабілізацыі , арышты і ссылкі 1915-1916 г.г., і панаваў ашалелы рэжым кіравання прыфрантавой паласы ". [13] Безумоўна, ў такіх абставінах ніякіх арганізацый, якія б насілі нацыянальны характар і мелі пэўную форму, не было . Існавалі невялікія разрозненыя групы, пераважна на фронце і ў буйных беларускіх гарадах, якія, будучы неаб'яднанымі для сістэматычнай працы з масамі , самі шукалі выйсця з складушагася становішча .

Многія з беларусаў-каталікоў ( найбольш свядомая частка ) ведаючы, што ўсё роўна яны будуць прызваны ў рады расійскай арміі , звязваючы ідэі незалежнасці Беларусі з польскім нацыянальным рухам, прасіліся і шлі служыць ў польскія вайсковыя часці пры расійскай арміі , якія пачалі фармавацца з пачатку 1915 году . Большая частка гэтых людзей спадзявалася, што служачы у польскіх вайсковых фармаваннях, яны больш прынясуць карысці для сваёй Бацькаўшчыны, а калі спатрэбіцца, дык могуць накіраваць зброю і супраць расійскага ўраду, да чаго ў гэты час прызывала і РСДРП, а таксама шматлікія " нелягальныя арганізацыі пілсудчыкаў у Каралеўстве Польскім у распаўсюджаных лістоўках ". [14]

Аднак царскія ўлады, напалоханыя вялікім наплывам добраахвотнікаў, у чым бачачы дэманстрацыю нацыянальных пачуццяў і свядомасці , далейшую вярбоўку прыпынілі , а царская цэнзура забараніла друкаваць хоць якую-небудзь інфарма-

цыю аб польскіх легіёнах .[15]

Тым часам польская вайсковая часць, прабыўшы на фронце 6 месяцаў і панёсшы вялікія страты, 18 верасня 1915 года была накіравана ў Бабруйск на новае фармаванне, дзе пад уплывам паражэнняў на фронце расійскія ваенныя ўлады дазволілі з рэшткаў польскіх атрадаў стварыць брыгаду польскіх стралкоў .[16] У фармаванні брыгады вялікую ролю адыгралі : князі Любомірскія, І. Святаполк-Мірскі, З. Козел-Паклеўскі, князь Радзівіл і іншыя памешчыкі ў асноўным беларускага паходжання, якія мелі вялікі ўплыў у беларускім нацыянальным руху . Да таго ж на папаўненне гэтай брыгады былі накіраваны салдаты-каталікі " з запасных палкоў Паўночнага і Заходняга франтоў, Смаленскага і Гомельскага размеркавальных пунктаў і навабранцы з Беларусі ".[17]

У сакавіку 1916 года перад выступам брыгады на пазіцыі пад Баранавічы, яна налічвала 4 тысячы салдат . Аднак колькасны састаў не адпавядаў якаснаму, салдаты не хацелі ваяваць за чуждыя ім інтарэсы . У выніку пашыраліся антываенныя настроі і пачалося дэзерцірства, якое не маглі спыніць нават смертныя казні . Але і гэта мера не прынесла расійскім уладам належнага рэзультату, бо камандаванне Заходняга фронту, лічачы брыгаду найбольш " неблаганадзейнай ", прапанавала перакінуць яе на Каўказкі фронт .[18]

Вялася пэўная праца па развалу расійскай арміі , як галоўнай апоры царскай манархіі у гэты час і некаторымі разрознеными беларускімі арганізацыямі дэмакратычнага кірунку . Абчым сведчыць : " Дачыненне начальніка штаба Мінскіх ваенна-акружных упраўленняў да мінскага губернатара ", дзе паведамляецца, што " Па назіранню за ніжнімі чынамі , прыбываючымі ў армію маршавымі ротамі, пацыфісцкія і іншыя шкодныя ідэі не перастаюць пранікаць ў асяроддзе ніжніх чыноў, з прычыны чаго ў некаторых выпадках праяўлялася недастатковасць энергіі і нават імкненне здацца ў плен . Так як , падобныя ідэі могуць пранікнуць толькі збоку, то галоўнакамандуючы арміямі Паўднёва-Заходняга фронту загадаў прыняць самыя рашучыя меры для таго, каб ніжнія чыны не маглі мець ніякіх сувязяў з пабочным элементам, сярод якога могуць быць прапагандысты гэтых ідэй ".[19]

Аднак нягледзячы ні на што тысячы салдат пакідалі акопы і збягалі з фронту. У пачатку 1916 года з трох армій Заходняга фронту дэзерціравала 11 тысяч чалавек .[20]

Фронт паступова станавіўся кузняй антываенных настрояў, распаўсюджваючы свой ўплыў і на грамадзянскае насельніцтва . У паведамленні прадвадзіцеля дваранства Барысаўскага павета мінскаму губернатару за 11 лістапада 1916 года ідзе размова аб тым, што " галоўным і самым пагражаючым фактарам падтрымкі і нават павелічэння незадаволенасці сярод сялян з'яўляюцца салдаты праходзячых тылавых часцей, або тыя, што вяртаюцца дамоў на пабыўку.... ... ніжнія чыны ўпарта распаўсюджваюць сярод сялянскай масы чуткі аб тым, што пасля сканчэння вайны яны са зброяй ў руках прыступяць да перагляду межаў зямлі і спаўна разлічацца за ўсе " грахі " з багатымі......"[21]

На фронце і ў тыле салдаты ўсе часцей адмаўляліся ад выканання загадаў, аказвалі арганізаванае супраціўленне , забівалі найбольш ненавісных камандзіраў

Такія выпадкі ў 1915-1916 г.г. мелі месца ў Менску, Віцебску, Бабруйску, Гомелі, Баранавічах, Барысаве, Рагачове .[22]

У жніўні 1915 года адбыліся хваляванні салдат на станцыях Негарэлае, Асіповічы, Пухавічы, Рудзенск, Бабруйск .[23]

Але самай значнай падзеяй на Заходнім фронце ў перадрэвалюцыйны час з'яўляецца паўстанне на Гомельскім размеркавальным пункце 22-26 кастрычніка 1916 года . Удзел у гэтым паўстанні прынялі 4000 салдат .[24] Аднак спрэчным з'яўляецца выказванне ў многіх выданнях, што " паўстанне рыхтавалася і праводзілася пад кіраўніцтвам бальшавікоў, што працавалі ў Гомелі ".[25] Абвяржэннем гэтага можа служыць даклад памочніка начальніка Магілёўскага губернскага жандармскага кіравання падпалкоўніка Кармілева, дзе напісана :" Пасля ліквідацыі ў ліпені 1914 года Гомельскай арганізацыі РСДРП яе дзейнасць часова спынена поўнасцю ".[26] У той час калі іншыя гомельскія арганізацыі і групы дастаўлялі ў 1915 1916 г.г. куды больш непакой паліцыі . Як бачна з шматлікіх дакументаў, хутчэй ўсяго паўстанне выспела ў асяроддзі саміх салдат і было ўхвалена некаторымі арганізацыямі і групамі нацыянальна-дэмакратычнага кірунку .

Паўстанцы даволі паспяхова змагаліся амаль 4 дні з жандармерыяй і прысланымі для падаўлення паўстання вайскам . І толькі калі з фронту былі выкліканы дадатковыя вайсковыя часці , паўстанне пацярпела паражэнне . Царскія ўлады жорстка расправіліся з паўстанцамі . Дзевяць арганізатараў паўстання, паводле прыгавору палявога суда 4-й арміі , былі расстраляны , два сасланы на катаргу, пяць адпраўлены ў арыштанцкія роты.[27] Аднак аб паўстанні яшчэ доўга вялося мноства размоў, як у гарадах і мястэчках Беларусі , так і на фронце, пасля якіх яшчэ больш праяўлялася незадавальненне вайной, гаспадарчай разрухай і існуючым рэжымам .

Няма сумневу, што не толькі бальшавікі , якім прыпісваецца галоўная роля ў агітацыі да рэвалюцыйных выступаў салдат, але і беларускія нацыянальныя арганізацыі , як сярод насельніцтва, так і ў вайсковых часцях праводзілі мэтанакіраваную працу па развалу расійскай арміі , бачачы ў паражэнні царскай Расіі выйсце да нацыянальнага вызвалення Беларусі ,[28] а затым і для стварэння сваіх узброеных сіл . Як адзначыў адзін з нацыянальных дзеячаў тае пары К. Езавітаў : " беларусы зусім ясна сабе ўцямілі , што спрэчкі ўжо ёсць, што яны будуць і ў далейшым, што беларускія вымаганні , як бы яны ні былі праўдзівымі , павінны быць абаперты не толькі на юрыдычна праўнай падставе, але яшчэ і на беларускі штык ".[29] .

Так, дзякуючы крапатлівай працы, праведзенай ў 1914-1916 г.г., у маі 1917 года пад эгідай Беларускага нацыянальнага камітэта, ў які ўваходзілі прадстаўнікі амаль ўсіх напрамкаў тагачаснага нацыянальнага руху ўзнікае Вайсковая беларуская арганізацыя . А ў жніўні -верасні гэтага ж года ўсе расійскія арміі пакрываюцца густой сеткай беларускіх арганізацый, якія знаходзіліся пад уплывам розных палітычных партый і груповак, найбольш - эсэраў і Беларускай сацыялістычнай грамады .[30] А гэта значыць, што гонар стварэння першых беларускіх вайсковых адзінак належыць не бальшавікам, а прадстаўнікам нацыянальна-дэмакратычнай

плыні ў рэвалюцыйным руху .

**М. Цуба**

---

## ЛІТАРАТУРА :


1. Е.С. Канчер. Белорусский вопрос. Петроград. 1919. с. 113.
2. " Наша ніва ". № 48, 1914 , 5 снежня.
3. Ф. Турук. Белорусское движение : Очерк истории национального и революционого движения белорусов. М. , 1921 , с. 20.
4. НА Рэспублікі Беларусь. Фонд 60, воп.3, справа 113, скрынка 8, лісты 1,24.
5. М. Багдановіч. Беларускае адраджэнне. Рэпрынтнае выданне. Мн.,1991, с. 23-24.
6. Комсомол - нашей доблестной партии сын. Под ред. А.К. Зинина и А.А. Маркевича. Мн. 1960. с. 27.
7. Эканамічная гісторыя Беларусі . Пад рэд. В.І. Галубовіча. Мн. 1993, с. 135.
7. " Наша ніва ". № 37, 1914 , 18 верасня.
8. Е.С. Канчер. Очерк о 1 Всебелоруском конгрессе. Часопіс " Нёман ". № 1, 1993 , с. 164-167.
9. Там жа. с. 138.
10. Кнорин В. 1917 год в Белоруссии и на Западном фронте. Мн. , 1925, с. 8.
11. " Наша ніва ". № 7, 1915, 21 лютага.
12. М. Гарэцкі. Успаміны пра Івана Луцкевіча. Спадчына, № 1, 1991. с. 19.
13. Беларусь : нарысы гісторыі , эканомікі , культурнага і рэвалюцыйнага руху. Пад рэд. А. Сташэўскага і др. Менск, 1924. с. 215.
14. Первая мировая война 1914-1918. ( И.И. Белякевич. Из истории создания польских национальных формирований в составе русской армии во время первой мировой войны ) М. , 1968. с. 163.
15. Там же, с. 163-164.
16. Там же, с. 164.
17. Там же, с. 165.
18. Там же, с. 169, або " Polskie siły zbrojne " , 1917, № 9-10, str. 130.
19. Документы и материалы по истории Белоруссии ( 1900-1917 ). Под ред. В.Н. Перцева. Мн. , 1953, т. 3, с. 876-877.
20. Гісторыя Беларускай ССР. Мн. , 1972, т. 2, с. 624.
21. Документы и материалы по истории Белоруссии ( 1900-1917 ). Под ред. В.Н. Перцева. Мн. , 1953, т. 3, с. 793.
22. НА Рэспублікі Беларусь. ф. 295, воп. 1, спр. 8603, л. 114.
23. Л.П. Ліпінскі . Рэвалюцыйны рух у Беларусі ў ліпені 1914 - красавіку 1917 г. Весці Акад. навук БССР. Мн. , 1957, № 1, с. 41-42.
24. А Патыка. Паўстанне на перасыльным пункце. " Гомельская праўда ". 1960, 19 чэрвеня.

25. Там жа.
26. НА Рэспублікі Беларусь. Фонд 60, воп. 3, спр. 113, скр. 8, л. 1.
27. Гісторыя Беларускай ССР. Мн. 1972, т. 2, с. 624.
28. Беларусь : нарысы гісторыі , эканомікі , культурнага і рэвалюцыйнага руху. Пад рэд. Сташэўскага і др. Менск, 1924. с. 184.
29. " Літаратура і мастацтва ". № 48, 1989, 1 снежня, с. 13.
30. Там жа.

---

## ПРАБЛЕМЫ ЭТНАГЕНЕЗУ БЕЛАРУСКІХ ТАТАР

**( з дыпломнай працы Алены Ахметшынай )**

Упершыню этнонім татары паявіўся сярод мангольскіх плямён, якія качавалі ў 6-9 стагоддзях на паўднёвы ўсход ад Байкала . Слова мае цюркскае паходжанне : тат - чужы і ар - людзі , татар - чужыя людзі . Спачатку слова ўжывалі толькі цюркскія плямёны для абазначэння іншых, чужых плямён . У Заходняй Еўропе татары сталі вядомымі ў 13 ст. ў сувязі з мангола-татарскім нашэсцем. У 13-14 ст. назва пашырылася на некаторыя народы Еўразіі , якія ўваходзілі ў склад Залатой Арды Уласна мангола-татараў у гэтай дзяржаве было меншасць, і яны, паводле агульнапрынятой думкі , падпарадкаваўшы сабе мясцовае насельніцтва, хутка асіміляваліся з ім ; нават афіцыйнай мовай была прызнана кыпчацкая, якая адносілася да старацюркскай групы . У 16-19 стагоддзях татарамі сталі называць шматлікія цюркамоўныя народнасці , якія пражывалі на ўскраінах Расіі .

У працэсе ўзаемадзеяння народаў Еўропы з цюрка-татарскімі плямёнамі ўтварылася яшчэ адна татарская народнасць, найбольш аддаленая ад сваіх вытокаў, якая пасялілася на землях Беларуска-Літоўскай Дзяржавы ў канцы 14 стагоддзя. У гістарычнай літаратуры існуе некалькі назваў : літоўскія татары, татары-шляхта, палякі-мусульмане, ліпкі ( ліпкаўскія татары ), апошнім часам усё часцей ўжываецца назва беларускія татары . У 19 і 20 стагоддзях саманазва ў татар былой Беларуска-Літоўскай Дзяржавы была проста мусульмане .

Нашчадкі гэтага этнасу, якія жывуць цяпер у Беларусі , Літве і Польшчы, безумоўна маюць агульныя карані . Казанскія татары вылучаюць гэтых татар пад назвай заходніх татар, бо ёсць паволжскія, сібірскія, крымскія, алтайскія татары. У рускай гістарычнай літаратуры вядомы каўказкія татары, якія афіцыйна ў гады савецкай ўлады атрымалі ці самі сталі называць сябе іншым назвамі : напрыклад - азербайджанцы.

Беручы за аснову гістарычны фактар, назва літоўскія татары можа ўжывацца, бо паходзіць ад назвы Вялікага Княства Літоўскага, якое ўключала ў свой склад беларускія, літоўскія і часткова землі , якія цяпер у складзе Польшчы .

Працэс этнагенезу літоўскіх татар складаны . Схематычна гэта можа выглядаць такім чынам .

Мангола-татары,
цюркамоўныя
качавыя плямёны



Залатая Арда

Фарміраванне днасна
агульнай мовы і культуры.
Нейкае сярэдняе ўтварэнне
пад агульнай назвай
татары.

13-15 ст.ст.

Крымскае
ханства

Аланы,
грэкі,
полаўцы
( кыпчакі ),
славяне,
армяне.

Сібірскае
ханства

Астраханскае
ханства

Казанскае
ханства

Распад Залатой Арды,
фарміраванне розных
груп татар - астраханскіх,
казанскіх, сібірскіх, мішар,
крымскіх.

15-18 ст.ст.

Заходнія татары

беларускія
( у Беларусі )

польскія
( у Польшчы )

літоўскія
( у Літве )

Уплыў еўрапейскіх
народаў, фарміраванне
новай этнічнай групы.

14-20 ст.ст.

У вытоку гэтых татар былі цюркамоўныя плямёны, першыя прадстаўнікі якіх прыбылі ў Вялікае Княства Літоўскае з Залатой Арды, пасля - з Крымскага ханства. У 13-15 стагоддзях большасць цюркамоўных плямён на землях на ўсход ад ракі Урал і на поўнач ад Каўказкага хрыбта ўваходзілі ў склад Залатой Арды. У гэты час унутры гэтых плямён адбываецца нівеліроўка мовы і культуры.

У 15-16 ст.ст. у перыяд распаду Залатой Арды і існавання асобных феадальных дзяржаў ( Казанскага, Астраханскага, Сібірскага, Крымскага ханстваў ), ішло утварэнне розных этнічных груп татараў - казанскія, мішары, астраханскія, сібірскія, крымскія, якія ў сваю чаргу пры фарміраванні ўключалі ў свой склад розныя народнасці, якія жылі на тэрыторыі гэтых дзяржаў. Так стэпавую частку Крыма насялялі грэкі, полаўцы, аланы, славяне, армяне, і пры іх зліцці з стракатай цюрка-татарскай народнасцю ўтварылася група так званых крымскіх татар. Паразумяваліся яны на стэпавым дыялекце крымскататарскай мовы, які адносіцца да групы цюркскіх моў.

Такім чынам, татары, пасяліўшыся на землях Беларуска-Літоўскай Дзяржавы, пад адной агульнай назвай, на самой справе доўгі час адрозніваліся паміж сабою. Гэта тлумачылася:

1. Розным часам пасялення;
2. Неаднароднасцю нацыянальнага саставу;
3. Пасяленне ўлусамі ( замкнёнымі арганізацыямі );
4. Рознымі верамі ( пасяленцы 13 ст. былі язычнікамі, якія знаходзіліся пад уплывам шаманізму, ў адрозненне ад пазнейшых, якія вызнавалі мусульманскую веру сунніцкага толку ).

З цягам часу адрозненні знікалі. У сучасны момант беларускія татары ( я ўжываю гэты тэрмін, маючы на ўвазе тэрыторыю пражывання ) уяўляюць сабою ўстойлівую этнічную групу, якая не гледзячы на працяглае знаходжанне на беларускай зямлі хоць і не зберагла цюркскай мовы ( роднай для іх стала беларуская мова ), але засталіся вернымі мусульманскай веры і захавалі самабытнасць. Коратка і добра сказаў пра татараў беларускі пісьменнік і даследчык Віталь Вольскі: " Цюркі па крыві, мусульмане па веры і беларусы па мове і культуры ".

**( Працяг будзе. )**

# ЦЮРКСКІЯ СЛОВЫ Ў БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

Беларуская мова належыць да самых развітых і мілагучных моў свету . Хораша аб ёй гаварыў сын беларускай зямлі – Адам Міцкевіч . Ён ведаў некалькі моў і ён меў з чым параўноўваць мову сваей Бацькаўшчыны .

Ні адзін народ не жыве ізалявана ад іншых ( хіба толькі на акіянічных выспах ), таму ў розны час і па розных прычынах у кожную мову ўключаюцца іншамоўныя словы . Бывае так, што гэтыя " чужакі " так прыжывуцца, што толькі мовазнаўцы-этымолагі і могуць адказаць , адкуль і калі **буда, качарга, кабан** сталі ў нас сваімі словамі .

У " Слоўніку іншамоўных слоў ", які склаў славуты беларускі мовазнаўца, член-карэспандэнт АН Беларусі Аляксандр Мікалаевіч Булыка, змешчана тлумачэнне 5600 слоў, запазычаных з іншых моў . Сярод іх ёсць таксама запазычанні з цюркскіх моў – татарскай, турэцкай і іншых . Часам да цюркскіх запазычанняў умоўна адносяць арабскія, персідскія, нават угра-фінскія словы, калі яны перайшлі не непасрэдна з гэтых моў у беларускую, а ў выніку перадачы іх туркамі і татарамі.

Славуты беларускі вучоны, акадэмік Пецярбургскай АН Яўхім Фёдаравіч Карскі , аналізуючы беларускую лексіку, указаў на словы цюркскага паходжання і даў невялічкі слоўнічак іх .

Вось гэтыя словы :

**Андарак, небажа́, ба́йда, бакаць, абакуліваць, бакун, баламут, багатыр, барыш, балабе́н, бугай, буза, дурань, ёлуп, кабан, кандалы, каліта́, калека, кіндзюк, канчук, капкан, каптан, капшук, каўпак, камяга, качан, кубары, кукла, курган, літаўр, люлька, пасталы, разбазарыць, рахманы, таган, тавар, торба, тытунь, учкур, харч, хадзяін, чайка, чарга, чугай, чыгун, шапка.**

А.М. Булыка ў сваёй кнізе " Лексічныя запазычанні ў беларускай мове 14-18 ст.ст. ", Мн. 1980 падае больш за 4 тысячы адзінак, якія даўно праніклі ў беларускую мову . Слоў цюркскай лексікі – 186 . У пазнейшыя часы праз рускую і польскую літаратуру, у выніку непасрэдных кантактаў беларусаў з цюркамоўнымі людзьмі прыходзілі на Беларусь і іншыя словы, пераважна канкрэтных прадметаў і з'яў .

Вялікі ўклад у вывучэнне цюркскіх слоў, якія ўжываюцца на Беларусі , зрабілі доктар філалагічных навук А.К. Антановіч, член-карэспандэнт АН Беларусі А.І. Жураўскі , дактары філалагічных навук В.У. Мартынаў, А.Я. Супрун і іншыя.

" Словарь тюркизмов в русском языке ", составитель Шипова Елизавета Николаевна, ответственный редактор академик АН СССР А.Н. Кононов ( Алма-Ата, " Наука ", Каз.ССР, 1976 ) змяшчае больш за две тысячы слоў цюркскага паходжання, што ўжываюцца ў рускай мове . Беларусы разумеюць рускую мову і тыя 2 тысячы слоў цюркскага паходжання, якія часта ці рэдка ўжываюцца ў гэтай мове .

Я прасачыў, якія словы з слоўніка Е.М. Шыпавай трапляюцца ў " Тлумачальным слоўніку беларускай мовы ", у якім пазначаны запазычаныя , у т.л. цюркскія словы ( т. 1-5, 1977-1984 ).

" Слоўнік беларускай мовы ", які выдала ў 1987 г. " Беларуская Савецкая Энцыклапедыя " ( рэдактар кнігі акадэмік АН Беларусі М.В. Бірыла ), зафіксаваў 118 тысяч слоў , што бытуюць ў сучаснай беларускай літаратурнай мове . Тут надрукавана больш за 650 слоў, якія паводле слоўніка Е.М. Шыпавай лічацца словамі цюркскага паходжання ( колькасць цюркізмаў у беларускай мове ў тры разы меншая, чым у рускай мове ).

Думаю, што беларускім татарам будзе цікава пазнаёміцца з усімі гэтымі словамі , з паняццямі , якія яны азначаюць . Каб не абцяжарваць " Байрам ", колькасць старонак якога абмежавана, у гэтым артыкуле змяшчаем толькі тыя словы, якія ўмоўна можна палічыць звязанымі з паняццямі пра жывыя арганізмы, утрыманне жывёл, стравы з жывёльных прадуктаў .

З цягам часу ў энцыклапедычным даведніку " Татары Беларусі , Літвы і Польшчы " ( і тое, што іх цікавіць ) будуць змешчаны кароткія артыкульчыкі па гэтыя словы-паняцці ( больш за 600 ).

Словы-цюркізмы друкуем у алфавітным парадку .

## А

**Айран** - кіслае малако, разбаўленае вадой ; **арба** - высокі двухколавы ці чатырохколавы воз ; **аргамак** - высокі імклівы конь ; **аркан** - вяроўка з рухомай пятлёй для лоўлі статкавых жывёл ; **архар** - горны баран у цэнтральнай Азіі ; **атара** - статак авечак .

## Б , В

**База** - абгароджанае месца для жывёлы ; **байбак** - стэпавы грызун ; **баклан** - прыморская птушка ; **балык** - вэнджаная чырвоная рыба ; **баран** - самец авечкі ; **барс** - драпежны звер з сямейства катоў ; **барсук** - драпежны звер з сямейства куніцавых ; **беркут, біркут** - драпежная птушка з сямейства ястрабіных ; **біцюг** - конь-цяжкавоз ; **бугай** - племянны бык ; **вогер** - жарабец ; **вол** - кастрываны бык .

## Г

**Газель** - жывёла з сямейства антылопаў ; **гогаль** - вадаплаўная птушка падсямейства качыных ; **гурт** - статак аднаго віду жывёлы .

## Д , Е , Ж , І

**Джэйран** - жывёла з сямейства антылопаў ; **джут** - масавая гібель жывёлы ад бяскорміцы зімой ; **драфа** - стэпавая птушка сямейства жураўлепадобных ; **ез, яз** - перагародка на рацэ для затрымання рыбы ; **жэмчуг** - каштоўнае перламутравае рэчыва, перлы ; **ірбіс** - драпежнік снежны барс ; **ішак** - свойскі асёл.

# К

**Кабан** – самец свінні , дзікая свіння, вепр ; **кабарга** – жывёла з сямейства аленяў ; **казарка** – вадаплаўная птушка сямейства качыных ; **камса, хамса** – дробная марская рыба сямейства селядцовых ; **кантар** – аброць для жарабца ; **капкан** – паляўнічая звералоўная пастка ; **каравайка** – птушка з сямейства кулікоў ; **караван** – група ўючных жывёл, якія перавозяць грузы і людзей ў пустыні ; **каракуль** – шкурка ягняці ; **каракульча** – шкурка ягняці ва ўтробе авечкі ; **каракурт** – ядавіты павук ; **карась** – рыба сямейства карпавых ; **карга** – варона, злая, шкодная, старая ; **ка́ры** – масць каня ; **качка** – вадаплаўная птушка ; **кібітка** – вазок на палазах ; **каза, казёл** – свойская жывёла ; **каланок** – драпежны футравы звярок ; **карсак, корсак** – стэпавы ліс ; **касяк** – гурт кабыл з адным жарабцом ; **каўбаса, кілбаса** – прадукт харчавання з мяснога фаршу ; **каўтун** – хвароба валасоў ; **качавацъ** – весці неаселы спосаб жыцця ; **кашара** – стойбішча для авечак ; **кізяк** – гной для паліва ; **кіндзюк** – кішкі, бруха ; **кулан** – дзікі асёл ; **кумыс** – пажыўны напітак з малака кабылы ; **курдзюк** – тлушчавы нарост у авечкі .

# Л , М , Н

**Лашак** – помесь асла і кабылы ; **ляляк** – белая чапля ; **мажара, мажары** – доўгі воз ; **марал** – высакародны алень, ізюбр ; **маштак** – малаunion рослы конік ; **муксун** – сібірскі сіг ; **мурэна** – марская драпежная рыба ; **нагайка** – кароткая цяжкая плотка .

# П , С

**Плоў** – страва з мяса і рысу ; **пустальга** – драпежная птушка ; **сабака** – свойская жывёла, пёс ; **сазан** – рыба з сямейства карпавых ; **сайгак** – стэпавая жывёла з сямейства антылоп ; **сапсан** – драпежная птушка ; **саранча** – насякомае падсямейства саранчовых ; **сарыч** – драпежная птушка з ястрабавых ; **саф'ян** – вырабленая казліная скура ; **слон** – буйная млекакормячая жывёла ; **судак** – рыба з сямейства акунёвых ; **султанка** – курка, паляўнічая птушка ; **султанка** – чарнаморская рыба з сямейства селядцовых ; **сурок** – стэпавы грызун ; **сычуг** – частка страўніка жвачных жывёл ; **сяўруга** – чырвоная рыба з асятровых .

# Т , У , Х

**Табун** – конскі статак ; **тавар** – буйная рагатая жывёла ; **таракан** – род насякомых ; **тарбаган** – грызун з сямейства суркоў ; **тарпан** – дзікі конь ; **таўро** – кляймо, метка на жывёле ; **тузлук** – расол для салення рыбы ; **тук** – растоплены тлушч ; **тумак** – заяц, помесь беляка з шараком ; **турач** – каўказская горная курапатка ; **турухтан** – балотная птушка з атрада кулікоў ; **туша** – асвежаванае і выпатрашанае цела забітай жывёлы ; **тушканчык** – земляны зайчык ;

**тырла** - месца для жывёлы у гарачыню і ноччу ; **хамут** - частка конскай вупражы ; **хамса** - гл. камса ; **хамяк** - стэпавы грызун ; **уюк, юк** - пакунак для перавозкі на спіне вярблюда, каня, асла ; **цяля, цялё** - дзіця каровы ; **цярпуг** - марская рыба .

## Ч , Ш , Ю

**Чабан** - пастух авечага статка ; **чайка** - птушка пры вадаёмах, мэва ; **чапрак** - пакрыццё для каня ; **чучала** - пудзіла, упрыгожанне зробленае са шкуры звяра, птушкі ; **чырок** - невялікая качка ; **шакал** - драпежнік сямейства сабачых ; **шамая** - рыба з сямейства карпавых ; **шашлык** - страва са смажанага мяса ; **югурт** - кіслае малако ; **юрага** - падонкі канаплянага алею ; **юхт, юхта** - вырабленая скура гавяды .

*Я.Якубоўскі*

---

**Да 70-годдзя ўтварэння Усепольскага аб'яднання мусульман**

## УРАЧЫСТАСЦІ Ў БЕЛАСТОКУ

29-31 снежня 1995 г. ў філармоніі г. Беластока ўрачыста адзначалася 70-годдзе ўтварэння Усепольскага аб'яднання мусульман . У гэтым мерапрыемстве прынялі ўдзел мусульмане Беластока, іншых гарадоў і вёсак Польшчы, дзе жывуць мусульмане, шматлікія прадстаўнікі ад каталіцкага і праваслаўнага духавенства, мэры , госці з Літвы і Беларусі .

З вялікім дакладам на пасяджэнні выступіў знакаміты гісторык Мацей Канапацкі , які падрабязна характэрызаваў шлях згуртавання мусульман на працягу 70 гадоў . Гэта быў складаны і цяжкі шлях : годы вайны, эміграцыі , вялікія страты, якія панесла мусульманская інтэлігенцыя . Але добрая супольнасць, згуртаванне, узаемадапамога дапамагла выстаяць і захаваць народ .

На вечарыне з віншавальным словамі выступілі шматлікія ўдзельнікі і госці. Адбыўся святочны канцэрт . На наступны дзень адбылося пашыранае пасяджэнне мусульманскага рэлігійнага саюза Польшчы, на якое былі запрошаны прадстаўнікі маладзёжных мусульманскіх суполак і госці .

Былі падведзены вынікі работы за мінулы год і зацверджаны план работы на 1996 год . З дакладам выступіў старшыня згуртавання Ян Сабалеўскі . Выступілі таксама кіраўнікі мусульманскіх філій : доктар Алі Казакевіч ( Варшава ), доктар Селім Хазбіевіч ( Гданьск ), доктар Алі Міскевіч ( Беласток ), доктар Мацей Канапацкі ( Гданьск ), доктар Ромас Макавяцкас ( Каўнас ), член муфціята Беларусі Аляксандр Крыніцкі( Гродна ) і некаторыя іншыя . Усе выступоўцы ўносілі прапановы па паляпшэнню работы аб'яднання, пашырэнню яго ўплыву на польскіх мусульман .

31 снежня ўсе разам сустракалі Новы Год у памяшканні мусульманскай школы г. Беластока За святочным сталом гучалі тосты і пажаданні ўмацоўваць адзіную сям'ю мусульман, пашыраць яе ўплыў на захаванне самабытнай мусульманскай культуры татар Польшчы, Літвы і Беларусі .

**Беласток - Гродна , снежань 1995 г.** **Аляксандр Халецкі**

# ДЛЯ ВАС, СЛЕДАПЫТЫ

У кнізе Станіслава Дзядулевіча " Гербаж родзін татарскіх в Польсцэ ", надрукаванай ў 1929 г. ёсць вельмі патрэбныя для нас звесткі. У " Спісе гнязд родовых " названы населеныя пункты, у якіх жылі татары - усяго каля 500 гарадоў, мястэчак, вёсак, засценкаў, хутароў. Згрупаваны яны па паветах - 51, якія знаходзяцца ў межах сучаснай Беларусі ( пераважна ), Літвы, Польшчы, Украіны. Паветы не маюць акрэсленага стану існавання : адны на канец 16 ст., іншыя да 1939 года.

Каб не ўводзіць чытачоў у зман, спрабуючы назвы населеных пунктаў у сучасным вымаўленні і напісанні, мы падаем іх так, як напісана ў кнізе С. Дзядулевіча.

А на што мы спадзяемся, звяртаючыся да следапытаў ?

Даследчык напіша, напрыклад, так :

**Рубяжэвічы**, вёска ў Стаўбцоўскім раёне Мінскай вобл., цэнтр сельсавета.

**Ляхавічы**, вёска ў Дзяржынскім раёне Мінскай вобл., цэнтр сельсавета.

Я выбраў самыя лёгкія населеныя пункты. Будуць і такія, якія цяжка адшукаць, якія ўжо даўно не існуюць. Трэба іх шукаць ў спісах населеных пунктаў па губернях, паветах ( уездах ).

Тым, хто адшукае мясціны, дзе жылі татары, будзе вялікі гонар і пашана. Па гэтых матэрыялах будзе складзена і апублікавана карта, а пад ёю названы прозвішчы даследчыкаў.

Дасылайце свае расшыфроўкі на адрас :
220086, Минск, ул. Славинского, д. 21, кв. 8. Якубовскому Я.А.

## *Powiat miński.*

| | |
|---|---|
| Adamowicze | 16, 208 |
| Bielice | 16, 374, 103, 184, 262, 38, 397 |
| Bujły | 15, 387 |
| Czaplino | 81, 272 |
| Dawidgródek | 397 |
| Dawidów | 15 |
| Gryszkańce | 226 |
| Horodziłowo | 249, 345 |
| Jakieliszki | 184 |
| Kleck | 220, 429, 430 |
| Kramarowo | 15 |
| Krasne Sioło | 10, 64, 67, 69, 81, 104, 111, 112, 131, 162, 163, 184, 443, 453 |
| Krynica—Wewierska | 181 |

# СЛАВА

## ЯЎГЕН ГУЧОК

Тут толькі што муху хлопнулі ,
А дзесь у гэты час
Знакамітым зрабіўся хтосьці .

*******

Сядзіць на чалавеку слава ціха,
Ды толькі ён сабе
Ніяк месца не знойдзе .

*******

Пад плямай славы
Звычайна селіцца
Хвароба.

*******

Здзічэла яблыня ў садзе -
І тым сабе славутасць
Набыла .

*******

Мураш стаў знакамітым з той прычыны,
Што ён пакінуў
Мурaвейнік свой .

*******

Хоць устаўную,
Нібы зубы,
А славу людзям падавай .

Магутныя крылы ў славы,
Ды машуць яны
Не ў Божы бок .

*******

Хаваюцца ад Бога
І ў славы
Пад крылом .

*******

Хто славу шукае,
Той страчвае
Бога .

*******

Як кацяня з блюдца малако,
Так слава душу чалавека
Зліжа .

*******

Павялічваецца слава -
Памяншаецца
Душа .

*******

Удзячны лёсу будзь,
Што слава абышла цябе,
Пераступіла .

# КРЫМСКАТАТАРСКА - БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІК

## 1500 СЛОЎ І СЛОВАЗЛУЧЭННЯЎ АД ДЗЯДЗЬКІ ІСМАІЛА МЕМЕТАВА

| Крымскататарскае слова | Беларускае слова |
|---|---|
| **Къ** | |
| Къаарь | гора, жалоба |
| къабакъ | кавун |
| къабиле | род, племя |
| къабилиет | здольнасць |
| къабристан | могілкі |
| къабул этильген | прыняты |
| къабул этмек | прымаць |
| къавал огъачы | бузіна |
| къавалы | салодычы |
| къаверенки | карычневы |
| къавий | моцны |
| къавун | дыня |
| къавурма | смажаніна |
| къадаймакъ | тырчаць |
| къадар | і, да |
| къадимий | стары, старадаўні |
| къадифе | аксаміт |
| къадын | жанчына, жонка |
| къадыным | жонка |
| къазы | гусь |
| къаиде | правіла |
| къайда | куды, дзе |
| къайда экен | недзе |
| къайдан | адкуль |
| къайлы дегиль | нязгодны |
| къайлы олмакъ | згадзіцца |
| къайметли | каштоўны |
| къайнана | свякроўка, цёшча |
| къайната | свёкар |
| къайын | бяроза |
| къайсы | каторы, абрыкос |
| къайтмакъ | вярнуцца |

| | |
|---|---|
| къайык | лодка |
| къалав | муроўка |
| къалдырмакъ | пакідаць |
| къалдырым | ходнік, тратуар |
| къале | крэпасць, замак |
| къалем | ручка для пісання, пяро для пісання |
| къалмакъ | застацца |
| къалын | тоўсты, грубы |
| къамыш | чарот |
| къан | кроў |
| къандиль | свяцільнік |
| къандырмакъ | пераконваць |
| къансиер | каліна |
| къантар | шалі , вагі , вялікі бязмен |
| къануний | законны |
| къап | футляр, чахол, вокладка, пераплё |
| къапар | узятак ( пчалы ), хабар |
| къапста | капуста |
| къапы | вароты, дзверы |
| къапыджы | варатар, сторож пры дзвярах |
| капыста | капуста |
| къар | снег |
| къара | цёмны, чорны |
| къара богъдай | грэчка |
| къара туруп | рэдзька |
| къарабаш от | кмен пясчаны |
| къарагъач | вяз |
| къараджа | алень |
| къаразере | кмен |
| къаракуль къоюнлар | каракульскія авечкі |
| къараман | герой |
| къараманане | гераічны |
| къаранфиль | гваздзік |
| къарасабан | ралля, узаранае поле |
| Къардаш | брат |
| къардашчасына | брацкі , па-брацку |
| къардашым, къардашчыгъчы | браток |
| къарпыз | гарбуз |
| къарт | стары, старык |
| къарт адам | стары чалавек, пажылы чалавек |
| къартана | бабуля |

| | |
|---|---|
| къартбаба | дзядуля |
| къартий | дзед |
| къартоп | бульба |
| къаршы | супроць |
| къары | жонка |
| къарындаш | аловак |
| къарышламакъ | сустрэць |
| къарышма | раствор |
| къат | паверх |
| къатты | жорсткі , цвёрды |
| къач | колькі |
| къачмакъ | уцякаць, уцячы |
| къашан | забіяка |
| къашкыр | воўк |
| къозукъўлакъ | шчаўе |
| къой | авечка |
| къой эти | бараніна |
| къоймакъ | ставіць, класці |
| къокъу | пах |
| къокъулы | пахучы, духмяны |
| къол | рука |
| къолчакъ | пальчаткі |
| къомшы | сусед |
| къорай | быллё |
| къоркъунчлы | страшны |
| къоркъмакъ | баяцца |
| къочан | качан |
| къочкар | баран |
| къою | густы |
| къоян | заяц |
| куббе | купа ( нябесны ), звод |
| куваламакъ | бегчы наўздагон |
| куванам | задаволены, радуюся, цешуся |
| куванманъ | радасць |
| куванучлы | вясёлы, радасны, у добрым гумары |
| куваныч | радасць |
| къувет | сіла |
| къуветнен | сіла, сілком |
| къувмакъ | гнаць, праганяць |
| къуда | сват |
| къуйрукъ | хвост |
| къулак | вуха |
| къулле | вежа, башня, вышка |

| | |
|---|---|
| къум | пясок |
| къурмакъ | стварэнне, твор, будаваць |
| къурназ | хітры |
| къуруджы | будаўнік |
| къурудылыкъ | будаўніцтва |
| къурулгъан | створаны, пабудаваны |
| къурултай | з'езд |
| къуры | сухі |
| къутуб | полюс |
| къушак | пояс |
| къыбла | напрамак на Мекку, напрамак на поўдзень |
| къыджыткъан | крапіва |
| къыдырмакъ | шукаць |
| къыз | дзяўчына |
| къыз къардаш | сястра малодшая |
| къыз къардашым | сястра малодшая |
| къызганыч | скупы |
| къызым | дачка |
| къызчыкъ | дзяўчынка |
| къыз бала | дзяўчынка |
| къызчыкълар | дзяўчаты |
| къыйметли | дарагі , каштоўны |
| къылгъанот | кавыль |
| къызыл | чырвоны, прыгожы |
| къызым | дачка |
| къырав | іней |
| къырал | кароль |
| къылыф | футляр, футарал |
| къыркъ | сорак |
| къчырмакъ | крычаць, крыкнуць |
| къырмызы | чырвоны, прыгожы |
| къырмызы чюкюндир | чырвоны бурак |
| къыскъа | кароткі |
| къысмет | доля, лёс |
| къыта | мацярык, частка свету |
| къмыр | скупы |
| къыш | зіма |
| къыяс | параўнанне, супастаўленне |

# Л

| | |
|---|---|
| лагъап | мянушка |
| лаф | размова |
| лахырды | гаворка, бяседа |
| левха | краявід, карціна, замалёўка |
| лезетли | смачны |
| лезетсиз | нясмачны |
| леке | пляма, клякса |
| лекция | лекцыя |
| лисан | мова |
| лиф | валакно |
| лугъат | слоўнік |
| лякин | але |
| лятиф | вытанчаны |

---

**З другога тома васемнаццацітомнай Беларускай энцыклапедыі**

# БЕЛАРУСКІХ ТАТАРАЎ МОВА

Беларускіх татараў мова, першасная цюркская мова татараў, што пасяляліся на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага ў 14-16 ст.ст.. Гетэрагеннасць мовы беларускіх татараў, распыленне іх па ўсяму ВКЛ, нецюркскае сямейнае асяроддзе ( шлюбы мужчын-татараў з беларускамі ) абумовілі хуткае ( з канца 16 ст. ) выцясненне Б.т.м. беларускай і польскай мовамі . Мову рэлігіі - арабскую беларускія татары ( апрача муллаў ) таксама не ведалі і не адрознівалі ад цюркскай. Зыходзячы з таго, што большасць беларускіх татараў мела крымскае паходжанне і толькі нязначная частка - залатаардынскае ( волжскае ) ці турэцкае, можна лічыць іхняй першаснай мовай гетэрагенныя ( кыпчацкія і агузскія ), у той час яшчэ не уніфікаваныя і не зафіксаваныя ў пісьменнасці дыялекты крымска-татарскай мовы ( гл.). Невялікая частка беларускіх татараў у выніку гандлёвых зносін і адукацыі авалодвала турэцкай мовай . Б.т.м. мела 8 галосных ( **а,ы,о,у, э,и,ё,ю**; знакі паводле дзеючай крымска-татарскай графікі ), у сістэме зычных : глыбоказаднеязычныя **гъ,къ** побач з больш пярэднімі **г,к** ; наяўны звонкі афрыкат **дж** , заднеязычнае **нъ**. Сінгарманізм складу і слова . Назоўнікі мелі катэгорыі ліка, склона, прыналежнасці і прэдыкатыўнасці . Прыметнікі выражалі ступень інтэнсіўнасці . Дзеяслоў меў катэгорыі часу, асобы, ладу, стану ; аддзеяслоўны назоўнік на **-макъ** выступаў у функцыі інфінітыва . У лексіцы шмат арабскіх і іранскіх запазычанняў .

**А.Я. Супрун**

# " ТАТАРЫ БЕЛАРУСІ, ЛІТВЫ І ПОЛЬШЧЫ "

**( Слоўнік – назвы артыкулаў, якія мяркуем скласці і надрукаваць у энцыклапедычным даведніку, названым у загалоўку )**

Складзены слоўнік на падставе даведнікаў і манаграфічнай літаратуры . Пасля слова ці групы слоў, якія абазначаюць з'яву, падзею, прадмет, імя чалавека ( пр    ішча ), нярэдка ў слоўніку пазначаны вялікімі літарамі і лічбамі дадатковая інфармацыя . Літары – імя ці імёны аўтараў манаграфій, а лічба – нумар старонкі ў кнізе, дзе пра энцыклапедычны артыкул ёсць некаторыя звесткі :

**БД** – Пётр Бараўскі і Аляксандр Дубіньскі . " Польскія татары . Гісторыя, абрады, легенды, традыцыі ", 1986 ;
**ЯТ** – Ян Тышкевіч . " Татары Літвы і Польшчы ", 1989 ;
**АМ** – Алі Міськевіч . " Польскія татары 1918–1939 ", 1989 ;
**Г** – Зыгмунт Глогер . " Старапольская ілюстраваная энцыклапедыя ". Т. 1–4, 1959 .

Паважаны чытач ! У надрукаваным тут слоўніку будучых артыкулаў, якія пачынаюцца на літары " **Ф** ", " **Х** ", " **Ц** " ( у папярэдніх выпусках " Байрама " і ў наступным будуць надрукаваны назвы ўсіх артыкулаў ), вядома, могуць быць пропускі . Дасылайце свае прапановы, а яшчэ лепш – завершаныя артыкулы, а таксама палепшаныя Вамі артыкулы, якія ўжо былі некім напісаны і друкаваліся ў " Байраме " як пробныя .



**Ф** , літара
**ФА** , назва літары " Ф "
**ФАДАК** , аазіс у Хіджазе
**ФАДЖАР** , малітва перад узыходам сонца
**ФАДЖАР** , а л ь – Ф а д ж а р, 89–я сура з Кур'ана
**ФАЗЛЯЕЎ** Асфандзіяр, варшаўскі імам, АМ 82, 84
**ФАЙ** , усё, што мусульманін атрымлівае ад немусульман
**ФАКІР** , бядняк, вандроўны фокуснік
**ФАКІХ** , багаслоў–законавед
**ФАЛ** , варажба, БД 201
**ФАЛ АБРАДАВЫ** , ф а л а б ж э н д н ы
**ФАЛ АЛІФНЫ**
**ФАЛ ХЭМЕЛАВЫ**
**ФАЛЯК** , а л ь – ф а л я к , 113–я сура з Кур'ана
**ФАРД** , ф а р з, ф е р ц , паступкі і нормы паводзін
**ФАЛДЖЭЙ** , с ю ф к а ч , ф а л д ж ы , варажбіт, БД 200
**ФАЛЬШАВАННЕ** , Г, Т. 2 142

**ФАРЗ**, гл. Фард
**ФАСІК**, недастойны чалавек
**ФАТВА**, гл. Фітва
**ФАТХ**, аль - Фатх, 48-я сура з Кур'ана
**ФАЦІР**, аль - Фацір, 35 сура з Кур'ана
**ФАТЫМА**, Фаціма, дачка Мухаммеда і Хадыджы
**ФАТЫХА**, аль - Фатыха, 1-я сура з Кур'ана
**ФЕДЖЭР**, лотр
**ФЕЗІХЕ**,
**ФЕРЦ**, гл. Фард
**ФЕРЭОН**, фіраун, фараон
**ФЕРАЛЬНЫЯ ДНИ**, гл. Нешчаслівыя дні, ВД 202
**ФЕТВА**, гл. Фітва
**ФІКХ**, ал - Фікх, правілы паводзін для мусульман
**ФІЛКА**, мілла, таіфа, група людзей, якія прытрымліваюцца іншай думкі
**ФІЛЬ**, аль - Філь, 105-я сура з Кур'ана
**ФІННАРЫ І ФІССЕКАРЫ**, пякельны агонь, пракляцце
**ФІРАУН**, гл. Ферэон
**ФІРАК**, пекла
**ФІРДЭВС**, рай
**ФІРЫШТЭ**, анёл, ангел
**ФІРЭІ**, гл. Фірэй
**ФІРЭЙ**, злы дух, фірэй, дурны, вар'ят, ВД 199, 240
**ФІРЭЙСКАЯ ХВАРОБА**, вар'яцтва, ВД 202
**ФІТВА**, фетва, фатва, футйа, іфта, тлумачэнне муфтэя
**ФІТР**, фітрэ, грошы, якія аддаюць мусульмане для мячэці ў Рамазан
**ФРЫДРЫХ ВІЛЬГЕЛЬМ II**, прускі кароль, БД 126
**ФУРАК**, рака Еўфрат
**ФУРКАН**, аль - Фуркан, другая назва Кур'ана
**ФУРМАНСТВА**, возніцтва, рамізніцтва, АМ 70, ЯТ 220,225,227-239,261,268
**ФУРС** Ян Уласавіч, бурмістр у Менску ў 1667-1687, ЯТ 227, 226, 262
**ФУРУ** ал-Фікх, частка фікху
**ФУТА**, частка адзення памерлага
**ФЭЛЬЕМУ**
**ФЭРЗЯ**, сукня, Г. Т. 2 150
**ФЭРЭЙ**, гл. Ферэй

# Х

**Х**, літара
**ХА**, назва літары " Х "
**ХА**, назва літары " Х ", якая азначае цвёрды гук
**ХАБАР**, асар, гл. Хадзіс
**ХАБІБ**, прыяцель, любімы

**ХАБІБУЛІН** Сінатулла, варшаўскі імам і капелан у Войску Польскім у 1919-1921 гг., АМ 35, 157
**ХАБІЛ**, гл. К а б і л і Х а б і л
**ХАВАРЫ**, паплечнік
**ХАВВА**, Е в а, першая жанчына, жонка Адама
**ХАДД**, пакаранне за маральныя праступкі
**ХАДЖ**, а л ь - х а д ж, паломніцтва ў святыя месцы
**ХАДЖЭЙ**, пілігрым
**ХАДЖЫ ГІРЭЙ**, хан, БД 42
**ХАДЗІДЖА**, гл. Х а д ы д ж а
**ХАДЗІР**, Х і д р, Х і з р, Х е д а р а ц і, Х о д ж а Х і д р, персанаж паданняў
**ХАДЗІС**, х а д ы с ь, х е д ы с ь, х е д з і с, х а б а р, а с а р, паданне, аповесць пра словы і справы Мухаммеда
**ХАДЫДЖА**, Х а д з і д ж а, першая жонка прарока Мухаммеда
**ХАДРЭТ**, слова, якое мовіцца пры ўпамінанні імя Прарока
**ХАІ ДЗМІР**, фанетычная з'ява
**ХАІ СЕКТЭ**, адносна 9-ці адметных месц у Кур'ане
**ХАІД**, х а і з, месячнае ачышчэнне ў жанчын
**ХАЗБІЕВ Ч**, князь у ВКЛ
**ХАЗБІЕВ Ч**, журналіст, грамадскі дзеяч
**ХАЗФ**
**ХАЙБАР**, аазіс на поўнач ад Меккі
**ХАЙР**, дабро, добры ўчынак
**ХАЙРУЛЛАГ**, слова, якое кажуць таму, хто чыхае
**ХАК**, права, слушнасць
**ХАКІМ**, трацейскі суддзя
**ХАКК**, сапраўднасць
**ХАЛАЛ**, х а л я л ь, х е л а л, дазволеннае
**ХАЛВА**, прысмак, салодыч
**ХАЛЕК**, Стваральнік, Аллаг
**ХАЛІФ**, х а л ь ф е й, глава мусульман, манарх
**ХАЛІСА**, шостае неба
**ХАЛЬФЕЙ**, гл. Х а л і ф
**ХАЛЯЛЬ**, гл. Х а л а л
**ХАМАІЛ**, малітоўнік, ЯТ 297; БД 250, 251; АМ 102
**ХАМАР**, гл. Х а м р
**ХАМР**, х а м а р, віно
**ХАН**, тытул, БД 227
**ХАНІФІТЫ**, староннікі ханіфіцкага мазгабу
**ХАНІФІЦКІ МАЗГАБ**, рэлігійна-прававая школа
**ХАНБАЛІЦКІ МАЗГАБ**, рэлігійна-прававая школа, гл. Г а н б а л і ц к і м а з г а б

**ХАНІФ** , прававерны чалавек, які вызнае аднаго і адзінага Бога
**ХАРАМ** , м а х з у р , забароненае, грэх
**ХАРУГВА** , Г , Т. 1 100
**ХАРУГВЫ ТАТАРСКІЯ** , ВД 82-83
**ХАРУНЖАСТВА** , вайсковая акруга
**ХАРУНЖЫ ТАТАРСКІ** , ВД 208, 209
**ХАРЫМ** , неадчужаныя землі
**ХАРАДЖ** , а л - х а р а д ж , г а р а ч , пазямельны падатак
**ХАРУТ І МАРУТ** , анёлы, ангелы
**ХАМР** , х а м а р , х е м р ы , віно
**ХАРУН** , гл. Г а р у н , біблейскі Аарон
**ХАСАН** , а л - Х а с а н , унук Мухаммеда
**ХАТУНКІШЫ** , кабета, жанчына
**ХАТЫБ** , х а ц і б , прапаведнік, аратар, імам кафедральнай мячэці
**ХАФІЗ** , чалавек, які ведае Кур'ан на памяць
**ХЕБІБ** , гл. Х а б і б
**ХЕДЖЫМ**
**ХЕДЗІС** , гл. Х а д з і с
**ХЕЙЙІЖ** , ачышчэнне жанчыны
**ХЕЛАЛ** , гл. Х а л а л
**ХЕЛАЛІКДУР** , аблуда
**ХЕМРЫ** , гл. Х а м р
**ХЕТАР** , небяспека, гл. Х э т а р
**ХЕТЫМ**
**ХІДЖАБ** , гл. Ч а д р а
**ХІДЖРА** , а л - Х і д ж р а , перасяленне Мухаммеда і мухаджыраў з Меккі ў Медыну ; пачатак мусульманскага летазлічэння
**ХІКАЕТ** , аповесць, апавяданне, гл. Х ык а й е т
**ХІЛЬЯТ** , цела, уласцівасць цела
**ХІЗЬБ** , гл. Х ы з б
**ХІСБА** , кантроль за выкананнем норм Шарыяту
**ХОДЖЫ** , г о д ж а , вучыцель рэлігіі і ганаровая назва таго, хто здзейсніў паломніцтва ў святыя месцы
**ХОДЗЬКА** Ігнат, навуковец, ВД 240
**ХРЫСЦІЯНЕ** , АМ 150, 151
**ХРЫСЦІЯНІЗАЦЫЯ ТАТАРАЎ** , ( 1580-1582, 1609-1620 ), ЯТ 289, 294; ВД 39
**ХУД** , куранічны персанаж, гл. Г у д
**ХУД** , 11-я сура з Кур'ана, гл. Г у д
**ХУДАБІЙЯ** , а л ь - Х у д а б і й я , мясцовасць каля Меккі
**ХУДЖУРАТ** , а л ь - Х у д ж у р а т , 49-я сура з Кур'ана
**ХУЛЬЯ** , жалезнае ярмо, кайданы
**ХУКУМ** , мудрае меркаванне

**ХУМЕ** , перадача 20% здабычы на карысць дзяржавы
**ХУР** , х у р ы і , г у р ы і , прыгожыя дзяўчаты ў раю
**ХУРМАНОВІЧ** Гамід Абдул, старшыня згуртавання мусульман сталічнага горада Варшавы, АМ 30-40

**ХУРФ** , літара
**ХУСАЙН** , а л - Х у с а й н , унук Прарока, гл. Г у с а й н
**ХУТБА** , х у т б е , пропаведзь ( казанне ) імама ў пятніцу
**ХУТМА** , другое пекла
**ХУТЫНСКАЕ ХАРУНЖАСТВА** , БД 208
**ХЫ** , назва літары " Х "
**ХЫКАЙЕТ** , аповесць, апавяданне
**ХЫЛЯВЫК** , адыход, адаленне ад разумнага , правільнага
**ХЫЗБ** , х і з б , ( у Кур'ане 120 хызбаў )
**ХЫНЗІР** , свіння
**ХЭТАР** , г а т а р , х е т а р , небяспека

# Ц

**Ц** , літара
**ЦАБАН** , ч а б а н , авечка, авечы пастух, Г , Т. 1 221
**ЦАЛУН** , ц а л о н , пакрывала для памерлага
**ЦЕМЕШ ШЭГІДЗЭВІЧ** , князь на службе ў ВКЛ, БД 51
**ЦЕМІР ГОДЖА** , хан, гл. ў арт. З а л а т а я А р д а
**ЦІВУН** , т ы в о н ь , Г , Т. 1 246
**ЦІЖМЫ** , ц і ж э м к і , татарскі жаночы абутак, Г , Т. 1
**ЦІМУР** , эмір, Т а м е р л а н
**ЦІМУР-КУТЛУГ** , хан, ЯТ 124
**ЦІМУРЛЕНГ** , гл. Ц і м у р
**ЦЫСЯБ** , рахунак, справаздача чалавека ў Судны Дзень
**ЦЭ** , назва літары " Ц "
**ЦЭНТРАЛЬНЫ ТАТАРСКІ КАМІТЭТ** , АМ 29
**ЦЮМЕН** , т у м е н , вайсковая адзінка - 10 тысяч воінаў, БД 211
**ЦЮРКІ** , роднасныя па мове народы
**ЦЮРКСКІЯ МОВЫ**
**ЦЯМРУК ШЫМКЕВІЧ** , чаркескі князь на польскай службе, БД 65
**ЦЯЦІВА** , струна з быдлячых кішок, Г , Т. 1 244

# ПРОБНЫЯ АРТЫКУЛЫ ДЛЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНАГА ДАВЕДНІКА " ТАТАРЫ БЕЛАРУСІ, ЛІТВЫ І ПОЛЬШЧЫ "

## ( І ЎСЁ ТОЕ, ШТО ІХ ЦІКАВІЦЬ )

**АЛІДЫ**, ал-Алавійа, ал-Алавійун, нашчадкі Алі ібн Таліба - чацвертага халіфа, стрыечнага брата і зяця прарока Мухаммеда. Згодна з крыніцамі, у Алі было 14 ( ці 18 ) сыноў і 19 ( ці 17 ) дочак ад 8 ці 9 жонак. Найбольш вядомымі ў гісторыі аказаліся аль-Гасан і аль-Гусайн ад Фацімы, дачкі прарока Мухаммеда, і Мухаммад бен аль-Ганафійа ад жанчыны з племя ганіфа. Менавіта гэтыя тры галіны прэтэндавалі на вярхоўную ўладу. Дзевяць з дванаццаці імамаў, прызнаных шыітамі - імамітамі, дала галіна аль-Гусайна ( імёны і час праўлення гэтых імамаў гл. ў артыкуле шыіты ). На працягу амаль ўсей гісторыі Ісламу Аліды ці іх прыхільнікі вялі збройную і ідэалагічную барацьбу, адстайваючы выключнае права рода Алі на імамат. Аліскі рух, які змагаўся за перадачу ўлады па спадчыне, парадзіў вучэнне шыітаў, прапаведаваўшых богаданнасць ўлады імама. У ходзе барацьбы ў розных канцах халіфата ўзніклі імаматы на чале з Алідамі. Найбольшы поспех прыйшоўся на долю алідскіх дынастый Ідрысідаў у Марока ( 789-926 ), Фацімідаў у Паўночнай Афрыцы, Егіпце і Сірыі ( 909-1171 ), Расідаў у Йемене ( з пачатку 9 ст. да 1281 г. ), Зайдзітаў у Табарыстане ( 863-64-928 ) і Йемене ( 1592-1962 ). Шматлікія нашчадкі Алідаў жывуць ва ўсіх мусульманскіх краінах. Яны маюць пераважным правам насіць зялёную чалму і звацца саййідамі ці шарыфамі. У вузкім значэнні Аліды - больш позняя назва абшчыны " крайніх " шыітаў - нусайрытаў ( аннусайрыйа ).

**С. Прозараў**.

**АЎГУСТ III**( August III Fryderyk ), курфюрст саксонскі ( 1733-1768 ) і кароль Рэчы Паспалітай, сын і намеснік Аўгуста II. Нарадзіўся 17.10.1696 г. ў Дрэздэне, памёр 5.10. 1763 г. Адзіны сын Аўгуста II і Хрыстыяны Эбергардыны Гагенцолерн. Быў выхаваны ў лютэранскай веры. Падарожнічаючы па Германіі, Францыі і Італіі ён тайна прыняў каталіцкую веру ў Балонькі, хоць адкрыта прызнаў сябе католікам толькі ў 1717 г. ў Саксоніі. Мяркуюць, што матывам перахода ў каталіцтва маглі быць спадзяванні на польскую карону і на шлюб з аўстрыйскай прынцэсай. У 1733 г., пасля смерці бацькі ён, нягледзячы на імкненне французскага караля Людовіка 15 зноў пасадзіць на трон караля Рэчы Паспалітай Станіслава Ляшчынскага, быў абвешчаны каралём часткай шляхты, але афіцыйна прызнаны каралём толькі на варшаўскім сойме ў 1736 г. Не маючы здольнасцей свайго бацькі, ён аднак пераняў ад яго імкненне да раскошы, па яго прыкладу меў багаты двор і траціў вялікія сумы грошаў на прыдбанне карцін і на ўтрыманне сваей капэлы.

Кіраванне дзяржавай даручыў свайму міністру і фаварыту графу Генрыху Брулю. У 1741 г. Аўгуст III дзейнічаў супроць Марыі Тэрэзіі ў саюзе з Іспаніяй, Францыяй і Баварыяй, але занепакоены поспехам прускага караля Фрыдрыха II, ужо ў 1742 г. памірыўся з Марыяй Тэрэзіяй. У 1745 г. двойчы пацярпеў паразу і толькі па Дрэздэнскаму міру ( пач. 1746 г. ) атрымаў сваю Саксонію, занятую Прусіяй. Пасля ўзнаўлення вайны ў 1756 г. ён, паводле тайнай дамовы з Аўстрыяй, зноў уцягнуўся ў вайну з Прусіяй, але быў аточаны Фрыдрыхам II ў лагеры пры Пірне з 17 тысячным войскам, якое павінна было здацца ў палон. Сам Аўгуст III уцёк у Кенігштэйн, а пасля ў Польшчу. Толькі пасля Губертсбурскага міру ён вярнуўся ў Дрэздэн, дзе і памёр.

**З энцыклапедычнага слоўніка Бракгаўза і Эфрона, т. 1, 1890.**

---

Як і пры Аўгусте II татары пры Аўгусце III атрымлівалі землі ў каралеўскіх эканоміях. У 1754 г. была пацверджана каралеўская прывілея Яна III Сабескага, пры гэтым дзейнасць яе пашырылася на татар, якія жылі ў маёнтках Радзівілаў, чыя служба прыраўноўвалася да службы Рэчы Паспалітай. У 1733 г. ўтвораны ў саксонскай арміі другая татарская часць. Чымбай Мурза Рудніцкі ( яму належаў маёнтак Руднікі каля Навагрудка ) першым з татараў атрымаў чын саксонскага генерал-маёра. Уланскае войска ( гл. Уланы ) вызначылася ў вайне за аўстрыйскую спадчыну 1740-1748 гадоў у Сілезіі, Чэхіі, Маравіі, Саксоніі. У вайне паміж Прусіяй і Саксоніяй ў 1756-1762 гадах, нягледзячы на фармальны нейтралітэт Рэчы Паспалітай, многія часці адправіліся на фронт. Акрамя палкоў Рудніцкага і Аляксандра Мустафы Карыцкага ў Чэхіі і Саксоніі змагаліся за караля Аўгуста III і іншыя татарскія фарміраванні.

**С. Думін**

**<u>АХВЯРЫ СУПРОЦЬ ЗГУБНАЙ ЗАСУХІ І ЗАЛІЎНЫХ ДАЖДЖОЎ</u>**, а х в я р а ч о р н ы м б а р а н о м і б е л ы м б а р а н о м прыносіліся беларускімі татарамі-мусульманамі яшчэ ў першай палавіне 20 стагоддзя. Гэта астакі старога дамусульманскага культу, які існаваў у цюркскіх народаў да 11-14 стагоддзяў, а пасля быў крыху ісламізаваны. З мэтай выклікання дажджу ў час працяглай, нярэдка згубнай для збожжа і агародніны, пашаў засухі татары прыносілі ў ахвяру чорнага барана. У пэўны дзень надвячоркам грамада татараў на чале з імамам ішлі на бераг ракі або ручая. Імам быў убраны ў д ж у б б у ( сутану ) падшэўкай на верх. На беразе ракі ці ручая, стаўшы радамі, мовілі малітву - т э к б і р. Ахвярнага барана паварочвалі галавой на поўдзень і рэзалі. Пасля таго, як прачытвалі пэўную малітву ( д у а ), мяса барана разразалі на кавалкі, пасля гатавалі і спажывалі на месцы ( аўчыну барана кідалі ў ваду, а косці закопвалі ).

Прынашэнне ахвяры белым бараном з мэтай спынення дажджоў і выклікання сонечнага надвор'я здаралася радзей . Абрад быў падобны як і ў час прынашэння ахвяры супроць засухі , розніца толькі ў тым, што барана рэзалі на пагорку, а пасля палілі яго цалкам . Паводле мусульманскай веры, можна прасіць у Аллага, каб Ён даў спрыяльнае надвор'е, толькі ахвяры жывёл - гэта шаманства . У час засухі і празмерных дажджоў пагроза ўраджаю была і ў гаспадарках хрысціян Беларусі - праваслаўных і каталікаў . Маліліся ў цэрквах і касцёлах . Татары - мусульмане маліліся дома і цярпелі , а калі надвор'е не менялася на лепшае, то маліліся і прыносілі ахвяру . Аказвалася так, што пасля ахвярапрынашэння ( адпаведна, чорнага ці белага барана ) надвор'е паляпшалася . Гэта і замацоўвала ў свядомасці людзей як дзейнасць ахвяры .

**П. Бараўскі , А. Дубіньскі**

**БАБУР** Захірэддзін Мухаммед ( 1483-1530 ), падзішах Індыі , заснавальнік дынастыі Вялікіх Маголаў, якая правіла Індыяй з 1526 да 1858 года . Дзяржаўны дзеяч, палкаводзец, пісьменнік . Паходзіць з роду Цімурыдаў . Маці Бабура была дачкой правіцеля Ташкента Юнусхана . У 12-гадовым узросце атрымаў трон у Фергане . У 1495-1512 гадах вёў барацьбу за аднаўленне імперыі Цімурыдаў у Сярэдняй Азіі . У выніку міжусобіц быў выгнаны са сваіх уладанняў. У 1504 г. Бабур заваяваў Кабул ( цяпер горад у Афганістане ), адкуль некалькі разоў рабіў паходы з мэтай авалодаць Самаркандам і Ферганой . У 1525 г. ўварваўся ў Індыю і ў далейшым пашырыў сваю ўладу на большую частку Паўночнай Індыі . Бабур - аўтар больш за 100 газеляў, каля 200 рубаі , некалькі туюгаў, месневі , кіцці і фардаў . Вершы сабраны ў зборнік ( " дыван "). У галоўным творы - " Бабур-намэ ", які вылучаецца вялікім гістарычным і мастацкім вартасцямі , апавядаецца пра падзеі з 1493 да 1529 года, згадваецца побыт, норавы і звычаі эпохі . Бабур напісаў таксама кнігу " Трактат аб арузе " ( метрычнае вершаскладанне ), аб юрыспрудэнцыі " Мубайін ".

**БАРСУК** ( Meles meles ), млекакормячая жывёла сямейства куніцавых атрада драпежных звяроў . Паводле слоўніка Шыпавай слова б а р с у к цюркскага паходжання . Звер пашыраны ў Еўропе, Азіі . На Беларусі рэдкі від . Трапляецца па усей тэрыторыі , акрамя Палесся, у лясах на сухіх глебах з глыбокім заляганнем грунтавых водаў, непадалёку ад адкрытай вады . Норы барсука разгалінаваныя, з гнездавай камерай на глыбіні да 1,5 м. Футра малакаштоўнае . Тлушч барсука выкарыстоўваецца ў народнай медыцыне .

Даўжыня цела 62-88, хваста 12-18 см., маса 10-12 кг. Тулава ззаду шырокае, звужаецца да галавы . Лапы кароткія, масіўныя, з моцнымі кіпцюрамі , прыстасаванымі для рыцця . Морда, шчокі , лоб белыя з чорнымі палосамі , бакі шараватыя з чорным . Актыўны ноччу . Палавая спеласць ў 2-гадовым узросце .

Гон у ліпені-жніўні . Прыплод ( 2-4 барсучанят ) у сакавіку-красавіку наступнага года . Корміцца жабамі , дробнымі грызунамі , паўзунамі , насякомымі , грыбамі , карэнішчамі раслін, ягадамі , жалудамі . Запас тлушчу восенню 3-4 кг. Зімовая спячка з лістапада да сакавіка . Барсук - жывёла, занесеная ў Чырвоную кнігу Беларусі . У мэтах захавання і павелічэння колькасці барсука ў Беларусі неабходна ахоўваць месцы пражывання, павялічыць матэрыяльную адказнасць за разбурэнне нор .

**Я.В. Малашэвіч**

**БІРУНІ** Абу-Рэйхан Мухаммед Ібн-Ахмед аль-Біруні ( 4.10.973 - 13.12.1048) харэзмскі вучоны-энцыклапедыст . Пісаў на арабскай мове . Працы па матэматыцы, астраноміі , фізіцы, батаніцы, геаграфіі , этнаграфіі , гісторыі і храналогіі , гісторыі рэлігіі , філасофіі , літаратуры, агульнай геалогіі і мінералогіі . Упершыню вызначыў удзельную вагу мінералаў . У класічнай працы " Кніга для пазнання каштоўных камянёў " даў падрабязныя звесткі пра больш чым 50 мінералаў, рудаў, шкло, эмалі і інш. У " Храналогіі старажытных народаў " даў апісанне каляндарных сістэм арабаў, персаў, габрэяў, грэкаў і інш. Напісаў вялікую працу пра Індыю . Усяго вядома больш за 150 навуковых прац . У 1967 г. ва Узбекістане ўстаноўлена Дзяржаўная прэмія імя Біруні ў галіне навукі і тэхнікі .

**БОГАБАЯЗНАСЦЬ** ( па-арабску т а к в а ), выражаецца ў асэнсаванні свайго абавязку і адказнасці мусульманіна . Усё што робіць мусульманін на гэтым свеце , ён упэўнены, што Аллаг спытае яго за пераканання , словы і справы . Мусульманін павінен не рабіць нічога, забароненага Аллагом і працаваць без ленасці . Усё сваё жыццё чалавек павінен адрозніваць дазволенае і забароненае, правільнае і памылковае, дабро і зло . Усё гэта павінна рабіцца свядома і на падставе свабоднага выбару самога чалавека .

**БРУКЛІНСКАЯ МЯЧЭЦЬ** , мячэць татараў-мусульман, продкі якіх паходзяць з Беларусі , Літвы і Польшчы . Знаходзіцца ў паўночнай частцы Брукліна -- раёна горада Нью-Йорка ў ЗША . Двухпавярховы цагляны будынак быў куплены татарамі- вернікамі ў 1907 годзе . Над будынкам пастаўлены паўмесяц, мінарэта няма . Даўжыня дома 18 м., шырыня - 12 м. На першым паверсе размешчаны зала пасяджэнняў, офіс, пакой для мыцця памерлых, кухня, туалеты . На другім паверсе - зал для малення, падзелены фіранкай для мужчын і для жанчын . Для імама, калі чытаецца хутба, ёсць мімбар-узвышэнне . Пазначаны напрамак на Кыблу, якая знаходзіцца на паўднёвы ўсход ад Нью-Йорка . Імамам у Бруклінскай мячэці былі Мурзіч, Алііевіч, цяпер Александровіч . Малітвы ў мячэці гучаць

на арабскай мове, хутбу імам чытае па-англійску, па-беларуску і па-польску.

**І. Александровіч**

**ГАГАУЗСКАЯ МОВА**, мова г а г а у з а ў. Адносіцца да паўднёва-заходняй (агузскай) групы цюркскіх моў. Гагаузская мова (пераважна ў лексіцы і сінтаксісе) падверглася значнаму ўплыву суседніх моў - балгарскай, рускай, малдоўскай і некаторых іншых. Асноўныя асаблівасці: наяўнасць працяглых галосных, дыфтангізацыя і йотацыя галосных верхняга і сярэдняга пад'ёму ў пачатку слова; моцная палаталізацыя большасці зычных у суседстве з галоснымі пярэдняга рада, вольны парадак слоў у сказе, развітая саюзная сувязь і інш. Галоўныя дыялекты гагаузскай мовы - чыдырлунгска-каматскі (цэнтральны) і вулканешцкі (паўднёвы). Пісьменнасць на гагаузскай мове ў СССР уведзена ў 1957 годзе. Алфавіт быў уведзены на базе рускай графікі, пасля абвяшчэння Малдовы самастойнай дзяржавай на падставе лацінскай графікі.

**Л. Пакроўская**

**ГАГАУЗЫ** (саманазва), народ у Малдове (154 тыс. чалавек), Украіне (32 тыс.), Расійскай Федэрацыі (10 тыс., Цюменская вобл., Хабараўскі край, Масква, С.-Пецярбург), у Казахстане, Узбекістане, Туркменіі, Беларусі, Латвіі, Эстоніі, Грузіі. У значнай ступені асіміляваныя іншымі народамі, гагаузы жывуць таксама ў Балгарыі, Румыніі, Грэцыі, Турцыі, Канадзе, Бразіліі. Размаўляюць на г а г а у з с к а й м о в е. Пісьменнасць на аснове лацінскага алфавіта. Вернікі - праваслаўныя.

Гіпотэзы пра паходжанне гагаузаў шматварыянтныя: ацюрэчаныя хрысціяне ці хрысціянізаваныя цюркі; балгары, якія пераанялі цюркскую мову і інш. У Турцыі існуе сельджукская тэорыя, згодна з якой гагаузы - нашчадкі малаазійскіх туркаў, якія ў 13 ст. пад кіраўніцтвам султана Ізеддзіна Кейнавуса перасяліліся ў Дабруджу і разам з цюркамоўнымі куманамі (полаўцамі) паўднёварускіх стэпаў заснавалі тут " Агузскую дзяржаву ". Да перасялення гагаузаў з Балканаў у Расію (Бесарабію) яны складаліся з двух груп: " Хасыл гагаузы " (сапраўдныя гагаузы) і " балгарскія гагаузы ". Хутчэй за ўсё, аснову гагаузаў склалі цюркамоўныя качэўнікі (агузы, печанегі, полаўцы). Еўрапейскія даследчыкі разглядаюць ў якасці верагодных продкаў гагаузаў цюркамоўных протабалгараў, якія ў 670-я гады прыйшлі на Балканы з берагоў Волгі.

У 13 ст. нашчадкі гагаузаў прынялі хрысціянства. Аднак звестак аб пашырэнні сярод вернікаў перакладу Новага Запавету на цюркскую мову (выданне біблейскага згуртавання ў Лондане з выкарыстаннем грэчаскага алфавіту) няма.

У руска-турэцкіх войнах канца 18 - пачатку 19 ст. гагаузы выступалі на баку Расіі. Яны перасяляліся ў спустошаныя стэпы Паўднёвай Бесарабіі,

пераважна ў Бендэрскі і Ізмаільскі паветы . У 1861-62 гг. група гагаузаў пасялілася ў Таўрычаскай губерніі . У ходзе рэалізацыі сталыпінскай аграрнай рэформы частка гагаузаў у 1912-14 гг. перасялілася ў Казахстан . У гады калектывізацыі ( 1930-я гады ) група гагаузаў асела ва Узбекістане, якая для захавання грамадзянскіх правоў пісаліся балгарамі ( да гэтага часу гагаузы ў с. Майскім Ташкенцкай вобл. лічаць сябе балгарамі ).

У 1959-1980 гг. колькасць гагаузаў на тэрыторыі былога СССР узрасла амаль на 60%. Аднак у 70-я гады прырост гагаузаў зменшыўся ў 2,5 разы ( у Малдове амаль ў 3 разы ) у параўнанні з 60-м гадамі з прычыны асімілятарскай палітыкі рэспубліканскіх улад . У 1970-я гады траціна гагаузаў жыла ў гарадах, астатнія ў сельскай мясцовасці . На мяжы 1980-х гадоў адсотак гараджан пабольшыўся да 36%. Адносна ўстойліва захавалася карыстанне роднай мовай ( у 1959 г. - 94,3%, у 1970 - 93,6%, у 1979 г. - 89,3%, у 1989 - 87,4% ), рускай мовай валодалі ў 1970 г. - 63,3%, у 1979 - 68%, у 1989 - 71,1%. Гагаузы слаба прадстаўлены ў сферы кіравання , абслугі , у навуцы, культуры .

Аснову традыцыйных заняткаў гагаузаў складалі жывёлагадоўля з перавагай авечкагадоўлі і земляробства, якое спалучаецца з агародніцтвам і вінаградарствам.

Традыцыйнае жыллё складаецца з трохкамернага дома, з верандай ўсцяж, якая трымаецца на слупах . Сцены пакояў упрыгожаны дыванамі пераважна з раслінным арнаментам, ручнікамі , на падлозе дывановыя дарожкі .

У канцы 19 ст. жанчыны апранапі палатняную кашулю, безрукаўную сукенку з фартухом . Дапаўняла жаночы касцюм вялікая чорная хустка . У зімовую пару апраналі сукенку з рукавамі , шарсцяную блюзку і футравую безрукаўку. Абавязковыя атрыбуты жаночага касцюма завушніцы, бранзалеты, каралі , у тым ліку маніста з залатых манет . Мужчынская вопратка : сарочка, шырокія шарсцяныя порткі , шырокі чырвоны пас, капялюш - летам, каракулевая шапка ( каўпак ) - зімой . У чабаноў звычайная сарочка спалучалася з порткамі з аўчыны ( мешын ) воўнай знутры ; футравая камізэлька і кароткая куртка з аўчыны ( кюрк ), часам дэкараваная чырвоным ці зялёным узорам .

У народнай кухні аселых гагаузаў прасочваюцца многія рысы мінулага побыту ( у спосабах перапрацоўкі малака, захоўвання мяса, тварагу, брынзы ў шкуры і г.д. ). Важнае месца ў харчаванні займаў хлеб . З хлебапячэннем, прыгатаваннем булак, праснакоў звязаны сямейныя святы і абрады . Улюбёная страва - слоеныя пірагі ( кырма ), начыненых брынзай, залітыя перад выпечкай смятанай . Ласункам лічыліся пірагі са здробненым кавуном і салодкія пірагі на малацэ і малодзіве . Асаблівае месца ў нацыянальнай кухні займалі крута наперчаныя падліўкі ( манжа ), закрашаныя з жыдкай кашкі і падсмажаныя з цыбуляй, і мяса, прыпраўленае памідорамі і перцам . На палудзень і вячэру ўжываюць і чырвонае хатняе віно . Абавязковы кампанент святочнага стала - квашаніна з галоў і ног жывёлы .

Традыцыйны гагаузскі абрад курбан ( вядомы з апісанняў сярэдзіны 19 ст.) спалучаўся з прыгатаваннем пшанічнай кашы ( бугур ) з ахвярным баранам,

а таксама культ ваўка, які яшчэ захаваўся , дазваляюць прасачыць этнакультурныя сувязі гагаузаў з аднаго боку з Балканскім светам, а з другога - з качавымі стэпавымі цывілізацыямі . У 1990 г. гагаузамі Малдовы і іншых рэспублік СССР была прынята дэкларацыя аб утварэнні Гагаузскай рэспублікі ў Малдове на тэрыторыі кампактнага пражывання гагаузаў ( цэнтр - Камрат ).

**З кнігі " Народы России ", М. , 1994**

**ГЛІНСКАЯ** Анастасія ( у замужжы Астрожская ), ( ? - да 1467 ), дачка князя Барыса Іванавіча, Сямёна Іванавіча, альбо Фёдара Іванавіча Глінскага, жонка князя Івана Васільевіча Астрожскага, маці князя Канстанціна Астрожскага . Была вернай спадарожніцай свайго мужа . Падзяляла яго адданасць праваслаўю і патрыятызм . Пасля перамогі Івана Астрожскага над крымскімі татарамі ў 1454 г. пад Цярабоўляй, калі з татарскага палону было выратавана 9 тысяч чалавек, у гонар гэтай падзеі збудавала манастыр у вёсцы Калодзежным ( да нашага часу не захаваўся ). Шмат у чым спрыяла станаўленню незаўраднай асобы свайго сына Канстанціна, які ў далейшым стаў славутым палкаводцам Вялікага Княства Літоўскага . Акрамя яго мела яшчэ сына Міхала і пяць дачок . Памерла рана, ненашмат перажыўшы мужа .

**І. Масляніцына**

**ДЗІДА** , старажытная колючая зброя ; род лёгкага кап'я або пікі з металічным наканечнікам, насаджаным на доўгае цаўё . Падобную паляўнічую прыладу называюць таксама дзідка, рагаціна . Паводле слоўніка Шыпавай слова д з і д а цюркскага паходжання .

**ЕДЗІГЕЙ** , І л і г у , І д з і к у ( 1352-1419 ), эмір Б е л а й А р д ы з племя мангыт . Да 1396 г. стаў самастойным правіцелем міжрэчча Волгі і Яіка ( Урала ) і з'явіўся заснавальнікам Н а г а й с к а й А р д ы , якая канчаткова аформілася пры яго сыне Нурадзіне ( правіў у 1426-40 гг. ). Едзігей пачаў разам з Ц і м у р - К у т л у к а м вайну з Т а х т а м ы ш а м . У 1397 г. Едзігей стаў главой ( эмірам ) залатаардынскага войска ; у 1399 г. разбіў на В о р с к л е войска Вітаўта Вялікага і Тахтамыша . Пасля смерці Цімур-Кутлука ў 1399 г. Едзігей фактычна стаў главой Залатой Арды, апошні раз аб'яднаў усе ўлусы Д ж у ч ы . У 1406 г. Едзігей забіў Тахтамыша, які атабарыўся у Заходняй Сібіры ; у 1407 г. арганізаваў паход на Булгар . У 1408 г. напаў на Русь, каб заставіць яе зноў плаціць даніну Залатой Ардзе, разбурыў шэраг гарадоў ( Серпухаў, Дзмітраў, Растоў, Пераслаў, Ніжні Ноўгарад і інш. ), аблажыў Маскву, але ўзяць не здолеў . У час смуты 1410-12 гг. Едзігей страціў уладу

ў ардзе і ўцёк у Харэзм, адкуль яго прагнаў герацкі хан Шахрух у 1414 годзе. Забіты каля гораду Сарайчык адным з сыноў Тахтамыша.

Пра Едзігея ў нагайцаў і іншых цюркскіх народаў складзены шматлікія легенды, якія сабраны і выдадзены ў Татарстане асобнай кнігай – "Ідзігей".

**ІБН СІНА** Абу Алі (латынізаванае Авіцэна (Avicenna); каля 980 г., у с. Афшана каля Бухары – 18.6.1037), філосаф, урач, прыродазнаўчык і паэт усходняга Сярэднявечча. Па паходжанні таджык. Пісаў на арабскай мове і фарсі (дары) – літаратурнай мове старажытных таджыкаў і персаў. Жыў у Бухары, Харэзме, Іране. Зрабіў вялікі ўплыў на развіццё арабамоўнай і еўрапейскай філасофскай і навуковай думкі. Найважнейшыя творы: "Медычны канон", "Кніга збавення" (ч. 1–18), "Кніга ведаў" (на мове фарсі). Філасофскія погляды вучонага спалучалі матэрыялістычныя тэндэнцыі з тэолагаідэалістычнымі палажэннямі. Апіраючыся на філасофію Арыстоцеля і развіваючы матэрыялістычныя яе ідэі, прызнаваў аб'ектыўнасць, вечнасць быцця, непарушную сувязь матэрыі і руху. Пры вывучэнні прыроды адстойваў прынцып адзінства мыслення і доследных ведаў, але адрываў розум ад матэрыяльнага субстрату, сцвярджаў існаванне свету ідэй незалежна ад свету рэчаў. Аўтар прац па логіцы. Стварыў арыгінальную класіфікацыю навук, выклаў агульныя тэорыі па медыцыне, анатоміі, фізіялогіі, хірургіі, дыягностыцы. Даследваў праблемы руху, інерцыі, паходжання жывёльнага свету. Філасофскія думкі выкладаў і ў паэтычнай форме (вялікая "Касыда аб душы" і інш.). Большасць вершаў на фарсі напісана ў форме рубаі. Паэзіі Ібн Сіны ўласцівыя афарыстычнасць, прастата. Аўтар філасофскіх аповесцей "Жывы, сын Неспакойнага", "Пасланне пра птушку" і інш. Напісаў каментарыі да "Паэтыкі" Арыстоцеля, тлумачэнне вершаў арабскага паэта Ібн ар-Фумі. Герой таджыкскага, турэцкага, узбекскага і туркменскага фальклору.

**ІБРАГІМ**, 14-я сура з Кур'ана. Складаецца з 53 аятаў. Назву атрымала ад імя Ібрагіма (у габрэйскай і хрысціянскай літаратуры ад Аўраама, Абрама). Сура мекканская, складаецца з серыі кароткіх знаменняў. Большасць з іх паходзіць з апошняга мекканскага перыяду. Аяты 39–43, якія з'яўляюцца малітвай Ібрагіма, у якой дзякуе ён Богу за тое, што даў Ісмаіла і Ісхака (Ізаака) – магчыма медынскаеператварэнне мекканскага матэрыялу; у Медыне прарок Мухаммед непасрэдна сутыкнуўся з габрэйскімі абшчынамі, што мусульманскай абшчыне прынесла шмат новых праблем.

Падобна як і ў папярэдняй суры (Аль-Рад) тут гаворыцца пра пасланнікаў, якіх Бог пасылаў да розных народаў каб ім нагадаць, што прарок Ісламу "вывядзе людзей з цемры да святла" (аяты 2–6). У апошнім аяце сцвярджаецца таксама, што ў Кур'ане ёсць пасланне, накіраванае да ўсіх людзей," каб ведалі яны, што толькі Ён ёсць адзіны Бог, і каб памяталі людзі, якія надзелены розумам!"

Ю. Бяляўскі

**КУКОЛЬ** ( Agrostemma ) , род аднагадовых травяністых раслін сямейства гваздзіковых . Паводле слоўніка Шыпавай слова к у к о л ь цюркскага паходжання . Вядомы 3 віды куколі , пашыраныя ў Еўразіі . На Беларусі расце куколь п а с я ў н ы ( A. githago ) . Трапляецца вельмі рэдка . Расце як пустазелле ў пасевах збожжавых культур, на папарах і чыгуначных насыпах . Цвіце ў чэрвені – ліпені . Народныя назвы зязюльчын лён, тугаль . Насенне ядавітае ( мае гліказід гітагін ), дамешак яго ў муцэ небяспечны для чалавека і жывёлы . Лекавая расліна ( мачагонны, адхарквальны, проціглісны і кроваспыняльны сродак ).

Мяккаваласістая расліна вышынёй 40–70 см. Сцябло вузлаватае, прамое, слабагалінастае . Лісце супраціўнае, лінейнае ці лінейна-ланцэтнае, вострае . Кветкі буйныя, 5-членныя адзіночныя, цёмна-ружовыя, часам белыя, з трубчастай з доўгімі зубцамі чашачкай . Плод – яйцападобная каробачка з 5 створкамі на верхавінцы . Насенне буйное, чорнае, вострабугрыстае .

**І. Мазан**

**ЛЕБЯДА** ( Chenopodium ), род адна- і шматгадовых травяністых раслін і паўкустоў сямейства лебядовых . Паводле слоўніка Шыпавай слова л е б я д а цюркскага паходжання . Вядома 250 відаў лебяды, пашыраных на зямным шары, на Беларусі 16 відаў дзікарослых і 2 віды інтрадукаваныя . Харчовыя, кармовыя, лекавыя, тэхнічныя, інсектыцыдныя і дэкаратыўныя расліны . Некаторыя віды ядавітыя .

Расліны голыя або пакрытыя мучністым налётам . Лісце чаргаванае, плоскае, часцей надрэзана-зубчастае . Кветкі двухполыя, без прыкветнікаў, 3-,5-, радзей 3-,4-членным зялёным калякветнікам, сабраны клубочкамі ў коласападобныя або мяцёлчатыя суквецці . Тычынак – 5 . Плады – арэшкі з тонкім, плеўкавым каляплоднікам . Насенне з цвёрдай, ломкай і бліскучай абалонкай . У некаторых відаў назіраецца гетэраспермія – утварэнне рознага ( па памерах, форме і фізіялагічных уласцівасцях ) насення на адной расліне .

Лебяда б е л а я ( Ch. album ). Маладыя парасткі спажываюцца ў ежу . Настой травы – процізапаленчы, абязбольваючы і заспакаяльны сродак .

Лебяда ш ы з а я ( Ch. glaucum ). Лебяда г і б р ы д н а я ( Ch. hibridum ), з пахам дурнап'яну . Выкарыстоўваецца ў народнай медыцыне ( сродак ад рожы і вонкавы абязбольны сродак ). Лебяда ш м а т н а с е н н а я ( Ch. polyspermum ) . Маладыя парасткі ядомыя . Выкарыстоўваецца ў народнай медыцыне ( сродак ад галаўнога болю ). Лебяда ч ы р в о н а я ( Ch. rubrum ). Маладая расліна ядомая . Лёгкі слабільны, змякчальны, абязбольвальны, процізапаленчы сродак . Лебяда г а р а д с к а я ( Ch. urbicum ). Маладое лісце спажываецца як салата . Лебяда д у х м я н а я ( Ch. botrus ) з прыемным пахам . Выкарыстоўваецца ў народнай медыцыне . Засушаныя расліны – сродак ад молі . Лебяда ш м а т л і с т а я , або ж м і н д а ( Ch. foliosum ). Кветкавыя клубочкі шарападобныя, у пазухах верхняга лісця, сакаўныя, салодкія, ядомыя,

багатыя на чырвонае фарбавальнае рэчыва . Лебяда д о б р а г а Г е н р ы х а ( Ch. bonus- henricus ). Лёгкі слабільны, процізапаленчы, проціглісны, антысептычны і абязбольвальны сродак . Рэдка на Беларусі трапляюцца Лебяда с ц е н н а я ( Ch. murale ), Лебяда Шрэдэра ( Ch. schraderaum ), Лебяда с м я р д з ю ч а я ( Ch. vylvaria ), Лебяда к л ё н а л і с т а я ( Ch. acerifolium ), Лебяда п о з н я я ( Ch. ficifolium ), Лебяда ш в е д с к а я ( Ch. suecicum), Лебяда б у р а к о в а я ( Ch. betaceum ).

**Дз. Траццякоў**

**НАВАІ** ( Алішэр Наваі ) Нізамаддзін Мір Алішэр ( 10.2.1441, г. Герат - 3.1. 1501 ), узбекскі паэт, мысліцель і дзяржаўны дзеяч . З сям'і чыноўніка. Яшчэ юнаком Наваі стаў вядомы як паэт . Пісаў на персідскай, стараузбекскай і таджыкскай мовах . Вучыўся ў Гераце, Мешхедзе і Самаркандзе . Быў вучнем і сябрам паэта А. Джамі . У 1469 г. стаў хавальнікам пячаткі ( мухардар ) пры султане Хусейне Байкары - школьным сябры паэта . У 1472 г. атрымаў тытул эміра і стаў везірам . Памагаў вучоным, паэтам, мастакам, каліграфам . На свае сродкі будаваў ірыгацыйныя сістэмы, масты, школы, майстэрні каліграфіі і пераплёту . Наваі быў вялікім гуманістам свайго часу, змагаўся супраць сярэднявяковага дэспатызму, схаластыкі , выкрываў багацеяў, хабарнікаў, крывадушнасць духавенства . Зазнаў ганенне прыдворных вяльможаў . У 1488 г. пакінуў службу і да канца жыцця займаўся навукай і літаратурай . Напісаў каля 30 зборнікаў вершаў, вялікіх паэм, празаічных твораў і навуковых трактатаў, у якіх усебакова раскрыў духоўнае жыццё Сярэдняй Азіі 15 ст. У 1498-99 гг. склаў збор ( каля 47 тыс. радкоў ) сваіх вершаў у 4-х зборніках ( " Дзівосы дзяцінства ", " Радасці юнацтва ", " Дзівосы сярэдніх гадоў ", " Карысныя парады старасці ") , куды ўвайшлі вершы розных літаратурных жанраў : газелі ( болей за 2600 ), касыды ( оды ), страфічныя і інш . У вершах Наваі філасофскі роздум, малюнкі прыроды, багаты гукапіс . Аснова лірыкі Наваі - думка пра чалавека як носьбіта дабрачыннасці або заганы . Вяршыня творчасці Наваі - " Пяцерыца " ( " Хамсе ") з пяці паэм : " Неспакой праведных " ( напісана ў 1483 г. ), " Лейлі і Мяджнун " ( напісана ў 1484 г. ), " Фархад і Шырын " ( напісана ў 1484 г. ), " Сем планет " ( напісана ў 1484 г. ) , " Іскандэраў мур " ( напісана ў 1485 г. ). Услаўленне навукі , разумнага кіраўніка дзяржавы, любоў да бацькаўшчыны, павага да чалавека працы, барацьба за справядлівасць і шчасце народа - асноўныя ідэі паэм . Аўтар кнігі " Пяцерыца ўзрушаных " ( напісана ў 1492 г. ), прысвечанай А. Джамі ; анталогіі " Збор вытанчаных " ( напісаны 1491-92 гг.), дзе даў характарыстыку 336 паэтаў 15 ст. , працы па тэорыі літаратуры " Вагі памераў " ( напісаны ў 1494 г. ), філасофскай алегарычнай паэмы " Мова птушак " ( напісана ў 1499 г. ), зборнік дыдактычных афарызмаў пра найлепшы лад чалавечага грамадства " Каханы сэрцаў " ( напісаны ў 1500 г. ). У трактаце " Спрэчка двюх моў " ( напісаны ў 1499 г. ) тэарэтычна абгрунтаваў культурнае значэнне стараузбекскай мовы ( цюркі ).

Наваі зрабіў вялікі ўплыў на развіццё не толькі узбекскай літаратуры, але і уйгурскай, туркменскай, азербайджанскай, турэцкай, татарскай і інш. літаратур. Газелі, урыўкі паэм Алішэра Навоі на беларускую мову пераклаў вядомы беларускі паэт Васіль Жуковіч.

**ПЛОЎ З БАРАНІНЫ**, татарская страва. Паводле слоўніка Шыпавай слова п л о ў цюркскага паходжання. Мяса мыюць, аддзяляюць ад касцей, наразаюць дробнымі кавалачкамі ( прадаўгаватымі або кубікамі велічынёй з лясны арэх ) абсмажваюць ў масле на патэльні, пакуль мяса не стане чырвона-жоўтага колеру. Кладуць на патэльню нарэзаную саломкай моркву і праз нейкі час нарэзаную паўкольцамі цыбулю. Усё гэта абсмажыць, пакласці ў кастрылю і наліць вады. Дадаць соль, перац, лаўровы ліст і заварыць. У атрыманы булён пакласці перабраны і прамыты рыс.

Булён павінен быць на 4-6 см вышэй за ўзровень рысу. Закрываюць каструлю накрыўкай і гатуюць на слабым агню. Плоў нельга перамешваць, бо рыс можа разварыцца і падгарэць. Калі ж булён выкіпіць, а рыс не дававарыўся, то трэба лыжкай ці качалкай пратыкнуць ў адным-двух месцах да дна каструлі і уліць кіпень ( варатак ). Накрыць каструлю і 20-25 хвілін варыць на слабым агню. Гатовы плоў, не мяшаючы, кладуць на вялікую талерку, падаюць на стол і кладуць кожнаму на асобную талерку. Норма прадуктаў на 5 чалавек: 2 шклянкі рысу, 0,7-1 кг тлустай бараніны, 200-250 г масла, 100-125 г цыбулі, 125-150 г морквы, 3-4 шклянкі булёну, перац, 2 лаўровыя лісткі.

**Ю. Ахметзянаў**

**ТАРПАН лясны**, д з і к і   л я с н ы   к о н ь ( Equus gemelini silvaticus ), млекакормячая жывёла атрада няпарнакапытных. Паводле слоўніка Шыпавай слова т а р п а н цюркскага паходжання. Мяркуюць, што тарпан лясны з'яўляецца продкам некаторых парод свойскіх коней. Вылучаюць два падвіды тарпанаў: стэпавы ( насяляў стэпы і лесастэпы Еўропы; поўнасцю знішчаны ў 18-19 ст. ) і ўласна лясны, які насяляў тэрыторыю Германіі, Польшчы, Літвы, Беларусі, меў меншыя памеры. На Беларусі тарпан лясны вядомы як аб'ект палявання і адлову з часоў неаліту. Быў пашыраны па ўсей тэрыторыі, але ўжо ў 16-17 ст. статкі тарпанаў лясных засталіся толькі ў глухіх лясных масівах, пераважна на захадзе Беларусі ( апошнія асобіны дажылі да пачатку 19 ст.; у 1808 г. жывёлы з Белавежскай пушчы былі раздадзены мясцовым сялянам ). Работа па ўзнаўленню тарпанаў лясных пачата ў 1930-я гады ў Польшчы; у Беларусі вядзецца з 1962 г. ў Белавежскай пушчы, куды завезлі 5 тарпанападобных коней з Польшчы. Вышыня ў карку да 137 см., склад цела дужы, масць шэрая ( мышыная ) з чорнай палосай ўздоўж спіны, грыва і хвост чорныя.

**А. Курскоў**

**" ТАТАРСКІ ТАНЕЦ "** , так даўней палякі называлі баявы татарскі строй . Карысталася гэтым прыёмам і армія сярэднеазіяцкага палкаводца Цімура ( Цімурленга ). Перад боем войска строілася ў выглядзе лука, павернутага да непрыяцеля ўвагнутым бокам . Пасля гарцавання ( зачэпнага бою, які мог адбывацца з паядынку паміж прадстаўнікамі непрыяцельскіх армій ) уключаліся ў бой асноўныя сілы . Бой пачыналі коннікі , якія асыпалі непрыяцеля хмарамі стрэл, лавінай кідаліся на рады ( шарэнгі ) пяхоты ці конніцы праціўніка, а пасля, як бы зляканыя стойкасцю сваіх праціўнікаў, пачыналі панічнае адступленне . Уцягнуўшы сваіх праціўнікаў у праследаванне , у гэты час флангі конніцы татараў ахоплівалі, акружалі свайго непрыяцеля і пачыналі бітву з акружаным войскам . Вядомы шматлікія выпадкі , калі ўяўнае адступленне татараў пачынаў адзін з флангаў у той час, як другі фланг пачынаў акружэнне войска праціўніка .

Уяўнае адступленне цэнтральнай часткі войска, каб пасля перайсці ў наступ флангамі і акружыць войска праціўніка, вядома яшчэ задоўга да новай эры, напрыклад, бітва ў час Другой Пунічнай вайны ў 216 г. да новай эры каля паселішча Каны ў Паўднёва-Усходняй Італіі , калі войска Ганібала разбіла пасля акружэння ўдвая большую па колькасці армію Рыма . У 1242 г. войска Аляксандра Неўскага прымяніла прыём уяўнага адступлення цэнтра і ахопам з флангаў " кліна " ( " свінні " ) нямецкіх рыцараў і разграміла іх . " Татарскі танец " быў выкарыстаны ў 1399 г. ў бітве на Ворскле войскам Залатой Арды пад камандаваннем хана Цімур-Кутлука і цемніка Едзігея супроць войска Вітаўта . Вядомы шматлікія выпадкі , калі " Татарскі танец " не даваў чакаемых вынікаў . Ваенная псіхалогія тлумачыць, чаму ўяўнае адступленне праціўніка ўсё ж часта прыводзіць да трагічных вынікаў натхнёнага і ўпэўненага ў перамозе войска .

**ТУЛМА** , галубцы, татарская страва . Бяруць рыхлы качан капусты, каб лісты лёгка разлучаліся . Цвёрдыя часцінкі буйных лістоў зразаюць . Апусціць гэтыя лісты ў падсолены кіпень ( варатак ) на 3-4 хвіліны, затым акінуць на сіта ( рэшата ). Тлустую бараніну ці цяляціну з цыбуляй прапускаюць праз мясарубку . Затым дадаюць соль і перац і перамешваюць . Да мяса дадаюць вараны рыс, затым перамешваюць . На ахалоджаныя лісты капусты кладуць мяса з рысам загортваюць, надаючы галубцу прадаўгаватую форму . Затым галубец макаюць у сырыя яйкі ці шмаруюць сырым яйком . Галубцы злёгку падсмажваюць на гарачай патэльні . Затым кладуць ў неглыбокую пасуду ( у каструлю, вялікую патэльню ), затым заліваюць спецыяльна прыгатаваным булёнам, кладуць лаўровы ліст і ставяць тушыць ў печ ці духоўку на 30-40 хвілін .

Булён рыхтуецца так : распушчаюць масла, кладуць нарэзаную цыбулю, моркву, памідоры або тамат-пюрэ і ставяць на агонь, праз нейкі час дадаюць загадзя прыгатаваны булён, ваду, соль, перац і смятану і гатуюць 10-15 хвілін . Гатовыя галубцы падаюць па пары ў талерцы .

Норма прадуктаў на 5 чалавек : 1 кг капусты, 0,7 кг мяса, 125 г рысу, 100 г цыбулі, 50 г распушчанага масла, 100 г смятаны, 1 шклянка булёну, 1 яйка, 50 г морквы, 1 лаўровы лісток і перац.

**Ю. Ахметзянаў**

**ХАМЗА** Хакім-Задэ ( псеўданім Ніязі ; 6.3. 1889, г. Каканд - 18.3. 1926 ), узбекскі паэт, тэатральны дзеяч, кампазітар і акцёр. Заснавальнік узбекскай савецкай літаратуры, нацыянальнай драматургіі і тэатра. Народны паэт Узбекскай ССР ( 1926 г. ). Член КПСС з 1920 г. З сям'і лекара. У 1915 г. арганізаваў у Какандзе паўпрафесійную тэатральную трупу. Стварыў у Фергане ( 1917 г.) першы узбекскі савецкі тэатр, з якім выступаў на франтах грамадзянскай вайны. Радасна вітаў Кастрычніцкую рэвалюцыю. Друкаваўся з 1914 г. Аўтар зборніка вершаў " Чырвоная кветка " ( 1916 г. ), " Ружовая кветка " ( 1916 г. ). У п'есе " Атручанае жыццё " ( 1916 г. ) заклікаў да асветы, выкрываў цемнату баяў. Шлях узбекскіх працоўных да рэвалюцыі паказаў у драме " Бай і парабак " ( напісана ў 1918 г., апублікавана ў 1949 г. ). У камедыі " Хітрыкі Майсары " ( пастаўлена ў 1926 г., апублікавана ў 1939 г. ) рэзка высмейвае духавенства, у бытавой драме " Таямніца паранджы " ( напісана ў 1927 г. ) заганы байска-феадальнага ладу - залежнасць дзяўчыны ад волі жорсткіх бацькоў. Актуальнасць праблематыкі, вострая канфліктнасць, дынамічнасць стылю - рысы драматургіі Хамзы. Вывучаў і збіраў узбекскі фальклор, удасканальваў нацыянальныя музычныя інструменты. Аўтар многіх песен ( словы і музыка ). Іменем Хамзы названы Узбекскі акадэмічны тэатр.

**Бел. СЭ, т. 11.**

**ЮСУФ**, 12-я сура з Кур'ана. Складаецца з 112 аятаў. Назва ад імя Юсуф ( Іосіф ), якое ўпамінаецца ў пятым аяце, апавядаецца аб Юсуфе ў змесце ўсей суры. Гэта адна з познамекканскіх сур. Складаецца з аповесці аб Юсуфе, сыне Йакуба ( Якуба ). У Бібліі, у першай кнізе Мусы ( Майсея ) - Быццё, главах 37, 39 да 46 расказана пра жыццё Іосіфа, сына Ізраіля ( Якуба ), а таксама ў габрэйскай рабіністычнай літаратуры, познагабрэйскай апакрыфічнай легендзе. Увесь гэты матэрыял быў яшчэ перапрацаваны ў вуснай творчасці. Юсуф з'яўляецца сімвалам справядлівага чалавека, які меў схільнасці да граху і не стрымаўся на крыўднае слова, змог стрымаць сябе, пайсці па " дарозе Бога " і прабачыць крыўды, якую яму ўчынялі.

**Ю. Бялыўскі**

**ЯКШЫЧ ГАННА**, у замужжы Глінская ( ? – пасля 1547 г. ), прадстаўніца беларускай шляхты татарскага паходжання . Жонка князя Васілія Львовіча Глінскага, маці князёў Юрыя, Івана, Міхала Глінскіх, а таксама Вялікай княгіні Маскоўскай Алены Глінскай і яе сёстраў Настассі , Марыі , бабка Івана IV Грознага. У 1507 г. пасля гэтак званага мяцяжу Глінскіх выехала з мужам і ўсей сям'ёй з Вялікага княства Літоўскага ў Вялікае княства Маскоўскае . Пасялілася ў Медыні , падоранай Глінскім Васіліём III . Да 1522 г. аўдавела . Пераехала з дзецьмі ў Маскву . У 1526 г. выдала замуж за Васілія III сваю дачку Алену, што садзейнічала хуткаму ўзвышэнню ўсей сям'і . З 1533 г., пасля смерці Вялікага князя Маскоўскага і аб'яўлення Алены Глінскай рэгенткай пры малалетнім Іване IV , знаходзілася пры княжаскім двары . У 1538 г. страціла сваю каранаваную дачку, памершую ад невядомай хваробы . Разам з сынамі Міхалам і Юрыем імкнулася не толькі ўтрымаць сваё высокае становішча, але і дабрацца да ўлады . Жорстка распраўлялася з палітычнымі супраціўнікамі . Дзейнічала ад імя юнага Вялікага князя . Была адной з ініцыятарак каранацыі Івана IV шапкай Манамаха і прыняцця ім 16 студзеня 1547 г. царскага тытула . Пасля гэтай акцыі стала аказваць на Івана IV яшчэ большы ўплыў . Атрымала ад яго ў дар велізарныя зямельныя ўладанкі на правах удзельнага княства . Разам з сынамі Міхалам і Юрыем, адцясніўшы цара на другі план, займалася справамі вялікай палітыкі .

На думку расійскіх даследчыкаў , улада Глінскіх рабіла становішча ў краіне больш складаным, бо " яны рабавалі казну і абкладалі гараджан цяжкімі грашовымі паборамі ".

Летам 1547 г., калі ў Маскве ад засухі пачаліся пажары, адбыўся мяцеж гараджан супраць Глінскіх ( 26 чэрвеня 1547 г. ), Ганну Якшыч абвінавацілі ў чарадзействе, якое, быццам бы, стала прычынай пажараў . Пад час мяцяжу быў забіты сын Ганны Юрый і разрабаваны яе двор у Маскве . 29 чэрвеня 1547 г. натоўп рушыў да сяла Вараб'ёва, дзе, спыніўшыся перад царскім палацам, патрабаваў выдачы Ганны Якшыч і яе сына князя Міхала, якія, быццам бы, хаваліся ў царскіх палатах . Рашучымі мерамі Івану IV удалася падавіць мяцеж . Але Глінскія былі адхілены ад улады . Падрабязнасці апошніх гадоў жыцця Ганны Якшыч невядомы .

**І . Масляніцына**

# У НАС ПЫТАЮЦЬ , З НАМІ РАЯЦЦА , НАМ ДАЮЦЬ ПАРАДЫ

**Равіль** з Менска просіць патлумачыць, чаму ў рускай літаратуры, калі ідзе гаворка пра мусульманскую веру, мусульманскіх святароў, ужываюцца словы, адметныя ад тых, якімі карыстаюцца аўтары артыкулаў у " Байраме ". Напрыклад, па-руску **муфтий**, а ў нашым часопісе **муфтэй** , адпаведна **муэдзін** - **мязім**, **Рамадан** - **Рамазан** , **шайх** - **шэйх** і г. д.

**Адказ**. Сапраўды, такая розніца ёсць . Мы друкуем гэтыя словы не так, як іншыя, бо ў нас ужо 500 гадоў існуе такая традыцыя . Прадугледжана, што асноўная інфармацыя будзе змешчана ў артыкулах пад нашай традыцыйнай назвай, але будуць кароткія звесткі і пра іншыя назвы тых жа паняццяў . У наступным " Байраме " , у раздзеле " Пробныя артыкулы з энцыклапедычнага даведніка " Татары Беларусі , Літвы і Польшчы " будзе больш наглядна аб гэтым растлумачана . Дзякуй вам, Равіль, за слушнае пытанне .

**Хасень** з Навагрудка, шафёр, пытае : " Ці можна здаваць экзамен па татаразнаўству, калі не на ўсе пытанні можам адказаць ? Я бяру прыклад са сваей шафёрскай практыкі . На першы клас я, відаць, ніколі не змагу здаць і шафёрам першага класа не стану . За гэта мяне ніхто не папракне, хіба што жонка ў благім гуморы можа зачапіць . Калі ж я буду старацца, каб на першы клас выцягнуці экзамен па татаразнаўству, то можа ніколі і не падрыхтуюся . Дык можа можна здаваць іспыты хоць на " траячок "?"

**Адказ**. Думаем, што Хасень мае рацыю . Можа толькі варта назваць тыя нумары пытанняў, якія надрукаваны ў " Байраме " № 3 за 1995 год, найбольш складаныя для чалавека . У наступных нумарах " Байрама " мы надрукуем кароткую, але самую неабходную інфармацыю па гэтых пытаннях .

**Франя Пружынская** з Менска пытае аб тым, ці праўда, што татары ведаюць нейкія сакрэты, нейкія словы, каб гуркі , цыбуля і морква раслі ў агародзе смачныя і вялікія . Жыве Франя на месцы былых татарскіх агародаў, ды і бабуля яе памятала, як ахвотна куплялі яе бацькі татарскую гародніну .

**Адказ**. Праўда, сакрэт быў і ёсць ў тых, хто яго яшчэ не страціў . Вясною і ўлетку трэба прачнуцца з узыходам сонца, сказаць " Бісмі Аллагі ар-Рагмані ар-Рагім ", памыцца, памаліцца, папрацаваць ў агародзе, прыгатаваць страву для сям'і , пад'есці як з мёдам, зноў папрацаваць ў агародзе, затым памыцца, памаліцца, паесці і да заходу сонейка працаваць ў агародзе, затым памыцца і памаліцца, пакарміць хатніх, падрыхтавацца да наступнага дня, памаліцца ноччу і спаць да ўзыходу сонейка . Думаю, што хрысціянкі павінны чытаць свае малітвы-пацяры, а ўсё астатняе - як і татаркі-агародніцы . А ці будзе добры ураджай, дык гэта залежыць ад Бога . Толькі без працы можа вырасці багаты " ўраджай " пустазелля .

Татарка з Рэчыцы - **Алсу** піша нам : " Родам я з Татарстана . Замужам за рускім, з якім пазнаёмілася даўно, калі ён быў курсантам у афіцэрскім вучылішчы ў Казані . Жыць прыйшлося ў розных, як кажуць, кропках . Дачка і сын сяк-так ведалі татарскую мову, але цяпер яны жывуць далёка ад нас . Мой хворы муж і суседка заўважылі , што я гавару сама з сабою, гавару на татарскай мове . Знаёмы мужа казаў, што па радыё ён чуў перадачу, як яму здаецца, на татарскай мове . Вельмі прашу вас паведаміць мне, на якой частаце і калі я магу пачуць мілую мне мову .

У рэдакцыі " Байрама " пакуль што няма такіх звестак . Калі хто з казанскіх татар хоча дапамагчы сваей землячцы, то прышліце нам ліст на адрас " Байрама " , а мы паведамім для Алсу-ханум і іншым татарам .

**Амурат** з Ляхаўшчыны пытае : " Ці праўда, што Рыгор Барадулін напісаў верш пра беларускіх татараў ? Ці можна купіць часопіс ці кнігу з гэтым вершам ?"

**Адказ**. У 1995 годзе ў выдавецтве " Мастацкая літаратура " выйшла прыгожа афармленая кніга паэзіі народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна. Назва " Евангелле ад мамы ". Як заўсёды і ў гэтай кнізе паэта спалучаюцца мудрасць і хараство . На 126 старонцы надрукаваны верш " Беларускія татары ". Можа яшчэ дзе-небудзь гэтая кніжка ёсць ў продажы, спяшайцеся купіць . Калі ўжо няма, то пачытайце гэты верш ( як і іншыя ) у бібліятэцы . Упэўнены, што многае з гэтага зборніка вы захочаце вывучыць на памяць, у тым ліку і верш пра татараў . Апошнія радкі гэтага верша трэба прыняць для кіраўніцтва :

**Множцеся і пладзіцеся ,**
**Вы нашыя .**
**Салям алейкум !**

**Адам Шчансновіч** з Гродзеншчыны раіць : " Давялося працаваць ў Акадэмічнай бібліятэцы, у аддзеле рэдкай кнігі . Пакуль мне падбіралі патрэбныя кнігі, я цікавіўся выстаўленымі на паліцах старыннымі выданнямі . Мяне зацікавіла шматтомнае выданне на польскай мове - " Касцельная энцыклапедыя ". Вельмі здзівіўся, што там надрукаваны даволі вялікія даведкі пра розныя веравызнанні у тым ліку пра габрэйскае і мусульманскае . Вось тут я і падумаў, а можа і ў нашай энцыклапедыі трэба надрукаваць артыкулы пра габрэйскую і хрысціянскую веру, бо наўрад ці можа наш татарын-мусульманін купіць кнігі па хрысціянскай і габрэйскай веры, каб з суседзямі- іншаверцамі паводзіць сябе талерантна - спакойна, зычліва, павіншаваць іх са святам і пажадаць іх сем'ям дабрабыту і шчасця ".

**Адказ**. Абяцаем параіцца з нашымі знаўцамі мусульманскай веры, а артыкулы, калі вырашым друкаваць, папросім напісаць хрысціянскіх і габрэйскіх святароў

## УСХОДАЗНАВЕЦ З ВАЎКАВЫСКАГА ПАВЕТА

**( знаходка Алеся Баркоўскага )**

Рыла Максіміліян Станіслаў нарадзіўся 31.12.1802 г. ў Падароску ў сям'і збяднелага шляхціца . Спачатку вучыўся ў Лыскаве, у школе Ваўкавыскага павета, затым у Полацку ў Езуіцкай акадэміі , якую скончыў са ступенню магістра філасофіі . Медыцыну вывучаў у Вільні , філасофію - у Рымскім калегіуме . 29.12.1833 г. стаў святаром . Зацікавіўся Блізкім Усходам, вывучыў арабскую мову . У 1836 г. быў у Ліване, як візітатар рымскага папы Рыгора XVI у Іерусаліме сустракаўся з Юльюшам Славацкім . У 1837 г. ў турэцкай і курдскай вопратцы здзейсніў падарожжа ў Дамаск, дасягнуў рэк Еўфрат і Тыгр . Там праводзіў археалагічныя даследаванні , а знойдзеныя экспанаты перадаў у Ватыкан . У 1839 г. быў у Бейруце . У 1848 г. , як знаўцу арабскай мовы, яго накіравалі ў Судан для заснавання місіі . У Хартуме ён набыў пляц ( участак зямлі ), але 17.6. 1848 г. памёр . У 1900 г. перапахаваны ў Каіры .

**Польскі бібліяграфічны слоўнік.**
**Т. 33, 1991-1992 .**

---

# СІЛА ЯК АРГУМЕНТ

Можа быць небяспечным нават паранены, загнаны ў кут заяц . Што ўжо казаць пра ваяўнічы народ, які рашыўся ўступіць ў няроўную схватку, адстаяць свае права на самавызначэнне ?

Сіла, якой аддалі загад забіваць, супакойвае свае сумленне тым, што чачэнскія баевікі - усяго толькі бандыты . Штосьці падобнае мы ўжо чулі , калі ішла афганская вайна ( праўда , вайной яе тады не называлі ). І пакуль расійскія інтэлектуалы дзеляць парламенцкія партфелі , бравы вояка ў спартыўнай шапачцы заяўляе з Першамайскага : " Работаем всеми видами оружия ".

Зброя заўсёды была іх самым пераканаўчым аргументам - і ва ўнутраных справах, і ў знешніх . Яшчэ з Венгрыі і Чэхаславакіі . З Вільнюса . Навошта перамовы, уступкі і кампрамісы, калі ёсць ўзброены спецыяльна падрыхтаваны кантынгент ? Калі механізм падаўлення даўно адладжаны і ў добрым рабочым стане ? Калі так званая сусветная супольнасць, здольная падняць лямант з-за аднаго арыштаванага псіхадысідэнта, будзе толькі паціскаць плячыма і спасылацца на недахоп інфармацыі пры тым што знішчаецца цэлы народ ?

Ну а як жа : дыпламатыя.... Унутраная справа.... Дзяржава, якая не пакінула звычкі навязваць народам сваю сістэму каштоўнасцей і свой лад мыслення, зноў і зноў дэманструе свету сваю пагрозлівую сутнасць . " Вот мы какие . С нами шутки плохи..."

Не забудзьце : яны расстрэльвалі з танкаў уласны парламент . Яны зраўняюць горад з зямлёй, а потым кінуць мільярды на яго аднаўленне . Яны пакладуць сваіх сыноў, а тым, што ўцалелі , начэпяць ўзнагароды . Яны ніводнага разу ў афіцыйных навінах не сказалі пра палітычныя патрабаванні тэрарыстаў, затое паспяшаліся раструбіць пра расстрэл дагестанскіх старэйшын, што малаверагодна

Што на гэты раз у эпіцэнтр супроцьстаяння трапіў Дагестан - невыпадкова. Дагестан як верны васал аб'ектыўна стаіць на шляху вызваленчай барацьбы суседзяў-чачэнцаў . Там, вядома ж, таксама розныя настроі і рознае стаўленне да падзей . Адзіная інфармацыя, што прабілася да нас праз фільтры цэнзуры - гэта просьба дагестанскага ўрада прапусціць баевікоў разам з заложнікамі ў Чачню . Але і гэта зроблена не было . Вельмі ж яно спакуслівa - зацісннуць ў вогненнае кола і ляснуць ўсю чачэнскую вайсковую эліту, якая так неабачліва " падставілася ". " Супольнасць ", як заўсёды, прамаўчыць або памахае пальчыкам на антыгуманную з'яву тэрарызму . Дэмакраты абзавуцца, калі вызначацца з пасадамі . Праваслаўная царква з пачуццём выканага абавязку адслужыць паніхіду па " невинно убиенных ". Марыянетачны кіраўнік Чачні каторы раз нешта скажа перад камерамі . Праз тыдзень-другі ўсе зробяць выгляд, што нічога страшнага не адбылося ...

Мабыць, зяць Дудаева разлічваў на цуд, калі вырашыў паўтарыць будзёнаўскі фокус з заложнікамі . Цуду не атрымалася, толькі кроў і бяда . Чужыя жыцці - занадта вялікі козыр, каб яго можна было выкладваць раз за разам . Тым болей, калі маеш справу з грубай, самаздаволенай сілай і маральным выраджэннем .

Адно ў казках чужую бяду разводзяць рукамі . Санкцыянаваная Масквой бойня ў Першамайскім - кашмар нават для староніх назіральнікаў, якімі мы, здавалася б , павінны сябе адчуваць . А хто зазірне ў сэрцы мацярок-чачэнак ? Што робіцца ў душах людзей, якія для адных - барацьбіты за свабоду, а для другіх - проста злачынцы ? Я сказала б , што гэта змагары за свабоду, якіх абставіны вымушаюць станавіцца злачынцамі . Гэтыя абставіны - палітыка і тактыка расійскіх уладаў . Абвал тэрактаў яны выклікалі самі - што б пасля ні гаварылі і чым бы ні апраўдваліся . А што яны знойдуць апраўданні - можна не сумнявацца...

**Галіна Каржанеўская**

**З газеты " Літаратура і мастацтва "**

# " РУСКІ КАШМАР " ВАЧЫМА БРЫТАНСКАГА ЖУРНАЛІСТА

**Пра тое, што адбываецца ў Чачні , большасць беларусаў даведваецца з расійскіх інфармацыйных крыніц . Звычайна ў праграме навін яны абмяжоўваюцца пералікам стратаў з абодвух бакоў і выказваннямі , " як федэральныя войскі наводзяць у рэспубліцы парадак ". Што ж сапраўды там адбываецца ?**

Нядаўна я праглядаў англійскі тэлеканал BBC і мне пашэнціла паглядзець перадачу, дзе брытанскі журналіст Ангус Роксбург паказвае і распавядае пра тое, што ён бачыў у Чачні . " Russian Nightmare " ( Рускі кашмар " - так называецца фільм ) пабудаваны на рэальных фактах і сведчаннях людзей, з якімі непасрэдна размаўляў журналіст .

Размова пачынаецца з чачэнцам, які спрабаваў супрацоўнічаць з рускімі ўладамі . Як вядома, сталіца Чачні Грозны кантралюецца федэральнымі войскамі , але што гэта за кантроль, становіцца ясна пасля . " Уначы Грозны , відаць, адзін з самых небяспечных гарадоў у свеце , - кажа суразмоўца . - Але не столькі шкоды прыносяць снайперы-дудаеўцы, як рускія вайскоўцы . Яны напіваюцца і пачынаюць страляніну, часта паміж сабою . Над імі няма ніякага кантролю . Як пасля гэтага можна ім давяраць ".

Сапраўды, пасля таго, што зрабіла рускае войска з Грозным, нават мясцовае рускае насельніцтва варожа ставіцца да " вызваліцеляў ". У тых, хто застаўся ў жывых, да канца дзён застанецца ў памяці бамбардзіроўка рускай авіяцыяй Грознага ў снежні 1994 г. Гісторыкі лічаць, што гэта была самая жахлівая бамбардзіроўка пасля Другой сусветнай вайны . У выніку " устанаўлення канстытуцыйнага парадку " горад застаўся ўшчэнт разбураны, а руіны будынкаў жыхары называюць " рускай гуманітарнай дапамогай ".

Я не бяруся апісваць стан маці- чачэнкі , якая расказвала брытанскаму журналісту пра тое, як падчас бамбардзіроўкі бомба патрапіла ў яе дом, забіўшы шасьцёх дзяцей . Двое засталіся жывымі - адна дзяўчынка параненая асколкам у пазванок, другая - у пах і ніжнюю частку жывата .

Ангус Роксбург сустракаўся таксама з хлопчыкам Жэнем, на вачах якога год таму забілі ягонага дзядулю . " Мы ішлі па вуліцы, - кажа ён, - калі раптам наляцелі самалёты . Дзядуля супакойваў мяне, што яны не будуць бамбіць, але пачалі падаць бомбы ". Хлопчык паспеў адбегчы і схавацца, а дзеда на месцы забіла асколкам . Для Жэні гэта была вялікая псіхалагічная траўма. Брытанскі журналіст перабірае ў руках асколкі ад розных снарадаў, а Жэня тлумачыць яму, з якой гарматы яны былі пушчаныя і што яшчэ са зброі можна

знайсці на вуліцы .

Вельмі здзівіла аўтара і геаграфія бомбавых удараў . Перад аб'ектывам праплываюць шыкоўныя асабнякі некаторых прамаскоўскіх уплывовых асобаў . Будаўнікі , якія працуюць ў рамках праграмы па аднаўленні Грознага, ужо каторы дзень не працуюць з-за таго, што няма сродкаў і матэрыялаў на дом для ветэранаў . У той жа час яны паказалі на дом міністра будаўніцтва Чачні . Гледзячы на яго катэдж, застаецца толькі парадавацца за міністра . Але, каб паказаць, што дзяржава рупіцца і пра просты люд, яна выдала Таіце Абубакаравай , жыхарцы Грознага, за ўшчэнт разбураны дом аж 1.000.000 рублёў .

Нельга казаць, што гэта вайна - вайна паміж рускім і чачэнскім народамі . З простага насельніцтва гіне столькі ж чачэнцаў, колькі і рускіх . Рускія жанчыны, якія сабраліся вакол журналіста, гаварылі , што ніхто нікога не прыніжаў і не крыўдзіў - і рускія, і чачэнцы жылі як добрыя суседзі . Але пасля ўводу " акупацыйных войскаў ( так яны называлі федэральныя войскі ) адносіны паміж нацыянальнасцямі моцна ўскладніліся .

Вайна - гэта смерць, для якой няма розніцы, якой ты нацыянальнасці . Камера аператара паказвае могілкі : чачэнскія побач з рускімі . У асобных месцах ляжаць кучы непахаваных целаў . Палова з іх ужо разлажыліся . Пахаваць іх належным чынам няма магчымасці - адсутнічаюць сродкі , а родныя не могуць ідэнтыфікаваць целы, бо яны да непазнавальнасці пашкоджаныя . Для таго, каб людзі маглі знайсці парэшткі сваіх блізкіх, створана спецыяльная недзяржаўная група . Яе ўзначальвае Хусейн Хамідаў . Ён пачаў сваю дзейнасць, калі з дому выйшлі два яго сыны і больш не вярнуліся . Праз некалькі дзён ён выцягнуў іх трупы з ямы, дзе былі зваленыя мёртвыя . Пасля ён знайшоў яшчэ 66 такіх ямаў, дзе знаходзілася каля 800 целаў . На многіх з іх былі сляды катаванняў . Хамідаў паказаў труп жанчыны з адрэзанай галавой, вочы і рот былі заклееныя пластырам .

Як " кантралюецца " Грозны рускімі войскамі , шмат яшчэ змогуць расказаць канцэнтрацыйныя лагеры ( " фільтрацыйныя пункты ", як называюць іх расійскія ўлады і, у прыватнасці , спадар Лобаў, афіцыйны прадстаўнік Масквы ў Чачні , які адобрыў існаванне такіх цэнтраў ). У такім месцы чалавек можа прабыць каля месяца без усялякіх абвінавачванняў толькі за тое, што ён чачэнскай нацыянальнасці . Брытанскага журналіста не пусцілі ўнутр лагера, але ён знайшоў чалавека, які пабываў у " фільтрацыйным пункце ". " За кожным замацаваны свой кат, а у кожнага ката - свой спосаб катавання, - гаворыць Ібрагім . - Напрыклад, майму пяросы . Мне паміж пальцаў на руцэ ўстаўлялі алоўкі ці што-небудзь падобнага кшталту і потым сціскалі рукі ... Потым яны білі мяне токам, аблівалі халоднай вадой і пачыналі ўсё спачатку . Яны ў мяне нават нічога не пыталіся - усё рабілі толькі дзеля катавання ".

Давялося Ангусу Роксбургу сустрэцца і з Джахарам Дудаевым, які заявіў, што будзе весці вайну да канца і плануе " перакінуць баявыя дзеянні на тэрыторыю ворага ( Расіі )" . " У нас ёсць неабходныя людзі і сродкі ", - заявіў

Доку Махаеў, адзін з рэгіянальных камандзіраў .

Хто ж тыя людзі , што сталі на бок Дудаева ? Сярод іх шмат простых людзей, якія раней былі настаўнікамі , бухгалтарамі , дактарамі . Мяркуючы па размовах з імі , нельга сказаць, што гэта задураныя нейкімі дзядзькамі небаракі кожны з іх бачыць Чачню вольнай і незалежнай . Разыта Разаналіева , лектар універсітэта, сказала брытанскаму журналісту ( дарэчы, па-англійску ), што " мы ніколі не зможам жыць з рускімі разам . Занадта розныя мы нацыі ".

Фільм заканчваецца кадрам, дзе над высокім будынкам лунае чачэнскі нацыянальны сцяг, на якім выявы месяца і ваўка, а над імі - бел-чырвона-белая паласа . Як растлумачыла Разыта Разаналіева, гэты сцяг гаворыць, што на чачэнцаў заўсёды ідзе паляванне, як на ваўкоў, але перамагчы іх немагчыма .

**Дзмітрый Дарохін**

**З газеты " Свабода ".**

# ЗМЕСТ